**С. В. Асабіна**

# Фразеалогія ў творах Міхася Лынькова

***функцыянальна-стылістычны аспект***

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

**С. В. Асабіна**

# Фразеалогія ў творах Міхася Лынькова

***функцыянальна-стылістычны аспект***

Гродна 2011

УДК
ББК
А

Рэцэнзенты: доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры беларускай мовы УА «Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А.А. Куляшова» *В.І. Рагаўцоў*;

доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства УА «Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы» *М.А. Даніловіч*.

Навуковы рэдактар: доктар філалагічных навук, прафесар І.Я. Лепешаў.

Рэкамендавана Саветам педадагічнага факультэта ГрДУ імя Янкі Купалы

**Асабіна, С.В.**

Фразеалогія ў творах Міхася Лынькова: функцыянальна-стылістычны аспект / С.В. Асабіна; пад рэд. праф. І.Я. Лепешава. – Гродна: ГрДУ, 2011. – 167 с.

Даследуецца фразеалогія ў творах народнага пісьменніка Беларусі Міхася Лынькова з боку мэтавага прызначэння ў тэкстах, спосабаў і прыёмаў стылістычнага выкарыстання фразеалагізмаў, выяўляецца ўклад пісьменніка ў развіццё фразеалагічнага складу літаратурнай мовы, робіцца размежаванне стылістычна абумоўленых і нематываваных адхіленняў ад фразеалагічнай нормы.

# ПРАДМОВА

Усе тлумачальныя слоўнікі літаратурнай мовы, як і слоўнікі сінонімаў, амонімаў і многія іншыя даведнікі, звычайна будуюцца на фактычным матэрыяле з мовы твораў буйнейшых пісьменнікаў. Гэты ж матэрыял з'яўляецца асноўнай крыніцай, з якой лінгвісты чэрпаюць звесткі пра літаратурную мову. Вывучэнне мовы таленавітых майстроў слова, як пісаў акадэмік В.У. Вінаградаў, «вядзе да паглыбленага разумення «духу народа», да разумення агульных заканамернасцей развіцця літаратуры і нацыянальнай мовы» [43, с. 6].

Мова мастацкай літаратуры «выступае заканадаўцам літаратурных нормаў, якія затым становяцца абавязковымі для ўсіх стыляў мовы. На ўзоры, назапашаныя мастацкім маўленнем, арыентуюцца ўсе іншыя стылі» [72, с. 80]. Таму, як слушна зазначыў Л.М. Шакун, «зусім правамерна сцвярджаць пра выключна важнае грамадскае значэнне мовы мастацкай літаратуры, а адсюль – і пра яе вялікую ролю ў развіцці выяўленчых сродкаў беларускай літаратурнай мовы: найперш праз знаёмства з мовай мастацкай літаратуры ствараецца ўяўленне пра беларускую літаратурную мову наогул» [104, с. 12].

У беларускім мовазнаўстве мова мастацкай літаратуры наогул і мова асобных пісьменнікаў, асабліва класікаў, вывучана, даследавана значна менш, чым іншыя праблемы лінгвістыкі.

Амаль зусім не даследавалася мова Міхася Лынькова – аднаго з класікаў беларускай літаратуры сярэдзіны XX ст., народнага пісьменніка Беларусі, акадэміка, выдатнага майстра слова, аўтара многіх раманаў, аповесцей, апавяданняў, публіцыстычных артыкулаў. Яго «Поўны збор твораў» [83] складае 8 тамоў – па 600–700 старонак у кожным томе. «Шмат напісана пра значэнне ягоных твораў, якія даўно ўжо і па справядлівасці сталі адметнаю старонкай беларускай літаратуры, адной з найярчэйшых з'яў нашай літаратуры», – пісаў В. Быкаў у калектыўным зборніку «Святло яго душы. Успаміны пра Міхася Лынькова» [39, с. 122]. У гэтай кнізе змешчаны ўспаміны пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў К. Крапівы [64, с. 5–15], Я. Брыля [36, с. 97–109], Н. Гілевіча [44, с. 158–168], В. Віткі [47, с. 145–149], А. Бялевіча [40, с. 125–131], В. Адамчыка [2, с. 60–63], Б. Бур'яна [38, с. 109–115], А. Куляшова [65, с. 153–155] і інш. У некаторых успамінах сустракаюцца выказванні агульнага характару і пра мову яго твораў, напрыклад: «Мова яго сакавітая, шматкаляровая, зрокавая, па-сапраўднаму народная» (А. Бялевіч) [40, с. 128].

У двух з чатырох бібліяграфічных паказальнікаў па беларускім мовазнаўстве (у падраздзеле «Мова і стыль асобных беларускіх

пісьменнікаў») [29, 30, 31, 32] падаецца 16 назваў прац, звязаных з творчасцю М. Лынькова. Сярод гэтых прац дзве напісаны пісьменнікамі (М. Гарэцкім, Я. Коласам), яшчэ дзве – мовазнаўцам Т.Ф. Сцяшковіч. Усе астатнія працы належаць пяру літаратуразнаўцаў або крытыкаў, і тут пра фразеалогію ў творах М. Лынькова (а гэта нас цікавіць найперш) нічога не гаворыцца; пра мову ж пісьменніка, яе спецыфіку толькі зрэдку даюцца вельмі сцiслыя, занадта абмежаваныя звесткі. Гэтыя працы да мовы М. Лынькова маюць толькі ўскоснае дачыненне. Яны носяць выразна акрэслены літаратуразнаўчы характар. Аўтараў гэтых прац у першую чаргу цікавіць тэматыка, кампазіцыя, сюжэт, сістэма вобразаў, ідэйная накіраванасць твораў М. Лынькова. Хоць, з другога боку, у такім разе як бы выпускаецца з-пад увагі агульнавядомая ісціна, што літаратура з'яўляецца мастацтвам слова, а мова – яе першаэлемент. «Творчасць пісьменніка, яго аўтарская асоба, яго героі, тэма, ідэі і вобразы, – пісаў В.У. Вінаградаў, – увасоблены ў яго мове і толькі ў ёй і праз яе могуць быць зразуметыя. Даследаванне стылю, паэтыкі пісьменніка, яго светапогляду немагчыма без грунтоўнага, тонкага ведання яго мовы» [43, с. 6].

У артыкуле ж М. Гарэцкага «Колькі слоў аб творах і мове М. Лынькова» (1928) [45, с. 111–118] гаворка ідзе пра першую кнігу пісьменніка. Ёсць тут і розныя заўвагі аб мове лынькоўскіх апа-вяданняў, адзначаюцца «вельмі ўдалыя месцы», а таксама «залішняя любоў да стылізацыі», «недарэчнасці ў стылі», «няправільнасці ў мове», прыводзяцца прыклады «расіянізмаў, заўважаных у зборніку» [45, с. 113]. Пра фразеалагізмы (іх тады называлі прымаўкамі) у артыкуле М. Гарэцкага зусім няма размовы.

Якуб Колас у артыкуле «На чырвоных лядах» М. Лынькова» (1934) [61, с. 58–99] называе недахопы рамана, аналізуе яго мову, піша, што ў творы «ўсе персанажы гавораць на адзін манер», мова рамана «наогул дужа багатая», але «Лынькоў не захаваў пачуцця меры ў дачыненні да правінцыялізмаў», у творы «не мала трапляецца і русізмаў, і слоў, пастаўленых у формах, уласцівых рускім словам». Усё гэта ілюструецца шматлікімі прыкладамі.

Асобнай размовы заслугоўваюць дзве працы кандыдата філалагічных навук Т.Ф. Сцяшковіч. Адна з іх, надрукаваная на ратапрынце і выдадзеная ў 1965 г. пад грыфам Гродзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы, носіць назву «Мова твораў Міхася Лынькова» [97]. Адразу адзначым, што вядомы літаратуразнаўца Р. Шкраба саму методыку даследавання, якую абрала Т.Ф. Сцяшковіч, ацаніў як «заганную для такога характару

працы» [106, с. 9]; тэрмін «мова пісьменніка» тут азначае не «размову аб майстэрстве і адметнасці мастацкага стылю», а наіўную вульгарызацыю» [106, с. 10].

Адзін з падраздзелаў у працы Т.Ф. Сцяшковіч называецца «Склад і стылістычныя функцыі фразеалагізмаў». Хоць аўтар і піша, што «пісьменнік шчодра ўводзіць у свае творы невычарпальныя фразеалагічныя багацці» [97, с. 52], але не паказвае, як часта, з якой мэтай і з якімі творчымі прыёмамі выкарыстоўваюцца гэтыя выразы. Усяго пададзена 35 фразеалагізмаў у складзе сказаў-прыкладаў ці ўрыўкаў з некалькіх сказаў. У працы няма ніводнага канкрэтнага вызначэння, якую стылістычную функцыю выконвае той ці іншы выраз.

З дзевяці старонак, прысвечаных фразеалагізмам [97, с. 52–60], большасць адведзена іх аналізу «з пункту погляду іх эквівалентнасці пэўным часцінам мовы». У выніку бачым не «заканамернасці ўжывання вобразна-мастацкіх сродкаў, спецыфіку аўтарскай манеры і стылю» (такая задача ставілася аўтарам у прадмове да кнігі), а пералік фразеалагізмаў, ужытых пісьменнікам.

Закранаецца і пытанне пра «метады выкарыстання фразеалагізмаў», пра тое, што «аўтар часта пашырае або часткова змяняе агульнавядомы склад устойлівых выразаў» [97, с. 59]. Але ў прыкладах, якія, на думку даследчыцы, ілюструюць гэты тэзіс, падаюцца не творча выкарыстаныя фразеалагізмы, а словазлучэнні нефразеалагічнага характару (*курыную слепату чалавечую*, *у дзіцячым садзе будучага*, *язык прастудзіш* і г.д.).

Па аналагічнай схеме разглядаюцца фразеалагізмы і ў другой кнізе Т.Ф. Сцяшковіч – «Мова эпапеі Міхася Лынькова «Векапомныя дні» (у падраздзеле «Фразеалогія і ідыяматыка») [98, с. 22–29].

Такім чынам, можна сцвярджаць, што фразеалогія твораў М. Лынькова да гэтага часу не вывучалася. А яна даволі багатая: намі выяўлена 2516 фразеалагічных адзінак, агульны ж лік ужыванняў – 12901. Фразеалогія, як вядома, «у сістэме сродкаў мастацкага адлюстравання, што ўтвараюць стыль, займае вядучую ролю» (А.І. Яфімаў), яе вывучэнне, а менавіта ў стылістычным аспекце, «прымнажае факты для характарыстыкі літаратурнай мовы і высвятляе тое спецыфічнае, новае, арыгінальнае, што ўнёс пісьменнік у развіццё мовы і стылю, у пашырэнне выяўленчых магчымасцей беларускай літаратурнай мовы» [55, с. 5]. Таму даследаванне фразеалогіі М. Лынькова ў стылістычным плане варта лічыць актуальнай, надзённай задачай беларускага мовазнаўства і, у прыватнасці, яго маладой галіны – фразеалогіі.

Беларуская фразеалогія як новы асобны раздзел мовазнаўства пачала складвацца ў 1960-я гады. На сённяшні дзень у нас ёсць шэраг манаграфій і навучальных дапаможнікаў па агульных і прыватных фразеалагічных пытаннях: А.С. Аксамітава [4], М.А. Даніловіча [50, 51, 52, 53], У.І. Коваля [60], І.Я. Лепешава [73, 74, 75, 77], Т.І. Тамашэвіча [99], І.М. Хлусевіч [103], Ф.М. Янкоўскага [92, 94] і інш.; апублікаваны фразеалагічныя слоўнікі мовы твораў Я. Коласа [82] і Я. Купалы [66].

Што да вывучэння фразеалогіі ў творах пэўных беларускіх пісьменнікаў, то тут абаронены тры кандыдацкія дысертацыі. Дзве з іх прысвечаны фразеалагізмам у творах Я. Коласа, адна – у творах К. Крапівы.

Дысертацыя А. М. Базыленкі мае назву «Устойлівыя словазлучэнні ў мове Якуба Коласа» [28]. Праца выконвалася ў 1952 г., калі пра фразеалогію толькі пачыналася гаворка. Таму ў гэтай працы ў паняцце «ўстойлівыя словазлучэнні» ўключаюцца і сапраўдныя фразеалагізмы, і разнастайныя геаграфічныя назвы (*Сярэдняя Азія*), найменні калгасаў («*Чырвоны шлях*»), словазлучэнні іншых тэматычных груп, а таксама прыказкі, параўнальныя звароты і г.д.

У дысертацыйным даследаванні С. К. Бердніка «Фразеалогія ў творах Якуба Коласа» (1985) [34] сістэматызуюцца і вывучаюцца з розных бакоў выяўленыя фразеалагізмы (каля 3 тысяч). Яны групуюцца паводле іх паходжання, часам даецца этымалогія асобных выразаў. Разглядаюцца пытанні варыянтнасці, структурна-семантычных змяненняў фразеалагізмаў, у агульным плане гаворыцца пра стылістычную ролю выкарыстаных Я. Коласам фразеалагічных адзінак.

Агульнае ўяўленне пра кандыдацкую дысертацыю І.Я. Лепешава «Фразеалогія ў творах К. Крапівы» (1972) [78] даюць загалоўкі раздзелаў: «Варыянтнасць фразеалагізмаў», «Ужыванне фразеалагізмаў са змяненнем іх формы», «Ужыванне фразеалагізмаў са змяненнямі семантычнага характару», «Кантамінацыя фразеалагізмаў», «Аўтарскія фразеалагічныя наватворы».

У названых вышэй дысертацыях, як бачым, амаль або зусім не разглядаліся досыць актуальныя пытанні пра стылістычныя функцыі фразеалагізмаў, пра разнастайныя творчыя прыёмы выкарыстання фразеалагічных адзінак, пра матываваныя і нематываваныя адступленні ад фразеалагічнай нормы і г.д. Гэтыя і іншыя пытанні сталі прадметам нашага даследавання пра фразеалогію ў творах М. Лынькова.

Хоць, як адзначалася, беларуская фразеалогія за апошнія дзесяцігоддзі сфарміравалася як самастойная лінгвістычная дысцыпліна, але ў ёй ёсць яшчэ шэраг праблем, спрэчных пытанняў. «Няма адзінства думак і адносна такіх вузлавых пытанняў, як аб'ём фразеалогіі, яе прадмет, само паняцце фразеалагічнай адзінкі. Суіснуюць шырокае і вузкае разуменне аб'ёму фразеалогіі» [77, с. 9]. Часам у фразеалагічны склад мовы ўключаюць не толькі зрашчэнні і адзінствы (паводле класіфікацыі В.У. Вінаградава), але і састаўныя тэрміны, прыказкі, крылатыя выразы, перыфразы, іншыя ўстойлівыя спалучэнні накшталт *мастацкая самадзейнасць* і г.д. Пры аб'яднанні такога разнамаснага матэрыялу немагчыма даць дакладнае азначэнне тэрміну «фразеалагізм». Таму прыхільнікі шырокага разумення аб'ёму фразеалогіі або не даюць ніякай дэфініцыі фразеалагізму, або абмяжоўваюцца расплывістым, неадназначным тлумачэннем.

У нашай працы пад фразеалагізмам разумеецца азначэнне, дадзенае У.П. Жукавым: «узнаўляльны ў маўленні зварот, які пабудаваны на ўзор злучальных або падпарадкавальных спалучэнняў (непрэдыкатыўнага ці прэдыкатыўнага характару), валодае цэласным (або радзей – часткова цэласным) значэннем і спалучаецца са словам» [57, с. 6]. Цалкам прымальнай варта лічыць і дэфініцыю, змешчаную ў энцыклапедыі «Рэспубліка Беларусь»: «Фразеалагізм – устойлівая, узнаўляльная, не менш чым двухкампанентная моўная адзінка, якая спалучаецца са словамі свабоднага ўжывання і мае цэласнае значэнне, не роўнае суме значэнняў яе кампанентаў» [95, с. 393].

Усе 2516 фразеалагічных адзінак, выпісаных з твораў М. Лынькова, адпавядаюць гэтым азначэнням. Пад фразеалагізмамі[1] з часткова цэласнымі значэннямі маюцца на ўвазе нешматлікія фразеалагічныя адзінствы з кампанентам, які суадносіцца (але не супадае) з адпаведным словам свабоднага ўжывання: напрыклад, *на роўную нагу* – 'як роўны з роўным'.

---

[1] У працы замест слова *фразеалагізм* намі (са стылістычнай мэтай) выкарыстоўваюцца яго моўныя або кантэкстуальныя заменнікі (*фразеалагічная адзінка, выраз, зварот*).

РАЗДЗЕЛ 1

# СТЫЛІСТЫЧНЫЯ ФУНКЦЫІ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ У ТВОРАХ М. ЛЫНЬКОВА

Даследуючы фразеалогію ў цэлым, а таксама займаючыся вывучэннем фразеалагічных адзінак у мове канкрэтнага пісьменніка, некаторыя лінгвісты павярхоўна, у агульных рысах упамінаюць аб стылістычнай ролі фразеалагізмаў, не паказваючы іх індывідуальнага праяўлення ў кожным пэўным выпадку. Так, А.С. Аксамітаў адзначае: «Фразеалагічныя адзінкі з'яўляюцца яркім стылістычным сродкам. Акрамя наймення той ці іншай з'явы аб'ектыўнай рэчаіснасці, яны перадаюць і пэўныя адносіны (неадабрэнне, іронія, пяшчотнасць, фамільярнасць і г.д.) да той ці іншай з'явы таго, хто гаворыць... Пісьменнік пры дапамозе фразеалагізма, трапнага крылатага выразу, прыказкі, прымаўкі стварае мастацкі вобраз, малюе дзеянне, аздабляе мову персанажа, робіць мову твора больш маляўнічай, пераканальнай, выразнай, разнастайнай» [4, с. 127]. Агульна гучыць і сцвярджэнне, што «значэнне фразеалагізма амаль заўсёды мае экспрэсіўны, ацэначны характар, у той час як значэнне слова выконвае ў асноўным намінатыўную функцыю» [4, с. 31]. Асобна не закраналася пытанне пра стылістычныя функцыі і ў іншых беларускіх мовазнаўчых працах, у тым ліку і ў спецыяльна прысвечаных фразеалогіі ў мове пісьменніка. Маюцца на ўвазе кандыдацкая дысертацыя С.К. Бердніка «Фразеалогія ў творах Якуба Коласа» (1985) [34], манаграфія І.Я. Лепешава «Фразеалогія ў творах К. Крапівы: стылістычнае выкарыстанне фразеалагізмаў» (1976) [78].

Пад стылістычнымі функцыямі фразеалагізмаў, як пісаў А.І. Яфімаў, «трэба разумець іх выяўленчую ролю, іх мэтавае прызначэнне, абумоўленае ідэйным зместам твораў і своеасаблівасцю аўтарскага стылю. Раскрываючы стылістычныя функцыі, мы, такім чынам, вызначаем, з якой мэтай і для дасягнення якіх вынікаў выкарыстоўваюцца выразныя сродкі мовы» [55, с. 15].

Вывучаючы асаблівасці выкарыстання фразеалагізмаў у творах М. Лынькова, заўважаем, што часцей за ўсё гэтыя моўныя адзінкі выкарыстоўваюцца без пэўных змен, у сваім звычайным выглядзе, значна радзей – трансфармуюцца ці абыгрываюцца з пэўнай стылістычнай мэтай, а ў некаторых, параўнальна рэдкіх выпадках беспадстаўна ўжываюцца з header нематываванымі адхіленнямі ад нормаў. Параўнаем, напрыклад, выкарыстанне фразеалагізма *браць (узяць) у свае рукі* (каго) у наступных урыўках: 1) Трэба, аднак,

*узяць у рукі* гэтых газетных пісак, якія так недарэчы выступаюць са сваёй пісанінай [83, т. 2, с. 458]; 2) – Усё сяло так, браце, *у рукі возьмем*, пішчом пішчэць будуць, аж пацячэ з іх... – І ён сціскаў свой валасаты кулак і распускаў пальцы, паказваючы Цыбалу, як то яно цекчы будзе [83, т. 3, с. 452]; 3) Хвядос-стараста колькі раз папікаў Сілівона-брата: «Што ты вот кабеціну *да рук не бярэш*, глядзі, і кіне цябе зусім» [83, т. 3, с. 357]. У першым урыўку ўжыванне фразеалагізма адпавядае норме, пры гэтым выраз, як будзе паказана ў далейшым, выконвае шэраг стылістычных функцый. У другім урыўку наўмыснае выкарыстанне слоў *кулак, пальцы* на фоне фразеалагізма *браць у рукі* стварае пэўны эфект, пры гэтым стылістычная роля фразеалагічнай адзінкі як бы падвойваецца. У трэцім выпадку парушана норма фразеалагізма: рускі выраз *прибрать к рукам* аўтар памылкова пераклаў як *браць да рук*, хоць у беларускай мове існуе свой адпаведнік гэтай фразеалагічнай адзінкі – *браць у рукі* (у 1 значэнні), ці, як засведчана ў «Руска-беларускім слоўніку» (1982) [94, т. 2, с. 187], *прыбраць да рук.*

Фразеалагізмы, ужываючыся ў сваёй звычайнай форме і нарматыўна замацаваным за імі змесце, заўсёды выконваюць розныя стылістычныя функцыі.

Упершыню ў беларускім мовазнаўстве стылістычныя функцыі фразеалагізмаў сістэматызаваў і класіфікаваў І.Я. Лепешаў, вылучыўшы пры гэтым функцыі ўзуальнага і аказіянальнага характару [74, с. 76]. У асноўным прытрымліваючыся гэтай класіфікацыі, разгледзім стылістычныя функцыі фразеалагічных адзінак у творах М. Лынькова (гл. малюнак 1).




*Малюнак 1. Стылістычныя функцыі фразеалагізмаў*

## § 1. Функцыі ўзуальнага характару

Гэта агульныя, пастаянныя, «прыродныя» функцыі, «унутрана ўласцівыя самім фразеалагізмам», яны самі па сабе «рэалізуюцца ў моўным кантэксце» [74, с. 76]. Да іх адносяцца наступныя функцыі: намінатыўная, лаканізацыі маўлення, вобразнага выказвання, ацэначная, эмацыянальная, экспрэсіўная.

**Намінатыўная функцыя.** Фразеалагізмы, з'яўляючыся будаўнічым матэрыялам для сказаў, уступаюць у семантычную і сінтаксічную сувязь са словамі і гэтак жа, як і словы, абазначаюць, называюць тыя ці іншыя паняцці, г.зн. выконваюць намінатыўную функцыю. Яна ўласціва амаль усім фразеалагічным адзінкам. Так, фразеалагізмы могуць абазначаць: чалавека (*раба божая, лішні рот, наш брат*), прадмет (*дах над галавой, гусіныя лапкі, брат-сястрыца*), з'яву (*залаты фонд, жывое слова, дамоклаў меч*), прымету (*вецер у галаве* (у каго), *на галаву вышэй, востры на язык*), дзеянне (*гуляць у жмуркі, праціраць вочы, адкрываць дарогу* (каму, куды) і інш.

Не з'яўляюцца членамі сказа і не выконваюць намінатыўнай функцыі толькі выклічнікавыя фразеалагізмы (яны выражаюць пэўныя эмоцыі, не называючы іх: *барані божа, што вы, дзе там*), а таксама мадальныя, пры дапамозе якіх перадаюцца адносіны гаворачай асобы да зместу выказвання: *адным словам, чаго добрага, між іншым.*

Зразумела, намінатыўная функцыя далёка не асноўная і не галоўная, дзеля якой выкарыстоўваецца ў маўленні пэўны фразеалагізм. Адначасова ён выступае з шэрагам іншых стылістычных функцый. Напрыклад, ва ўрыўку: «Што ж ты *мокрай курыцай* стаіш? Цябе ж і баба паваліць, а яшчэ казак!» [83, т. 6, с. 136] – мэтавае прызначэнне выразу *мокрая курыца* не толькі і не столькі ў тым, каб абазначыць 'слабавольны, бесхарактарны чалавек[2], колькі ў выяўленні і перадачы пачуццяў асобы, а таксама ацэнкі таго, пра каго ідзе размова.

У мове ёсць нязначная колькасць зваротаў, якія з'яўляюцца адзінай назвай для абазначэння пэўных рэалій (напрыклад, *бабіна лета* ў 1-м значэнні – 'ранняя восень з цёплымі яснымі днямі').

---

[2] Тут і далей дэфініцыі фразеалагізмаў бяруцца з «Фразеалагічнага слоўніка беларускай мовы: у 2 т.» (Лепешаў, І.Я. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы: у 2 т. / І.Я. Лепешаў. – Мінск: БелЭн, 1993. – 2 т.).

Намінатыўная функцыя для такіх зваротаў – асноўная, але зноў-такі не адзіная: фразеалагізм адначасова выступае і як экспрэсіўны сродак выказвання. Амаль тое самае можна сказаць і пра фразеалагічныя звароты як паралельныя абазначэнні з'яў з расліннага і жывёльнага свету, непараўнальна часцей ужывальныя, чым навуковыя абазначэнні тых жа з'яў: *божая кароўка* – 'жучок чырвонай, жоўтай або белай афарбоўкі з плямкамі'; *зязюльчын лён* – 'аднагадовая травяністая расліна сямейства гваздзіковых пераважна з ружовымі кветкамі і ядавітым насеннем' і інш.

**Функцыя лаканізацыі маўлення.** Досыць многія фразеалагізмы характарызуюцца тым, што сваім невялікім кампанентным складам перадаюць багаты сэнсавы змест, робяць маўленне сцiслым, але ёмістым, лаканізуюць яго. Напрыклад, 5 разоў ужыты М. Лыньковым выраз *замятаць сляды* абазначае 'спрытна знішчаць ці ўтойваць тое, што можа быць доказам віны'. Такія фразеалагізмы, як і алегарычныя прыказкі, «даюць найбольшую канцэнтрацыю думкі пры найменшай затраце слоўнага матэрыялу» [63, с. 250]. Пра іх можна сказаць, што ў іх «словам цесна, а думкам — прасторна» [63, с. 250].

Ёсць і моўны паказчык, які ў дачыненні да многіх фразеалагізмаў дазваляе адназначна гаварыць пра іх павышаную пазнавальную каштоўнасць. А.У. Жукаў падзяляе фразеалагізмы на 3 групы: а) з нармальнай (стандартнай) пазнавальнай каштоўнасцю (у іх колькасць слоў у тлумачальным мінімуме роўная колькасці кампанентаў фразеалагізма), б) з паніжанай пазнавальнай каштоўнасцю (у іх колькасць слоў у тлумачальным мінімуме меншая за колькасць фразеалагічных кампанентаў), в) з павышанай пазнавальнай каштоўнасцю (у іх колькасць слоў у тлумачальным мінімуме большая, чым колькасць кампанентаў фразеалагізма) [57, с. 29–32].

Сярод фразеалагізмаў, што выконваюць функцыю лаканізацыі маўлення, можна вылучыць выразы, што ўтвараюцца па мадэлі прэдыкатыўных словазлучэнняў і, як правіла, маюць адкрытую, незамкнёную структуру і разам з паказчыкам іх канструкцыйнай абмежаванасці называюць не паняцце, а суджэнне [74, с. 79]. У пісьменніка сустракаем шматлікую групу такіх фразеалагізмаў: *язык заплятаецца* (у каго, чый) – 'хто-н. не можа выразна гаварыць, сказаць што-н.'; *сэрца заходзіцца* (у каго) – 'хто-н. перажывае вялікую радасць ці моцную трывогу, хваляванне'; *свет не мілы* (каму) –'каму-н. усё абрыдла, нічога не падабаецца ў сувязі з дрэнным настроем, нясцерпным болем і пад.'; *рукі кароткія* (у каго) –'няма права, магчымасці, сілы зрабіць, ажыццявіць што-н.' і інш.

У беларускай літаратурнай мове ёсць каля ста фразеалагізмаў, утвораных на аснове прыказак, часцей за ўсё алегарычных, у выніку іх скарачэння [79, с. 273–280]. Ужыванне такіх фразеалагізмаў таксама лаканізуе маўленне, бо амаль заўсёды яны «ўспрымаюцца як бы праз прызму больш шырокага кантэксту» [74, с. 80] — прыказкавага. У М. Лынькова сустракаем 16 прыказкавых «абломкаў»; напрыклад: *хата з краю* (з прыказкі *Мая хата з краю, нічога не знаю*), *мора па калена* (з прыказкі *П'янаму мора па калена*), *закон не пісаны* (каму) (з прыказкі *Дурному закон не пісаны*) і інш.

Ёмістасцю і лаканічнасцю вызначаюцца некаторыя выкарыстаныя М. Лыньковым фразеалагізмы, якія «па сферы першапачатковага ўжывання з'яўляюцца цытатамі з мастацкіх твораў — крылатымі выразамі, асабліва калі іх сувязь з пэўным творам яшчэ ўсведамляецца носьбітамі мовы. Такія выразы, ужытыя ў маўленні, даюць значны стылістычны эфект, бо нясуць з сабой «сферу вобразаў і ідэй з творчасці пісьменніка, якога цытуюць» (В.У. Вінаградаў)» [74, с. 79]. Да такіх былых крылатых выразаў, а сёння звычайных агульнамоўных фразеалагізмаў, варта аднесці, напрыклад, 18 разоў ужыты М. Лыньковым (у тым ліку і ў рускіх тэкстах) выраз *людзьмі звацца* 'быць свабоднымі, незалежнымі, шчаслівымі' (паходзіць з вядомага верша Я. Купалы «А хто там ідзе?»), а таксама *мёртвыя душы* (з аднайменнага твора М.В. Гогаля), *у футляры* (з апавядання А.П. Чэхава) і г.д.

**Функцыя вобразнага выказвання.** У многіх працах сцвярджаецца, што вобразнасць – аснова фразеалагічных адзінак, што «фразеалагізмы належаць да яркіх сродкаў вобразнасці і выразнасці» [113, с. 144], «фразеалагізмы – гэта вобразныя адзінкі мовы» [5, с. 296], «рашаючым фактарам замацавання фразеалагізма заўсёды з'яўляецца яго вобразнасць» [107, с. 291]; «адной з важнейшых асаблівасцей фразеалагічнай семантыкі з'яўляецца яе вобразнасць» [91, с. 70].

Але на самай справе далёка не ўсе фразеалагізмы з'яўляюцца вобразнымі. Б.А. Ларын пісаў, што «метафарычным ці вобразным фразеалагізм застаецца да таго часу, пакуль не разбураюцца суадносіны першага і другога сэнсавага плана, інакш кажучы, «прамога» і «пераноснага» значэння». І яшчэ: «Чым далей зайшла ўнутраная і знешняя дэфармацыя або перабудова першапачатковага выразу, тым меней вобразнасці, тым бяднейшае і больш адцягненае яго значэнне. Ну што, напрыклад, засталося ад былой вобразнасці ў ідыёме *як піць даць*, якая стала сінонімам прыслоўяў *немінуча, абавязкова*?» [69, с. 155, 148].

Функцыяй вобразнага выказвання валодаюць толькі фразеалагічныя адзінствы – выразы, якія маюць жывую ўнутраную форму або вобразнае ўяўленне, якое спадарожнічае фразеалагічнаму значэнню.

Падобныя фразеалагізмы (тыпу: *скакаць пад дудку* (чыю), *плысці па цячэнні*, *трымаць камень за пазухай*, *асінае гняздо*) пры іх ужыванні ў маўленні здольны выклікаць у свядомасці чалавека наглядное ўяўленне пра пэўныя з'явы, прадметы, рэаліі. Яны суадносяцца са свабодным спалучэннем слоў і на яго фоне ствараюць метафарычны і семантычны эфект. Вобразнасць у адносінах да фразеалагічных адзінак вызначаюць як «сумешчанае бачанне дзвюх карцін» [74, с. 82], таму што вобраз, які лёг у аснову фразеалагізма, як бы «прасвечваецца» праз семантыку фразеалагічнай адзінкі. Напрыклад, фразеалагізм *хадзіць на задніх лапках* (перад кім), што значыць 'ліслíва дагаджаць каму-н., падхалімнічаць', утварыўся ў выніку метафарызацыі аналагічнага свабоднага словазлучэння, звязанага са звычкамі сабакі, і не страціў сувязі з першапачатковым вобразам, пакладзеным у яго аснову: «Ага, спужаўся высокага начальства, пачнеш *на задніх лапках* перад ім *хадзіць*» [83, т. 3, с. 187].

Некаторыя даследчыкі вобразнасць, уласцівую фразеалагічным адзінствам, атаясамліваюць з метафарычнасцю. Напрыклад, У.П. Жукаў піша: «Практычна вобразнасць (метафарычнасць) устанаўліваецца шляхам «накладання» (аплікацыі) фразеалагізма на пераменнае словазлучэнне такога ж лексічнага складу» [57, с. 122]. Думаецца, што вобразнымі варта лічыць не толькі фразеалагізмы, утвораныя ў выніку метафарызацыі свабоднага словазлучэння, але і тыя, якія склаліся шляхам метанімічнага пераносу, заснаванага на сумежнасці дзвюх з'яў, непасрэдна звязаных пастаяннымі адносінамі (*вынесці нагамі ўперад* (каго), *паціраць рукі*, *біць кулакамі ў грудзі*), а таксама тыя, што ўзніклі ў выніку сінекдахічнага пераносу (калі па назве часткі называецца цэлае), напрыклад: *у адны рукі*, *пад адным дахам*, *дах над галавой* і інш. Але найбольшы «каэфіцыент вобразнасці» маюць усё ж выразы метафарычнага характару.

У творах М. Лынькова можна вылучыць шэраг найбольш пашыраных груп фразеалагізмаў, якія выконваюць функцыю вобразнага выказвання. Гэта фразеалагічныя адзінствы:

1) утвораныя з адпаведных свабодных словазлучэнняў метафарычным шляхам (*закасваць рукавы*, *зламаць хрыбет* (каму), *расправіць крылы*, *гуляць у маўчанку*), метанімічным (*махнуць рукой* (на каго, на што), *ламаць сабе рукі*, *паціскаць плячыма*, *вярнуць нос* (ад каго, ад чаго), сінекдахічным (*з рук у рукі*, *на галаву*, *язык доўгі* (у каго), *перад носам*);

2) у аснове якіх – нерэальны вобраз, іншы раз пабудаваны на гіпербале ці літоце: *варочаць горы* <з кім, з чым>, *сядзець на шыі* (чыёй, у каго, каго), *кошкі на душы скрабуць* (у каго, чыёй), *малочныя рэкі з кісельнымі берагамі* і пад.;

3) якія паходзяць з параўнальных зваротаў: *як скрозь зямлю праваліўся, як з ланцуга сарваўся, як у хрыста за пазухай, нібы аршын праглынуў* і г.д.;

4) з кампанентам *хоць*, якія засноўваюцца на рэальным або нерэальным вобразе і маюць уступальна-загадную канструкцыю: *хоць трава не расці, хоць да раны прыкладвай, хоць скрозь зямлю праваліся, хоць вока выкалі* і інш.

Зразумела, не ўсе фразеалагізмы, якія пачынаюцца кампанентамі *як* ці *хоць*, з'яўляюцца вобразнымі, бо яны страцілі сваю ўнутраную форму, ператварыліся ў фразеалагічныя зрашчэнні: *як Заблоцкі на мыле, як з рога дастатку, як іерыхонская труба, як май змаяваў, як Марка па пекле, як серада на пятніцу, як фенікс з попелу*; *хоць бы дзічкі, хоць бы цвік, хоць святых вынось, хоць у пятніцу, хоць шаром пакаці* і інш.

**Ацэначная функцыя.** Значная частка фразеалагізмаў, ужытых у творах М. Лынькова, выконвае ацэначную функцыю, сутнасць якой праяўляецца ў здольнасці фразеалагічных адзінак даваць станоўчую ці, часцей, адмоўную ацэнку асобе або прадмету. Ацэначныя фразеалагізмы як дзейсны сродак характарыстыкі персанажаў выкарыстоўваюцца разнапланава:

1) як аўтарская ацэнка; напрыклад: «Цяпер ён быў у гітлераўцаў *правай рукой*» [83, т. 7, с. 319];

2) пры характарыстыцы героя іншымі героямі: «[Партызан:] Хлопцы там во! Ім, брат, *пальца ў рот не кладзі*. Баявыя, нічога пра іх не скажаш» [83, т. 4, с. 547];

3) пры самахарактарыстыцы персанажа: «Што ні кажыце, а супернік быў сур'ёзны, падарункі рабіў і ўсё такое іншае. Пад'язджаў усё… Але ж і я *не лыкам шыты*» [83, т. 4, с. 365]. Дзеяслоўныя выразы з адмоўна-ацэначным значэннем звычайна не ўжываюцца ў форме 1-й асобы, бо «чалавек у сілу розных прычын, галоўным чынам этычных, не можа сам сабе даваць ацэначную характарыстыку» [70, с. 46]. Аднак параўн. прыклад з рамана «Векапомныя дні», дзе партызан Дубок, якому надакучыла сядзець у лесе і хочацца на фронт, скардзіцца дзеду Сымону: «Сумна, дзед, сумна... Нашы там кроў праліваюць, ваююць, а я тут *лынды б'ю*, па завуголлю аціраюся, каб яны спарахнелі» [83, т. 4, с. 77].

Грунтоўны аналіз ацэначных фразеалагізмаў зроблены ў працы У. П. Жукава [56, с. 57–69]. Тут паказана, што гэтым значэннем устойліва, пастаянна, незалежна ад умоў кантэксту валодаюць многія назоўнікавыя і прыметнікавыя фразеалагізмы, якія пры гэтым выступаюць у ролі іменнага выказніка (*кроў з малаком* – 'вельмі прыгожы', *скура ды косці* – 'вельмі худы, змарнелы'), а таксама некаторыя па форме дзеяслоўныя выразы з паслабленымі трывальна-часавымі ўласцівасцямі, г.зн. выразы, пры якіх можна паставіць пытанне «які прадмет?» і ў якіх прыметнікавае значэнне пераважае над дзеяслоўным (*пальчыкі абліжаш* – 'вельмі смачна, прыемна' і 'вельмі добры, прывабны'; *пальца ў рот не кладзі* (каму) – 'хто-н. такі, што можа пастаяць за сябе, з кім трэба быць асцярожным').

Маўленчая практыка М. Лынькова пацвярджае, што вельмі многія такія фразеалагізмы выконваюць ацэначную функцыю, спецыялізуючыся ў сказе ў якасці іменнага выказніка: «– Аднак, дзед, ты *востры на язык*, у гэтым табе не адмовіш... – праказаў Цайт, каб неяк змякчыць дзеда ліслівасцю» [83, т. 5, с. 338].

Такія выразы з ярка выражанай ацэначнасцю выступаюць яшчэ ў якасці зваротка: «Я табе пакажу партыю, *сукін сын*. Бачыш ты яго. Колькі разоў пад'язджае з такой гаворкай!» [83, т. 4, с. 345]; «– Ды ціха ты, *воўчае мяса*! – вылаяўся ён, не выпускаючы аброці з рук» [83, т. 5, с. 150].

Калі ж назоўнікавыя фразеалагізмы з ацэначным значэннем ужываюцца ў ролі дзейніка або дапаўнення, то перад імі абавязкова ставіцца які-небудзь займеннік-канкрэтызатар (*гэты, такі, нейкі, усякі* і пад.); напрыклад: «Вось жа вырадзіцца такая *чортава лялька*!» [83, т. 4, с. 122]; «Ідзі, кажа, Палажка, да таго *гада печанага*..» [83, т. 3, с. 548].

**Эмацыянальная функцыя.** Сутнасць гэтай функцыі заключаецца ў здольнасці фразеалагічных адзінак выражаць пэўныя пачуцці і эмоцыі чалавека.

Асаблівасцю выкарыстання фразеалагізмаў амаль усіх семантыка-граматычных разрадаў з'яўляецца тое, што яны, называючы асобу, прадмет, прымету, дзеянне і г.д., разам з тым выражаюць унутраны, эмацыянальны стан – адначасова выконваюць намінатыўную і эмацыянальную функцыі. Эмацыянальная афарбоўка такіх фразеалагізмаў выступае як устойлівы элемент іх сэнсавай структуры. Фразеалагізмы могуць, напрыклад, выражаць:

1) незадаволенасць: *сукін сын*, *гад падкалодны*, *дубовая галава*;
2) пагарду: *юдаў пацалунак*, *асіна плача* (па кім), *каб зямля не насіла* (каго);

3) насмешку: *ад зямлі не адрос, малако на губах не абсохла* (у каго);

4) страх: *як асінавы ліст, як мыш пад венікам, ні жывы ні мёртвы, мурашкі забегалі па целе* (у каго, каго, чыім), *мароз пайшоў па спіне (па скуры)* (у каго, каго, чыёй), *ледзяніць кроў <у жылах>* (чыіх);

5) смутак, здзіўленне: *як у ваду апушчаны, лыпаць вачыма;*

6) трывогу: *як на іголках, не знаходзіць сабе месца;*

7) захапленне, задавальненне: *светлая галава, залатыя рукі, на сёмым небе* і інш.

Ёсць у мове і такія выразы, якія ў залежнасці ад моўнай сітуацыі здольны перадаваць неаднолькавы эмацыянальны стан асобы. Так, фразеалагізм *зелянее ў вачах* (у каго) перадае стан хвалявання, страху, слабасці, болю, злосці. Напрыклад, гэты выраз выяўляе злосць партызанскага камандзіра, якога раздражняюць бясконцыя размовы пра замужжа Гарпіны: «– А пры чым тут Гарпіна? – запытаўся бацька Мірон, у якога пачынала *зелянець у вачах* ад гэтага ачмурэння» [83, т. 5, с. 251]. Гэты ж фразеалагізм можа выражаць стан болю: «Вось [матка] дагнала яго, злосная, узрушаная, і дала так па загрыўку, што ў Мішкі *пазелянела ўваччу*, і ён уткнуўся носам у зямлю, балюча наколоўшыся на хваёвую шышку» [83, т. 3, с. 104].

Сярод фразеалагізмаў, што выконваюць эмацыянальную функцыю, у творах М. Лынькова шмат выразаў з кампанентам ‘сэрца’: *сэрца заходзіцца* (у каго) – 28 разоў, *сэрца сціскаецца* (у каго <ад чаго>) – 10 разоў, *сэрца замірае* (у каго, чыё) – 6 разоў, *сэрца ёкнула* (у каго) – 6 разоў, *сэрца абрываецца* (у каго) – 2 разы і інш. Найбольш часта (28 выпадкаў) ужываецца фразеалагізм *сэрца заходзіцца* (у каго) у значэнні ‘хто-н. перажывае вялікую радасць ці моцную трывогу, хваляванне’.

У творах М. Лынькова налічваецца больш за 100 ўжыванняў фразеалагізмаў з кампанентамі ‘душа’ і ‘сэрца’, што сведчыць пра надзвычайную ўвагу аўтара да псіхалагічнага стану героя і робіць яго прозу глыбока лірычнай.

Што да выклічнікавых фразеалагізмаў, то яны, як ужо адзначалася, у адрозненне ад іншых семантыка-граматычных разрадаў, не валодаюць намінатыўнай функцыяй, а эмацыянальная функцыя для іх – асноўная. Эмацыянальнасць такіх фразеалагізмаў і «складае іх змест, яны толькі і служаць для выражэння эмоцый, перажыванняў, настрою, адчуванняў» [74, с. 86–87]. У творах М. Лынькова налічваецца каля 150 ужыванняў выклічнікавых фразеа-

лагізмаў. Пісьменнік шырока выкарыстоўвае такія фразеалагічныя адзінкі з рознымі адценнямі:

1) гонару: *знай нашых*!: «Не такая парода наша чмаруцькаўская, каб ім, маладым, дарогу саступіць. *Знай нашых*!» [83, т. 5, с. 40];

2) пажадання: *ні пуху, ні пяра!, у добры час!, дай бог (божа)!*;

3) папярэджання: *глядзі ў мяне!* (выказванне перасцярогі і пагрозы): «Ды *глядзі ў мяне*, калі будзеш размаўляць ці надумаешся ўцякаць, дык адразу прыстрэлю…» [83, т. 5, с. 449];

4) прыкрасці: *прападзі пропадам*!, напрыклад: «А зачым вайна? Дужа яна Антосю патрэбна? Ці мне, скажам? *Прападзі* яно ўсё *пропадам*…» [83, т. 3, с. 491];

5) здзіўлення: *не можа быць!, вось яно як!, вось яно што!, на табе!* і інш.

Эмацыянальнасць характэрна таксама для фразеалагізмаў «жэставага паходжання», калі ўнутраны стан асобы выяўляецца праз міміку, жэсты, рухі: *разявіць рот, вешаць галаву, лыпаць вачыма, разводзіць рукамі* і інш.

**Экспрэсіўная функцыя.** Адносна паняцця *экспрэсіўнасць* у дачыненні да фразеалагізмаў існуюць неадназначныя, часам супрацьлеглыя погляды. Так, В.М. Макіенка сцвярджае, што «экспрэсіўнасць з'яўляецца к а т э г а р ы я л ь н а й уласцівасцю фразеалагізма» [86, с. 173]. А У.П. Жукаў піша, што экспрэсіўнасць «пашыраецца далёка не на ўсе фразеалагічныя звароты. Стылістычна нейтральным зваротам не ўласціва экспрэсіўнасць, напрыклад: *во что бы то ни стало* 'обязательно', *в один голос* 'единодушно', *в двух словах* 'коротко и ясно', *день ото дня* 'постепенно', *время от времени* 'иногда', *в порядке вещей* 'обычно', *выходить в свет* 'печататься', *выходить из строя* 'переставать действовать', *выбиваться из сил* 'крайне изнемогать', *входить во вкус* 'проявлять интерес, привыкать' і інш.» [58, с. 10].

Паводле Л.В. Васільева, «катэгорыя экспрэсіўнасці (экспрэсіі) заўсёды мае семантычны (сэнсавы) характар. У аснове яе ляжаць дадатковыя сэнсавыя адценні, якія прымешваюцца да асноўных значэнняў слоў і граматычных формаў» [42, с. 108]. Гэта разуменне экспрэсіўнасці можа быць пашырана і на фразеалагізмы, якія «маюць дадатковыя сэнсавыя адценні колькаснай характарыстыкі» [42, с. 114] і ўтрымліваюць у сваёй сэнсавай структуры сему ўзмацняльнасці або інтэнсіўнасці. Сэнс такіх фразеалагізмаў тлумачыцца словазлучэннямі, у якія ўваходзяць словы, што азначаюць вышэйшую і найвышэйшую ступень якасці: *самы, увесь, надзвычай, вельмі, моцна, у найвышэйшай ступені* і інш.: *за трыдзевяць зямель* – 'вельмі далёка (быць, жыць, знаходзіцца, ехаць, трапіць і інш.)', *да зарэзу* – 'крайне,

надзвычайна (трэба хто-, што-н.)’, *без памяці* – ‘вельмі хутка, не зважаючы ні на што (бегчы, ляцець, уцякаць і пад.)’, *на сёмым небе* – ‘бязмерна шчаслівым, вельмі задаволеным (быць)’, *пясок сыплецца* (з каго) – ‘хто-н. вельмі стары, слабы’.

Хоць тэрмін ‘экспрэсіўнасць’, – піша І.Я. Лепешаў, – «пакуль што не напоўнены акрэсленым і дакладным зместам, але найчасцей яе атаясамліваюць з выразнасцю. Таму ўсе фразеалагізмы, якім уласцівы вобразнасць, эмацыянальнасць, ацэначнасць, адначасова з’яўляюцца і яркімі сродкамі моўнай выразнасці (экспрэсіўнасці)» [77, с. 212]. Таму варта пагадзіцца з прыведзеным вышэй выказваннем В.М. Макіенкі аб экспрэсіўнасці як *катэгарыяльнай* уласцівасці фразеалагізма. Экспрэсіўнасць (у сэнсе ‘выразнасць’), несумненна, можна бачыць ва ўсіх раней працытаваных прыкладах з выказвання У.П. Жукава пра так званыя «стылістычна нейтральныя звароты». Адны з іх маюць сему ўзмацняльнасці, для другіх характэрны вобразнасць або эмацыянальнасць і г.д.

Сярод фразеалагізмаў, выкарыстаных у творах М. Лынькова, можна асобна вылучыць шэраг груп, у якіх аб’яднаны выразы з асаблівасцямі мастацка-паэтычнага характару і іх безумоўнай і відавочнай экспрэсіўнай функцыяй. Разгледзім іх па парадку ў адпаведнасці з колькасцю выкарыстанняў М. Лыньковым.

1. Таўталагічныя фразеалагізмы (51), пабудаваныя на паўтарэнні паўназначных зменных слоў у склонавых формах з прыназоўнікамі *з, на, ад, у* і інш.: *з вока на вока, з веку ў век, ад зары да зары, ад краю да краю, з году ў год, слова ў слова.*

У адрозненне ад сітуацый, дзе паўтарэнне адных і тых жа слоў непажаданае, паўторы ў фразеалагізмах ніколькі не ствараюць адмоўнага ўражання. Яны склаліся гістарычна і замацаваліся ў мове.

2. Рыфмаваныя фразеалагізмы (34): *тары бары-растабары, шурум-бурум, фіглі-міглі, не разбяры-бяры, фу ты ну ты, збоку прыпёку, гады ў рады, лахі пад пахі, шыта і крыта, ні тпру ні ну, ні слуху ні духу* і пад. Часцей за ўсё такія фразеалагізмы ўжываюцца ў простай ці няўласна-простай мове: «– Быў каваль, а цяпер кавалёк, пустымі справамі займаюся, гайкі раблю, шурупы кручу, адным словам, *шурум-бурум*, – жартаваў стары каваль» [83, т. 4, с. 426].

3. Фразеалагізмы, у аснове якіх – стылістычны прыём антытэзы (19): *ні жывы ні мёртвы, і душой і целам, ні к сялу ні к гораду, ні дна ні пакрышкі, рана ці позна, і дзень і ноч* і інш. Некаторыя з пералічаных выразаў выкарыстоўваюцца пісьменнікам неаднойчы. Так, даволі пашыранае ўжыванне фразеалагізма *ні жывы ні мёртвы*

(8 разоў) абумоўлена тым, што гэты выраз надзвычай выразна перадае стан чалавека, страшэнна спалоханага, знямелага ад страху.

Ужыванне фразеалагізмаў, у аснове якіх кампаненты пабудаваны на антанімічным супрацьпастаўленні, выразна пашырае часавыя (*ні днём ні ноччу, не сягоння-заўтра)*; прасторавыя (*направа і налева, з ног да галавы, узад і ўперад)* межы выказвання.

4. Фразеалагізмы каламбурнага характару (8 выразаў): *гад печаны, гад падкалодны, абуць у лапці* (каго), *гарэць у руках* (чыіх, у каго), *і пайшло і паехала, усыпаць гарачых* (каму), абадраць *як ліпку,* калаціцца *як асінавы ліст.* Такія фразеалагічныя адзінкі – прыклады выразнай гульні словам, калі выкарыстаны многія яго сэнсавыя магчымасці, якія ў кантэксце штораз гучаць па-новаму, валодаюць яркай экспрэсіяй. У аснове фразеалагізмаў-каламбураў – абыгрыванне мнагазначных слоў, у выніку чаго ўзнікае стылістычны прыём, які мае назву «разгортванне слова ў фразеалагізм» (В.М. Макіенка). Напрыклад, фразеалагізм *гад падкалодны* ўзнік у выніку рэалізацыі прамога і пераноснага значэння слова *гад* (‘змяя, гадзюка’ і ‘агідны, шкодны чалавек’) і яго дапаўнення прыметнікам *падкалодны*: «– Дык вы думалі і маіх гасцей паатручваць, вы хацелі і мяне атруціць, *падкалодныя гады...* – і непаслушнай рукой Свістун выцягнуў пісталет з кабуры» [83, т. 5, с. 195].

5. Значна менш у творах М. Лынькова фразеалагізмаў з кампанентамі-сінонімамі (5 выразаў): *да пары да часу, канца-краю не было, ні свет ні зара, у пух і прах, хрыстом-богам,* некаторыя з іх ужываюцца неаднойчы. Так, 7 разоў выкарыстаны фразеалагізм *да пары да часу* ў рамане «Векапомныя дні».

Паасобнае апісанне ўсіх шасці функцый узуальнага характару трэба лічыць некалькі ўмоўным і апраўданым толькі мэтамі лінгвістычнага аналізу. Фактычна ж усе функцыі ўзаемазвязаныя і ўзаемазалежныя. «Адначасовае выкананне шматлікіх функцый – вось у чым сутнасць і стылістычная значнасць фразеалагічных адзінак» [74, с. 91]. Пакажам гэта на двух прыкладах іх поліфункцыянальнасці.

Фразеалагізм *грэць рукі* (аб што), які ўжываецца М. Лыньковым у адносінах да герояў аповесці «Апошні зверыядавец», адначасова выконвае шэраг функцый: намінатыўную – абазначае ‘нажывацца несумленным спосабам’; лаканізацыі маўлення, бо колькасць слоў у тлумачальным мінімуме большая за колькасць кампанентаў у фразеалагізме; ацэначную – выражае адмоўную ацэнку персанажаў; экспрэсіўную – надае выказванню выразнасць: «Жылі браты, *грэлі рукі* аб судны купецкія, цешылі сэрца крывёю, і ў замку часам

баляванне ішло дзікае, разгульнае, як шалёныя лясныя навальніцы» [83, т. 3, с. 35].

Выраз *без нажа рэзаць* (каго) (‘ставіць каго-н. у вельмі цяжкае становішча’), акрамя намінатыўнай функцыі (называе прыватнае дзеянне), лаканізуе маўленне, надае яму вобразнасць, эмацыянальнасць, ацэначнасць і, само сабой зразумела, экспрэсіўнасць: «Май ты бога ў сэрцы… Ці так жа добрыя людзі справы робяць, каб *без нажа* чалавека *рэзаць*? » [83, т. 4, с. 537].

## § 2. Функцыі аказіянальнага характару

Гэта «прыватныя» стылістычныя функцыі, якія рэалізуюцца ў спецыяльна арганізаваным кантэксце ў адпаведнасці з задумай аўтара. Да іх адносяцца: функцыя стварэння гумару і сатыры, функцыя маўленчай характарыстыкі персанажа, градацыйная, а таксама функцыі «кампазіцыйна-канструкцыйнай накіраванасці»: функцыя сюжэтнай асновы твора, загаловачная функцыя, функцыя заключнага акорда, функцыя рэфрэна і функцыя стварэння абсалютна дакладнай рыфмы. Дзве апошнія характэрны для вершаванага маўлення, таму ў празаічных творах М. Лынькова іх, зразумела, не можа быць. Фразеалагізмы не выкарыстоўваюцца ў яго творах і ў якасці загалоўкаў.

Адзначаныя функцыі ўяўляюць сабой «як бы працяг «прыродных» функцый, бо рэалізуюць у маўленні стылістычныя патэнцыі фразеалагізмаў» [74, с. 92].

**Функцыя стварэння гумару і сатыры.** Некаторыя аўтары і даследчыкі творчасці М. Лынькова сярод вызначальных рыс характару пісьменніка неаднойчы ўспамінаюць пра яго невычарпальны гумар і вялікае жыццялюбства. Так, В. Вітка згадвае: «Пачуццё гумару, уменне бачыць сябе вачыма іншых людзей – … гэтая лынькоўская якасць, яго заўсёдны аптымізм… памятныя ўсім» [44, с. 148]. Літаратуразнаўца Э. Гурэвіч адзначае своеасаблівасць гумару М. Лынькова: «Гумар пісьменніка (у творах і ў жыцці) быў стрыманы, часам падтэкставы, з багатым выкарыстаннем слоўнага камізму…» [49, с. 185]. З гэтых і шмат якіх іншых выказванняў адносна асобы М. Лынькова і яго твораў становіцца зразумелай увага пісьменніка да народнага гумару, які праяўляецца ў выкарыстанні разнастайных моўных сродкаў, у тым ліку і фразеалагізмаў, што валодаюць яркай гумарыстычнай афарбоўкай.

Многія фразеалагізмы з'яўляюцца эфектыўнымі сродкамі гумару і сатыры. Камізм ці іронія прысутнічаюць у самой сэнсавай структуры шматлікіх выразаў як іх пастаянная, прыродная ўласцівасць. Таму ў дачыненні да такіх фразеалагізмаў можна гаварыць, што для іх функцыя гумару і сатыры – іх прыродная, «узуальная» функцыя. Гэта датычыць, напрыклад, такіх выразаў, як *крукам носа не дастаць* (у каго, каму), *папасці пальцам у неба*.

Ступень праяўлення камічнага як «своеасаблівай формы крытыкі адмоўных з'яў у жыцці і чалавечых паводзінах, характарах» [68, с. 73–74] залежыць ад пэўнай задачы пісьменніка, ад аўтарскіх адносін да канкрэтных персанажаў. Фразеалагізмы, якія ў сваёй сэнсавай структуры маюць адценне пагарды, незадавальнення, у найбольшай ступені выяўляюць адмоўныя адносіны да пэўных персанажаў. Так, дзякуючы фразеалагізму *каб духу не было* (чыйго, <дзе>), ужытаму ў адным з эпізодаў рамана «Векапомныя дні», перадаецца пагарда Заслонава да партызана Дзеткі, які ўзяў ад мясцовых жыхароў «падарункі»: «– Адставіць балбатню! Адразу бяры і тое, і другое, – паказаў вачмі на шынку і мёд, – і *каб духу* твайго тут *не было*» [83, т. 5, с. 164]. Фразеалагізм *асіна плача* (па кім) ('хто-н. заслугоўвае павешання') неаднойчы выкарыстоўваецца ў дачыненні да нямецкіх акупантаў.

Адценне жартаўлівасці ўласціва фразелагізмам *тры бочкі арыштантаў, сунуць носа не ў сваё проса, разжаваць ды ў рот пакласці* і інш. Ужываючыся ў маўленні, такія фразеалагічныя адзінкі перадаюць жартаўлівыя адносіны да чалавека ці з'явы: «Адыдзі, табе кажуць... Ідзі, ідзі, *не сунь носа не ў сваё проса*» [83, т. 3, с. 271]. Фразеалагізмы, што маюць адценне іранічнасці, у аднолькавай ступені могуць ужывацца як у аўтарскай мове, так і ў мове персанажаў. Напрыклад, фразеалагізм *уласнай персонай* ('асабіста, непасрэдна сам'), укладзены ў вусны аднаго з герояў рамана «Векапомныя дні», выяўляе пачуццё гумару партызанскага камандзіра: «– Васіль Іванавіч, ды ці вы гэта? – Як бачыце, сваёй *уласнай персонай*» [83, т. 5, с. 518].

Камізм як неад'емная рыса ўласцівы многім фразеалагічным адзінствам, унутраная форма якіх заснавана на нерэальным вобразе. Так, калі ў рэальнасці ўявіць вобразы, пакладзеныя ў аснову фразеалагізмаў *не кот наплакаў*, *брахаць на сабак*, *леташні снег* і пад., то ўзнікае смехавая рэакцыя: «Ты падумай, паўтары тысячы цалковых, гэта, брат, *не кот наплакаў*» [83, т. 1, с. 302]; «– От ты пагавары ў мяне, пагавары болей... Тады пазнаеш. От я ўжо цябе навучу. – *На сабак* хіба *брахаць*?» [83, т. 3, с. 42].

Апрача сказанага вышэй, функцыя стварэння камічнага даволі часта праяўляецца ў выпадках, калі яна выступае ў сукупнасці з іншымі функцыямі. Так, выраз *брат ты мой*, які выконвае функцыю маўленчай характарыстыкі персанажа, героя рамана «Векапомныя дні» Чмаруцькі, неаднаразова паўтараючыся, стварае яркі гумарыстычны эфект: «Што ні кажыце, а дрываклад, – *брат ты мой*, важная спецыяльнасць, без яе не паедзеш, будзь ты хоць механікам, размеханікам» [83, т. 4, с. 384].

Фразеалагізмы набываюць гумарыстычную афарбоўку часцей у тых выпадках, калі пісьменнік не традыцыйна ўжывае іх, а творча выкарыстоўвае, абнаўляе гэтыя выразы, змяняючы форму і змест ці толькі змест. Параўн., напрыклад, ужыванне фразеалагізма *вешаць насы* ў такім кантэксце: «Дык вось, як мы тут жывём: працуем, часам сумуем, але *вешаць насы* каманда ў нас не падавалася. Думаю, што і ў далейшым *насы будуць на месцы, а мо падымуцца яшчэ і вышэй*» [83, т. 8, с. 67]. Шматлікія падобныя прыклады абыгрывання фразеалагізмаў прааналізаваны ў раздзеле 3.

**Функцыя маўленчай характарыстыкі персанажа.** На адметнасць, займальнасць, прыцягальнасць літаратурнага твора ўплываюць многія фактары, сярод якіх – сюжэт, тэматыка, ідэя і, безумоўна, непаўторныя мастацкія вобразы. Пісьменнік, ствараючы вобразы сваіх персанажаў, раскрывае іх характары праз асабістыя ўчынкі, перажыванні, адносіны да іншых герояў і, зразумела ж, праз мову. Прычым кожны персанаж павінен адрознівацца адзін ад аднаго сваёй мовай, уласцівай яго светапогляду. У гэтым аўтару дапамагаюць фразеалагізмы, якія, разам з іншымі моўнымі сродкамі, індывідуалізуюць маўленне герояў.

Фразеалагізмы з’яўляюцца своеасаблівым знакам прыналежнасці персанажаў да пэўнага асяроддзя, дапамагаюць раскрыць найбольш тыповыя яго рысы. Так, у апавяданнях М. Лынькова «Баян», «На вялікай хвалі» жаргонныя выразы тыпу *бузу вадзіць* (‘верхаводзіць у несумленных справах’), *туфту заражаць* (‘лоўка падманваць, хітрыць’), *бузу церці* (‘паводзіць сябе задзірыста, уносіць бязладдзе’) выступаюць маўленчай характарыстыкай былых зладзеяў, раскрываючы тым самым іх характары.

У апавяданні «Андрэй Лятун» з дапамогай прафесійных спецыфічных выразаў (*маслёнка мазутная, блыха крыжавінная, дуда маляваная, ключ гаечны, штопка непуцёвая, пацук лінейны* і інш.) прадстаўлена добра знаёмае аўтару асяроддзе чыгуначнікаў, у якім, нягледзячы на знешнія падзеі, пануюць добрыя, прыязныя адносіны. Як слушна адзначаецца ў адной мовазнаўчай працы, упамянёныя

выразы – «аказіянальныя, індывідуальна-аўтарскія або пачутыя пісьменнікам прафесійныя выслоўі, якія не выйшлі за межы апавядання і не сталі агульнамоўнымі фактамі» [73, с. 18].

Фразеалагізмы неаднолькава пашыраныя ў маўленні розных персанажаў. Больш частае ўжыванне адных выразаў і рэдкае другіх характэрна для розных груп герояў і вызначае індывідуальныя якасці маўлення пэўных асоб. Паводле сцвярджэння Э.Б. Коцар, «нават адсутнасць у маўленні фразеалагізмаў выконвае пэўную стылістычную функцыю і з'яўляецца не менш эфектыўным мастацкім прыёмам» [62, с. 162]. Так, каб супрацьпаставіць розныя пазіцыі герояў у рамане-эпапеі «Векапомныя дні», пісьменнік рэдка скарыстоўвае фразеалагічныя адзінкі ў маўленні немцаў, затое ў асяроддзі простага люду і партызан гэтых адзінак значна больш, пераважна размоўных і прастамоўных (*даць копаці* (каму), *лезці сляпіцай у вочы* (каму), *дзесятаму заказаць*, *задраць ногі* і пад.).

Каб індывідуалізаваць маўленне персанажа, аўтар ужывае фразеалагізмы, якія становяцца «моўным пашпартам» героя і часта паўтараюцца. Як ужо згадвалася, герой рамана «Векапомныя дні» Чмаруцька неаднойчы паўтарае сваё ўлюбёнае выслоўе *брат ты мой* (21 ужыванне). Некаторыя персанажы нават жартаўліва дражняць яго гэтым выразам: «І вось надумаліся – я, Заслонаў, Чычын, Блешчык ды яшчэ гэты «*брат ты мой*» Чмаруцька, – дык вось яны ў хату заходзяць...» [83, т. 5, с. 37–38]. *Як след* – любімы выраз галоўнага героя з апавядання «Андрэй Лятун» (3 ужыванні). Гэты фразеалагізм дадаткова з'яўляецца і станоўчай характарыстыкай машыніста, які добра ведае сваю справу. У апавяданні «Над Бугам» сродкам маўленчай характарыстыкі персанажа Ваські Шкетава выступаюць сінанімічныя выклічнікавыя выразы *ёлкі зялёныя* (2 ужыванні) і *ёлкі-палкі* (3 ужыванні). У маўленні гэтага ж героя сустракаем камбінаваны гібрыд *ёлкі-палкі зялёныя*.

**Функцыя стварэння градацыі.** Градацыя – гэта «стылістычны прыём пабудовы фразы, пры якім сінанімічныя аднародныя члены сказа размяшчаюцца ў такім парадку, што кожнае наступнае слова ўзмацняе сэнс папярэдняга» [96, с. 153]. Градацыйная функцыя рэалізуецца фразеалагічнымі адзінкамі тады, калі яны выступаюць як аднародныя члены сказа да другіх членаў сказа, выражаных словамі, прычым фразеалагізм мае багацейшае сэнсавае і стылістычнае значэнне ў параўнанні з папярэднім сінанімічным, звычайна нейтральным словам ці словазлучэннем. Па гэтай прычыне не зусім зразумелым з'яўляецца меркаванне Ф.М. Янкоўскага, які піша: «Калі слова-адпаведнік і фразеалагізм стаяць у сказе побач, то фразеалагізм

выступае як аднародна-ўдакладняльная моўная адзінка, раўназначнасць фразеалагізма слову-адпаведніку парушаецца, фразеалагізм становіцца семантычна бяднейшым за слова...» [113, с. 228]. Але, як ужо адзначалася, градацыя ствараецца толькі ў тым выпадку, калі фразеалагізм мае багацейшае сэнсава-стылістычнае напаўненне, чым папярэдняе слова. Так, нейтральнае слова *смяяцца* і прастамоўны фразеалагізм *скаліць зубы* (‘смяяцца, рагатаць, насміхацца з каго-н.’) адрозніваюцца семантычна і стылістычна і, ужываючыся побач, ствараюць узыходную градацыю: «І *смяяліся* хлопцы, і *зубы... скалілі* – але смех гэты, рогат хлапечы не радаваў неяк, не весяліў...» [83, т. 3, с. 469]. Параўн. таксама *перахітрыць* і *збіць з толку* (каго) (‘выклікаць замяшанне, разгубленасць; заблытаць’); *скарыцца* і *стаць на калені* (перад кім) (‘падпарадкавацца каму-н., прызнаўшы сябе пераможаным’); *жыва* і *на адной назе* (‘вельмі хутка, мігам’): «Перабіраліся мы ўначы па льду, каб ... *перахітрыць* немца, *збіць* яго *з толку*» [83, т. 2, с. 160]; «Беларускі народ... *не скарыўся* ворагу, *не стаў* перад ім *на калені*» [83, т. 7, с. 219]; «Пакліч да мяне камандзіра, ды *жыва, на адной назе* каб...» [83, т.1, с. 361].

Часта фразеалагізмы выкарыстоўваюцца ў якасці ўдакладняльнага члена да папярэдняга слова, семантычна і стылістычна бяднейшага за фразеалагізм. У творах М. Лынькова такую ролю выконваюць наступныя найчасцей ужывальныя групы фразеалагізмаў:

1) выразы, якія паходзяць з параўнальных зваротаў: «Дый нашто яму дакументы, нашто тое прозвішча, калі і так кожны *добра* ведае, *як аблупленага*» (‘вельмі добра, да дробязей’) [83, т. 1, с. 131].

2) фразеалагізмы з кампанентам *хоць*, што маюць уступальна-загадную канструкцыю: «Іншы раз слухаеш, слухаеш, ды і роздум нападзе. *Нічога, хоць забі*, не разумееш. Адкуль ён толькі слоў панабіраўся такіх!» [83, т. 6, с. 575]; «Выйшаў я з будкі ўперад на пляцоўку. *Цёмна* там, *хоць вока выкалі*» [83, т. 1, с. 212].

Часам градацыя можа стварацца двума семантычна блізкімі, але не сінанімічнымі фразеалагізмамі, што стаяць побач: «І было сорамна, што раней вось *сядзела склаўшы рукі*, *пальцам аб палец не вытркнула*...» [83, т. 1, с. 199]. У дадзеным кантэксце другі фразеалагізм сэнсава багацейшы за першы; *сядзець склаўшы рукі* – гэта ‘бяздзейнічаць’, а і *пальцам аб палец не вытркнуць* – ‘нічога не зрабіць, нічым не дапамагчы каму-н.’.

Разгледзім цяпер функцыі кампазіцыйна-канструкцыйнай накіраванасці. Тут маюцца на ўвазе выпадкі, калі фразеалагізмы ўдзельнічаюць у пабудове фабулы мастацкага твора або выступаюць у

якасці яго канцоўкі. Найчасцей такія функцыі ў М. Лынькова рэалізуюцца ў публіцыстычных творах сатырычнага характару.

**Функцыя сюжэтнай асновы твора.** Фразеалагізмы, якім уласціва вобразнасць і патэнцыяльная сюжэтнасць, могуць выкарыстоўвацца ў ролі сюжэтнага ядра мастацкага твора. У такіх выпадках вобраз, пакладзены ў аснову фразеалагізма, у разгорнутым выглядзе кладзецца і ў аснову твора. Напрыклад, на аснове выклічнікавага фразеалагізма *соль у вочы* (каму), тройчы ўжытага пісьменнікам, разгортваецца змест артыкула «Вайна» і соль». У ім з гумарам апавядаецца, як дзве бабулі ў вёсцы спрачаюцца паміж сабой, неаднойчы кідаючы адна адной «*соль у вочы*», пры гэтым аўтар творча абыгрывае згаданы фразеалагізм на працягу ўсяго твора, ужывае гэты выраз у адносінах да зусім іншых жыццёвых сітуацый (так, напрыклад, расказваецца пра збыт солі падчас вайны). Акрамя таго, пісьменнік выкарыстоўвае кампанент згаданага фразеалагізма ў якасці загалоўка («Вайна» і соль») і заключнага акорда: «А некаторыя дзядзькі чухаюць цяпер патыліцы: «Куды *соль* дзець?» І гора цяпер з *соллю*, яна і падзешавела, і некуды яе збыць, хоць ты астаўляй яе да другой «вайны». Вось якія з’явы бываюць часам з «вайной» і з *соллю*» [83, т. 6, с. 36].

Часта твор будуецца на абыгрыванні літаральнага значэння кампанентаў, нібыта не фразеалагізм пакладзены ў аснову сюжэта, а суадноснае з ім свабоднае словазлучэнне. Значэнне фразеалагізма завуалявана ў падтэксце твора і ўяўляе сабой аснову для фармулёўкі яго галоўнай ідэі. Так, выраз *вастрыць зброю* (‘рыхтавацца да ўзброенай барацьбы з кім-н.’) лёг у аснову публіцыстычнага артыкула «Вострацъ сякеры беларусы». У фразеалагізме *вастрыць сякеры* назіраем аўтарскі варыянт назоўнікавага кампанента (*зброю* – *сякеры*). Гэты фразеалагізм выкарыстоўваецца таксама ў функцыі канцоўкі эпізоду як своеасаблівы вывад да сказанага, пры гэтым пераасэнсоўваецца і, акрамя пераноснага значэння, якое прысутнічае ў падтэксце твора, успрымаецца як дзеяслоўнае словазлучэнне з прамым сэнсам: «І рука цягнецца да *сякеры*. Без *сякеры* не наладзіш ні бараны, ні сеялкі... Старанна ходзіць брусок, наводзячы глянец і бляск на гарачае лязо. І калі зазіхацяць на вастрыі сонечныя жаўрукі, кладзе *сякеру* беларус у непрыкметным месцы пад лаўкай. Хавае і чуе: па ўсім сяле *вострацъ сякеры* беларусы. Навошта? На ўсякі выпадак...» [83, т. 6, с. 173].

**Фразеалагізмы ў ролі канцоўкі эпізоду, раздзела.** Фразеалагізмы выкарыстоўваюцца многімі аўтарамі ў якасці заключнага акорда да эпізоду, раздзела, твора, бо гэтыя моўныя адзінкі здольны

лаканічна, але ў той жа час трапна характарызаваць асобу, прадмет, з'яву, сітуацыю, выступаць як вывад да сказанага. Многімі фразеалагізмамі, дзякуючы іх абагульненаму, але разам з тым канкрэтнаму значэнню, «часта можна закончыць спрэчку і даказаць сваю думку лепш, чым якімі-небудзь тэарэтычнымі довадамі» [33, с. 266].

Выразам *вытрымаць марку* М. Лынькоў заканчвае апавяданне «На вялікай хвалі». У творы расказваецца пра былога арыштанта, які нарэшце знайшоў правільную дарогу ў жыцці. У фінале апавядання галоўны герой Сенька Пішчык піша ліст, у якім гаворыць, што ён стаў іншым чалавекам і працуе матросам на гідраграфічным судне: «А ў гэтым ты не сумнявайся, твой Сямён Архіпавіч *вытрымае марку*...». І далей ужо ў маўленні апавядальніка аптымістычна гучыць наступнае: «Сумнявацца ў тым не было падстаў. *Марку* Сямён Архіпавіч *вытрымае* заўсёды» [83, т. 1, с. 341]. Лаканічна заканчваецца апавяданне «Саўка-агіцірнік» дзякуючы фразеалагізму *наша ўзяла* ('мы перамаглі, па-нашаму, па-мойму выйшла'). У творы апісваецца, як прынцыповы Саўка ў сваёй пазіцыі адносна калгаснага кіраўніцтва атрымлівае ў рэшце рэшт перамогу: «А ўсё ж такі *наша ўзяла*...» [83, т. 1, с. 228].

Фразеалагічнымі адзінкамі можа завяршацца не толькі твор, але і асобныя яго часткі, раздзелы. Так, у апавяданні «Журавель мой, журавель...» маці Вяруські так мяркуе пра свайго зяця Аркадзя Ермалаевіча: «Каб з кім другім, ці з ім *зварыш піва*...» [83, т. 1, с. 156]. У дадзеным кантэксце фразеалагізм *піва не зварыш* выкарыстоўваецца ў ролі заключнага акорда да раздзела і ў той жа час з'яўляецца сродкам адмоўнай характарыстыкі персанажа. Своеасаблівым вывадам да эпізоду публіцыстычнага артыкула «Падзея гістарычнай важнасці», у якім ідзе гаворка пра барацьбу і ідэйную неаднароднасць літаратурных аб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша», «Полымя» і інш., з'яўляецца фразеалагізм *хто ў лес, хто па дровы*: «[Аб'яднанні] зацята спрачаліся, перакідвалі свае грахі, свае недахопы на чужыя плечы. Адным словам, кожны цягнуў у свой бок, як гаворыцца ў вядомай прымаўцы – *хто ў лес, хто па дровы*» [83, т. 7, с. 661].

## § 3. З тэксталагічных назіранняў за ўжываннем фразеалагізмаў

Да праблемы стылістычных функцый фразеалагізмаў, іх мэтавага прызначэння ў творах М. Лынькова маюць непасрэднае дачыненне і такія пытанні, як тэксталагічны аналіз і частотнасць фразеалагічных адзінак, выкарыстаных пісьменнікам.

Як адзначаў М. Лынькоў, «мова, слова – гэта асноўны матэрыял літаратуры. Пісьменнік, ствараючы свой твор, карыстаецца не фарбамі, не гукамі, як робяць гэта мастакі і кампазітары. Пісьменнік карыстаецца словам. Слова для яго як цэгла для каменшчыка. Таму ён і павінен дасканала ведаць слова і ўмець ім карыстацца» [83, т. 8, с. 226]. Гэтым М. Лынькоў і кіраваўся ў сваёй творчасці, уносячы змены ў некаторыя творы нават тады, калі яны ўжо былі выдадзены і высока ацэнены чытачом. Гэта сведчыць аб вялікай патрабавальнасці аўтара да сябе, да мастацкага ўзроўню сваіх твораў, якія ён неаднойчы перарабляў з мэтай удасканалення іх ідэйнага зместу, кампазіцыйнай структуры, псіхалагічнай характарыстыкі герояў. Так, раман-эпапея «Векапомныя дні» ў чатырох кнігах ствараўся на працягу 14 гадоў (з 1942 па 1956), а пасля яшчэ не раз перарабляўся. Аўтарскія змены тэксту першапачатковага выдання рамана (1958 г.) вяліся ў асноўным па трох напрамках: кампазіцыйная перабудова твора, дапрацоўка і ўдакладненне вобразных характарыстык, звязанае з паглыбленнем псіхалогіі герояў, і моўна-стылёвая праўка. Многія крытыкі, ацэньваючы выданне 1968 года (яно ўвайшло ў «Поўны збор твораў пісьменніка ў 8 тамах» – 1981–1985) [83], адзначаюць, што твор у параўнанні з першай яго версіяй (1958 г.) «стаў больш дынамічным, кампактным і кампазіцыйна больш завершаным, паглыбіўся яго псіхалагізм, што, зразумела, павысіла яго эстэтычную і ідэйна-мастацкую якасць, хоць у той жа час раман захаваў сваю ранейшую эпічную манументальнасць» [66, с. 77].

Тэксталагічны аналіз (параўнанне выдання 1958 г. з выданнем 1968 г.) асобных урыўкаў рамана-эпапеі паказаў, што змены закранулі не толькі кампазіцыйны бок і вобразную сістэму твора. Сустракаюцца і нярэдкія аўтарскія моўныя праўкі, звязаныя з ужываннем фразеалагізмаў. Пісьменнік добра ведаў народную культуру, мову, умела карыстаўся фразеалагізмамі, цудоўна разумеў важную выяўленчую ролю гэтых «моўных самацветаў», па-мастацку іх выкарыстоўваў. Вядома, што любы твор, калі ў ім зусім ці амаль адсутнічаюць фразеалагізмы, уяўляецца бедным, бясколерным, падобным на няўдалы пераклад з чужой мовы. Аднак і перанасычэнне мовы некаторых твораў фразеалагізмамі не прыводзіць да павышэння іх мастацкай вартасці. Галоўнае тут – не колькасць гэтых моўных адзінак, а іх арганічнасць, натуральнасць і матываванасць увядзення ў пэўны кантэкст. М. Лынькоў мэтазгодна выкарыстоўваў фразеалагізмы, а нярэдка ўносіў сякія-такія змены, шліфуючы гэтым мову сваіх твораў. Натуральна, што пры скарачэнні

некаторых урыўкаў ці нават цэлых раздзелаў эпапеі «Векапомныя дні» пісьменнік адпаведна апускаў і фразеалагізмы.

Выяўляюцца і іншыя аўтарскія праўкі. Так, маўленне партызана Чмаруцькі «ачышчана» ад празмернага ўжывання выразу *брат ты мой*, які ў выданні 1958 года сустракаўся ледзь не ў кожнай рэпліцы гэтага персанажа.

Замест слова ў некаторых выпадках аўтар выкарыстоўвае фразеалагізм, каб узмацніць экспрэсіўнасць выказвання. Так, слова *падурнець* замяняецца размоўным фразеалагізмам *з'ехаць з глузду* (у значэнні 'дзейнічаць неразумна, рабіць глупства'): «Божа мой, няйначай вы ўсе сягоння *падурнелі*!» [84, т. 4, с. 105] – «Божа мой, няйначай вы ўсе сягоння *з глузду з'ехалі*!» [83, т. 5, с. 421]. Падобныя па значэнні словазлучэнні *пад свой загад*, *пад сваю каманду* заменены фразеалагізмам *у распараджэнні* (каго, чыім): «І калі я патрэбен табе як добры салдат, *бяры мяне пад свой загад*, *пад сваю каманду* [=я *заўсёды ў тваім распараджэнні*]» [83, т. 4, с. 468]. Параўн. таксама: «Напалоханы шумам, у пакой заглянуў доктар і, даведаўшыся *аб яго прычыне* (= *у чым справа*), сам далучыўся да агульнай радасці» [83, т. 5, с. 613]. Відаць, аўтар заўважыў, што ў першапачатковым варыянце сказ пабудаваны няправільна, бо назоўнік *шум* павінен знаходзіцца непасрэдна перад словазлучэннем *аб яго* (шуму) *прычыне.* Няправільнае размяшчэнне слоў робіць сэнс выказвання незразумелым. Таму пісьменнік і змяняе гэты сказ.

Ёсць і адваротная сітуацыя, калі фразеалагізм замяняецца словам ці словазлучэннем. Напрыклад, выраз *мокрая курыца* ('слабавольны, бесхарактарны чалавек'), які, як адзначана ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» [76, т. 1, с. 551], не ўжываецца ў множным ліку, аўтар недакладна выкарыстоўвае якраз у такой форме (*мокрыя курыцы*). У перавыданні твора адсутнічаюць словы *вы не салдаты,* а замест згаданага фразеалагізма назіраем не менш экспрэсіўнае слова *слюнцяі*: «[Нямецкі афіцэр:] Я загадаю расстраляць вас усіх, мярзотнікі, вы не салдаты, а *мокрыя курыцы*!..» [84, т. 4, с. 279] – «[Нямецкі афіцэр]: Я загадаю расстраляць вас усіх, мярзотнікі, *слюнцяі*!..» [83, т. 5, с. 548].

У рэдкіх выпадках аўтар замяняе адзін фразеалагізм другім. Так, замест размоўнага выразу *пускаць слязу* ('старацца разжаліць, выклікаць да сябе спачуванне') ужываецца прастамоўная фразеалагічная адзінка, вельмі блізкая па значэнні – *распускаць нюні* ('надакучліва скардзіцца, жаліцца'): «Старэйшы то выхваляўся, то *спрабаваў слязу пускаць*» (= *ужо нюні распусціў*») [83, т. 4, с. 357]. Праўка надае выказванню больш выразную іранічнасць. Фразеалагізм

*ні на крок* заменены больш прыдатным для маўленчай сітуацыі выразам *ні кроку*, які ў сваім першым значэнні выражае загад, каманду каму-небудзь не рухацца, а выраз *ні на крок* мае іншыя значэнні [76, т. 1, с. 529–530], таму аўтар і палічыў патрэбным замяніць яго: «А міну ўсё ж прынясі і здай. І наперад запомні: без майго ведама *а ні кроку*. Зразумеў?» [83, т. 5, с. 565].

Іншы раз пісьменнік, дабіваючыся адназначнага ўспрыняцця пэўнага тэксту, дадае да аднаго слова яшчэ адно, сугучнае з фразеалагічным кампанентам, і, такім чынам, слова замяняецца фразеалагізмам. Так, у выданні 1958 года было: «Я ж учора вочы праплакала, чакаючы. А цябе няма і няма. Думаю, арыштавалі цябе гэтыя злыдні, бо яны ж усё ў хаце *дагары* паставілі, нечага шукаючы» [84, т. 4, с. 165]. Да слова *дагары* М. Лынькоў дапісвае кампанент *нагамі*, атрымліваецца фразеалагізм *дагары нагамі*.

Сустракаюцца змены ў граматычнай структуры фразеалагізмаў: *задраўшы носа – задраўшы нос*, *прыбраць з свету – прыбраць са свету*, *на двары – на дварэ* і пад. Ёсць і арфаграфічныя праўкі. Так, у першапачатковым выданні неаднойчы сустракаем фразеалагізмы ў такім напісанні: *раз-за-разам, раз-по-разу, як-ні-як, час-ад-часу*, якое не адпавядае сучасным арфаграфічным нормам. Аднак рускае *время от времени* ў «Руска-беларускім слоўніку» (1953) перакладаецца як *час-ад-часу* [93, с. 74], і таму напісанне некаторых згаданых выразаў да 1959 года, калі былі прыняты новыя арфаграфічныя правілы, было нормай. У перавыданні гэта выпраўлена згодна з сучасным правапісам (*раз за разам, раз-поразу, як-ніяк, час ад часу*).

Аналіз каментарыяў да збору твораў пісьменніка выявіў, што аўтар уносіў некаторыя змены ва ўжыванне фразеалагізмаў і ў сваіх апавяданнях, і ў аповесцях. Тут назіраем моўныя праўкі разнастайнага характару:

1. Апушчэнне фразеалагізмаў: «Варту перабілі і, *божа мой божа*, уцяклі» – «Варту перабілі і ўцяклі» [83, т. 2, с. 93], «То ж *як-ніяк* і на нашу вуліцу прыйшло нарэшце такое вялікае і доўгачаканае свята» – «То ж і на нашу вуліцу прыйшло нарэшце такое вялікае і доўгачаканае свята» [83, т. 2, с. 121].

2. Замена фразеалагізма словам ці словазлучэннем. Так, замест фразеалагізма *навастрыць вушы* ўжыты дзеяслоў *насцярожыцца*: «Пачуўшы словы на незнаёмай ім мове, дзяўчаты адразу *навастрылі вушы* (= *насцярожыліся*)» [83, т. 2, с. 307]. Каб пазбегнуць паўтарэння, пісьменнік замест фразеалагізма *праліваць кроў* (за каго) (у значэнні ‘гінуць, паміраць ці пакутаваць, абараняючы каго-, што-н.’) выкарыстоўвае словазлучэнне *аддаць жыццё*: «І нам сказалі, што яна вітае

савецкіх людзей, бо яны *пралілі* так *багата крыві* за тую справу, за якую *праліў сваю кроў* (=*аддаў* сваё *жыццё*) і яе муж» [83, т. 2, с. 428]. Прастамоўны фразеалагізм *круціць хвастом* у адным са сваіх значэнняў мае сэнс 'легкадумна паводзіць сябе, гуляць з многімі' і выражае адмоўную ацэнку таго, пра каго ідзе гаворка. У М. Лынькова гэты выраз быў ужыты ў няправільнай, неўласцівай яму форме – *круціць хвост*, таму, відаць, пісьменнік у апошняй рэдакцыі замяніў гэты выраз дзеясловам *гуляць*: «Ты ж з ім *гуляла*» [83, т. 1, с. 247]. Фразеалагізм *цот у цот* у значэнні 'абсалютна дакладна, без якіх-н. адхіленняў' заменены (думаецца, не лепшым чынам, памылкова) спалучэннем *як цот*: «Чакаю і думаю: забіць мо і не заб'юць, бо за апошнія часы не было такіх выпадкаў, а што абяруць за мілую душу – гэта ўжо *як цот* – не адчэпішся» [83, т. 1, с. 187].

3. Замена словазлучэння фразеалагізмам. Напрыклад, у аповесці «Апошні зверыядавец» замест спалучэння слоў *у гэтым няясным гуку* ўжыты фразеалагізм *што да чаго*, больш прыдатны да маўленчай сітуацыі: «Каведла і Яшка насцеражыліся, сышлі з ганка і пайшлі па дарожцы ад клуба, каб бліжэй пачуць і разабрацца *ў гэтым няясным гуку* (= *што да чаго*) [83, т. 3, с. 66]. Праўка робіць выказванне больш зразумелым і лаканічным.

Як бачым, пісьменнік увесь час шукаў патрэбнае слова ці фразеалагізм, прыдатныя для пэўнай маўленчай сітуацыі, выпраўляў некаторыя памылкі, гэтым самым шліфаваў мову сваіх твораў. І як шчыры запавет маладым творцам і сёння актуальна гучаць ягоныя словы: «Удасканальвайце мову, вывучайце слова. А зрабіць гэта можна толькі пры дапамозе вялікай і настойлівай працы» [83, т. 8, с. 230].

## § 4. Пра частотнасць фразеалагізмаў у творах М. Лынькова

Вывучэнню фразеалагізмаў з боку іх функцыянальнай ролі ў творах таго ці іншага пісьменніка ў значнай ступені дапамагаюць колькасныя метады. А.І. Фёдараў піша: «Паспяховаму вывучэнню сістэмы вобразных сродкаў мовы, асобных сродкаў пісьменніка і яго мовы ў цэлым павінны дапамагчы колькасныя метады вывучэння мовы: адбор адных моўных сродкаў за кошт другіх, частата іх выкарыстання, паслядоўнасць размяшчэння слоў, уласцівая пэўнаму аўтару, суадносіны моўных элементаў у сістэме вобразных сродкаў – усё, што складае спецыфіку стылю кожнага асобнага пісьменніка і што можна адлюстраваць толькі з дапамогай дакладных метадаў

лінгвістычнага даследавання» [101, с. 90]. Таму без дакладнага ўстанаўлення колькасці фразеалагічных адзінак нельга адназначна гаварыць пра багацце фразеалагічнага слоўніка пэўнага аўтара. Па гэтай прычыне агульна гучыць сцвярджэнне даследчыка лынькоўскай творчасці Ф.І. Куляшова наконт багацця мовы рамана-эпапеі «Векапомныя дні»: «У рамане прыкметна выявілася ўласцівае М. Лынькову высокае майстэрства ў перадачы своеасаблівасці народнай беларускай мовы. Пісьменнік шчодра насыціў «Векапомныя дні» мноствам народных прыказак, прымавак, крылатых слоў, ідыяматычных выразаў, заўсёды яркіх і сакавітых, выкарыстаў тое славеснае багацце, якім спрадвеку валодае народ» [67, с. 166–167].

Усяго ў творах М. Лынькова налічваецца 2516 фразеалагізмаў, а іх ужыванняў – 12901 (у тым ліку і ў рускіх тэкстах). Агульны аб’ём слоў складае прыкладна 1 500 000, аб’ём тэкстаў – 4 688 старонак. Атрымліваецца, што адзін фразеалагізм прыходзіцца прыкладна на 116 слоў.

У лік фразеалагізмаў, выкарыстаных М. Лыньковым, увайшлі і 8 не зафіксаваных слоўнікамі выразаў з цэласным значэннем, нераскладальным на асобныя лексічныя значэнні кампанентаў. Гэта або створаныя самім пісьменнікам, або пачутыя ў народнай мове выразы, якія, на нашу думку, варта лічыць рэзервам для папаўнення фразеалагічнага складу літаратурнай мовы: *абедня сапсута* ‘парушаны чые-н. планы, справы, намеры’ [83, т. 8, с. 441]; *ад кропкі да кропкі* ‘поўнасцю, абсалютна ўсё’ [83, т. 2, с. 419]; *даруй божа* ‘выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага, недапушчальнага’ – 18 ужыванняў [83, т. 3, с. 304; т. 3, с. 450; т. 3, с. 453; т. 4, с. 240; т. 5, с. 341 і інш.]; *збіць з ног* (каго) ‘паваліць на зямлю, падлогу’[83, т. 4, с. 287]; *іш ты* ‘вокліч здзіўлення, недаверу, пагрозы і інш.’ – 13 ужыванняў [83, т. 3, с. 346; т. 3, с. 371; т. 4, с. 182; т. 4, с. 343; т. 5, с. 341 і інш.]; *каб немач* (на каго) ‘выказванне прыкрасці, абурэння, злосці і пад.’ – 9 ужыванняў [83, т. 3, с. 291; т. 3, с. 346; т. 3, с. 569 і інш.]; *мазоліць мазгі* ‘напружана думаць, задумацца’ – 2 ужыванні [83, т. 2, с. 419; т. 6, с. 223]; *на сённяшні дзень* ‘у сучасны момант, на цяперашні час’ – 31 ужыванне [83, т. 6, с. 318; т. 6, с. 510; т. 7, с. 484; т. 7, с. 506; т. 8, с. 334 і інш.].

Вядома, што фразеалагізмы – гэта выразы, яркасць і непаўторнасць якіх, падобна іншым моўным сродкам, пры іх нематываваным паўтарэнні ў мастацкіх тэкстах часткова страчваецца, што неаднойчы падкрэслівалася ў навуковай літаратуры: «Добры аўтар не павінен ужываць у адным творы адзін і той жа фразеалагізм у той самай форме і аднолькавым значэнні больш чым адзін раз, калі гэта

чымсьці не абумоўліваецца» [74, с. 115]; «маўленне тым багацейшае, чым радзей паўтараюцца ў ім адны і тыя ж знакі і ланцужкі знакаў» [48, с. 214]. Мусім, аднак, зазначыць, што ў дачыненні да многіх твораў М. Лынькова, асабліва значных сваім памерам, гэта асаблівасць ужывання фразеалагізмаў дапасуецца далёка не заўсёды: вельмі многія фразеалагічныя адзінкі паўтараюцца даволі часта. Гэта не датычыцца тых нярэдкіх выпадкаў, калі паўтарэнне адных і тых жа фразеалагізмаў у адным творы стылістычна апраўданае, бо дапамагае, напрыклад, узмацніць экспрэсію выказвання: «Давай, давай, не шкадуй аганьку! *Так ім, так ім*, праклятым!» [83, т. 5, с. 497]; «*На* іх *вачах* забівалі маці, *на* іх *вачах* гарэлі родныя хаты, *на* іх *вачах* расстрэльвалі бацькоў і павесілі братоў» [83, т. 6, с. 204]. Апраўданым варта лічыць і паўтарэнне фразеалагізмаў у суседніх рэпліках: «– А дзе цяпер гэты Андрэй? – Дзе ж яму быць? Камуністы ўсе падаліся з войскам, ім тут аставацца *не палоса*. – *Не палоса*! Багата ты ведаеш» [83, т. 4, с. 108]; «– Тут лішняя сотня!.. – Бог з ёй, з той сотняй, гэта табе *на чай*. – *На чай*, дык *на чай*, спатрэбяцца і яны!» [83, т. 5, с. 340].

У навуковай літаратуры прапануецца наступны падзел фразеалагізмаў паводле частаты іх ужывання: высокачастотныя, сярэднечастотныя, нізкачастотныя [71, с. 96–99]. Адпаведна і ў творах М. Лынькова можна вылучыць 3 групы фразеалагізмаў:

1) высокачастотныя (г. зн. ужытыя больш за 10 разоў);
2) сярэднечастотныя (2–10 ужыванняў);
3) нізкачастотныя (ужытыя толькі адзін раз).

Высокачастотных фразеалагізмаў налічваецца 232 (9,2 % ад агульнага ліку): *на <адну> мінуту (мінутку), на <адну> хвіліну (хвілінку)* (247); *можна сказаць* (228); *адным словам* (у значэнні пабочнага кампанента) (164); *у думках* (83); *што <і> казаць (гаварыць)* (78); *<сабе> пад нос* (76); *вось-вось (во-во, вот-вот)* (74); *той ці іншы* (72); *усё роўна* (57); *так званы* (55); *на табе!* (49); *ва ўсякім (у кожным разе)* (45); *з усіх бакоў* (40); *клопат вялікі* <каму> (40); *і так* (38); *кідацца (кінуцца) у вочы* (каму) (37) і інш. Цяжка вытлумачыць такую празмерную прыхільнасць пісьменніка да ўжывання згаданых выразаў, якія нават у адным творы неаднаразова паўтараюцца. Напрыклад, выраз *вось-вось* і яго варыянты *во-во, вот-вот* у двух слоўнікавых значэннях [76, т. 1, с. 186] 29 разоў ужыты ў рамане-эпапеі «Векапомныя дні», 15 разоў у рамане «На чырвоных лядах», 6 разоў – у аповесці «Міколка-паравоз», 5 разоў ў аповесці «Апошні зверыядавец», 4 разы – у аповесці «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў». Фразеалагізм *усё роўна* ў 1, 2 і 4-м значэннях

[76, т. 2, с. 496–497] 16 разоў выкарыстаны ў эпапеі «Векапомныя дні» і ў рамане «На чырвоных лядах», 7 разоў – у аповесці «Апошні зверыядавец», па 2 разы ў апавяданнях «Талісман», «Салют», «Беня-балагол». Тут, відаць, можна спаслацца на крытычнае выказванне А. Архангельскага: «Прычына бяздумнага жангліравання стандартнымі фразамі заключаецца ў тым, што яны заўсёды пад рукой і служаць своеасаблівай палачкай-выручалачкай, а жадання мучыцца ў пошуках новага слова няма…» [6, с. 39].

У лік высокачастотных трапілі некаторыя фразеалагізмы, якія абазначаюць разнастайныя пачуцці чалавека і выражаюць пэўныя эмоцыі (*разяўляць рот* – 19 ужыванняў; *вешаць (апускаць) нос (насы), павесіць (апусціць) нос (насы)* – 14 ужыванняў; *галава кружыцца* (у каго)*, галава закружылася* (у каго) – 14 ужыванняў; *абліваца (залівацца) слязамі (слязьмі), абліцца (заліцца) слязамі (слязьмі)* – 11 ужыванняў).

Фразеалагізмы з сярэдняй частотнасцю (1123) складаюць 44,6 % ад агульнай колькасці: *выдаваць (выдаць) сябе* (8); *агнём і мячом* (4); *плоць ад плоці* (чыёй, каго) (4); *браць (узяць) верх* (над кім, над чым) (5); *аддаваць (аддаць) належнае* (каму, чаму) (4); *тачыць зубы* (на каго, на што) (3); *ведай (знай) нашых!* (4); *<як> кот наплакаў* (каго, чаго) (4); *дух вон* (з каго) (4); *пачым фунт ліха* (2); *<і> не лыс* (2); *вочная стаўка* (3) і інш.

Да сярэднечастотных фразеалагічных адзінак адносіцца таксама большасць выразаў з кампанентамі *душа*, *сэрца*: *душа (сэрца) баліць* (у каго) (3); *сэрца гарыць* (чыё, у каго) (7); *душа (сэрца) не ляжыць* (чыя, у каго) (3); *сэрца ные (ныла)* (у каго) (6) і пад.

Нізкачастотныя фразеалагізмы (1161) складаюць 46 % ад агульнай колькасці. «Як у лексіцы багацце слоўніка пісьменніка заключаецца пераважна ў «рэдкіх» словах, так і ў фразеалогіі гаварыць пра разнастайнасць і багацце фразеалагічнага слоўніка пэўнага аўтара можна толькі кіруючыся колькаснымі паказчыкамі «рэдкіх» выслоўяў» [71, с. 99]. Да такіх рэдкіх выразаў у творах М. Лынькова адносяцца фразеалагізмы, якія ўтрымліваюць у сваім значэнні найбольшую экспрэсіўнасць: *аднаго балота чэрці*, *абуць у лапці* (каго), *адамаў яблык*, *аддаць духі*, *антонаў агонь*, *браць быка за рогі*, *вешацца на шыю* (каму), *вочы на мокрым месцы* (у каго), *выпусціць кішкі*, *дзяцей не хрысціць* (з кім), *як мыш на крупы*, *есці поедам* (каго), *задраць ногі*, *курам на смех*, *праветрываць мазгі*, *пусці павалюся*, *усыпаць гарачых* (каму), *панургаў статак*, *пастухова Ганна* і інш.

Пры вывучэнні пытання пра частотнасць фразеалагізмаў варта

звярнуць увагу на колькасць гэтых моўных адзінак у творах розных жанраў. Падлікі паказалі, што М. Лынькоў прыкладна з аднолькавай частатой ужывае фразеалагізмы ў апавяданнях, раманах і лістах. Так, на 100 старонак тэксту ў апавяданнях налічваецца 364 фразеалагічныя адзінкі [83, т.1, с. 100–200], у рамане-эпапеі – 328 [83, т. 5, с. 100–200], у лістах – 369 фразеалагізмаў [83, т. 8, с. 50–150], – г.зн. на адной старонцы тэксту налічваецца прыблізна 3 фразеалагізмы. Значна менш фразеалагічных адзінак у публіцыстычных творах пісьменніка: на 100 старонак тэксту сустракаем 249 фразеалагізмаў [83, т. 7, с. 200–300]. Публіцыстычныя артыкулы складаюць даволі значную частку творчай спадчыны пісьменніка, аднак у дачыненні да выкарыстання фразеалагічных адзінак такія творы не пазбаўлены хібаў. Так, у некаторых выпадках назіраем паўтарэнні пэўных выразаў у адным творы і нават у адным сказе, прычым такое паўтарэнне не нясе ні сэнсавай, ні стылістычнай нагрузкі. Напрыклад, у артыкуле «Амерыканскі лад жыцця» на трох старонках тэксту ўжыта 9 фразеалагізмаў, выраз *залаты мяшок* паўтараецца двойчы, а фразеалагізм *так званы* ў яго другім слоўнікавым значэнні ('які не заслугоўвае сваёй назвы') 4, прычым два разы – у адным сказе [83, т. 7, с. 269]. У артыкуле, прысвечаным Якубу Коласу, тройчы паўтараецца фразеалагізм *той ці іншы*, па два разы – адпаведна выразы *для прыліку* і *ў першую чаргу*. Падобную карціну назіраем у многіх публіцыстычных творах пісьменніка, дзе некаторыя фразеалагічныя адзінкі з-за іх празмернага паўтарэння ператвараюцца ў трафарэты, у маўленчыя штампы твора. Значная колькасць паўтораў у публіцыстыцы тлумачыцца яшчэ і тым, што галоўнае ў творах такога жанру – іх ідэйнасць (асабліва ў артыкулах ваеннай тэматыкі), разлічанасць на шырокія масы насельніцтва. Гэта аднадзённыя, заказныя творы, але яны таксама з'яўляюцца значнай часткай творчай спадчыны пісьменніка, таму і патрабуюць у роўнай ступені такога ж даследавання, як і проза.

Іншая сітуацыя назіраецца пры ўжыванні фразеалагічных адзінак у апавяданнях і аповесцях пісьменніка, у якіх аўтар імкнецца па магчымасці з пачуццём меры і мастацкай мэтазгоднасці ўжываць фразеалагізмы.

Так, апавяданне «Андрэй Лятун» багатае на фразеалагізмы. Тут на 12,5 старонках тэксту сустракаем 65 фразеалагізмаў, прычым усе паўтарэнні стылістычна абумоўлены. Тройчы ўжыты фразеалагізм *як след* з'яўляецца маўленчай характарыстыкай галоўнага героя – чыгуначніка Андрэя. Фразеалагізм *на табе* двойчы ўжываецца ў маўленні Івана і таксама выступае ў ролі маўленчай характарыстыкі.

Каб пазбегнуць паўтораў, пісьменнік карыстаецца варыянтнасцю: *на мінуту – на хвіліну*, *<сабе> пад нос – пад нос*, *над <самым> вухам – над вухам* і інш.

У апавяданні «Над Бугам» сярод 28 фразеалагізмаў паўтараюцца толькі 4 выразы, з іх 3 выступаюць у якасці маўленчай характарыстыкі Ваські Шкетава (*ёлкі зялёныя, ёлкі-палкі, ёлкі зялёныя*), а адзін выкарыстаны ў варыянтнай форме: *што казаць – што <і> казаць*.

Апавяданне «Журавель мой, журавель» багата на фразеалагізмы. На 26 старонках знаходзім 69 фразеалагізмаў, з іх 6 паўтараюцца наўрад ці матывавана: *як след* (2), *на хвіліну* (3), *у думках* (2), *пускаць у ход* (2), *што і казаць* (2), *на табе* (2).

Аналіз некаторых іншых апавяданняў («Гой», «На вялікай хвалі», «Чыгунныя песні», «Маньчжур» і інш.) паказаў, што амаль ва ўсіх іх пісьменнік часам неапраўдана паўтарае адны і тыя ж фразеалагізмы: *у думках*, *на здароўе*, *як след*, *на сэрцы*, *хто яго ведае*, *<сабе> пад нос* і інш.

Прааналізаваўшы фразеалагізмы з боку частаты іх ужывання, можна пагадзіцца з думкай І.Я. Лепешава, які ў дачыненні да фразеалагізмаў у творах К. Крапівы піша: «Імкненне пісьменніка не паўтарацца ў першую чаргу адносіцца да кожнага асобнага твора і, відаць, у меншай ступені цалкам да творчасці, бо аўтар не можа ўтрымаць у памяці ўсяго таго, што выкарыстаў з фразеалагічнага багацця» [71, с. 100]. Падобнае можна сказаць і ў адносінах да М. Лынькова, які без прычыны не паўтарае фразеалагізмы ў адным творы, аднак не заўсёды прытрымлівецца гэтага «няпісанага правіла». Калі параўнаць агульную лічбу паўтораў ва ўсіх творах, то адзін фразеалагізм сустракаецца прыблізна 5 разоў. У многіх выпадках вельмі цяжка, а то і зусім немагчыма растлумачыць залішнюю прыхільнасць аўтара да паўтарэння некаторых фразеалагічных адзінак.

РАЗДЗЕЛ 2

## ВАРЫЯНТНАСЦЬ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ У ТВОРАХ М. ЛЫНЬКОВА

Даследуючы спосабы і прыёмы выкарыстання фразеалагізмаў у творах пісьменніка, неабходна размяжоўваць індывідуальна-аўтарскае і агульнанароднае ўжыванне гэтых моўных адзінак. Такой агульнанароднай, агульнамоўнай з'явай выступае варыянтнасць некаторых фразеалагізмаў, г.зн. іх магчымасць рэалізоўвацца ў маўленні ў дзвюх, а то і болей разнавіднасцях, узаемазамяняльных у любым кантэксце. Прычым і тут, як будзе паказана далей, можна бачыць спецыфічнае, характэрнае, відаць, толькі для творчай манеры М. Лынькова. Калі ж не ўлічваць усіх магчымых варыянтаў, уласцівых той ці іншай фразеалагічнай адзінцы на агульнамоўным узроўні, то гэта пры апісанні наўмысных, мэтанакіраваных структурна-семантычных змяненняў фразеалагізма ў творах пісьменніка непазбежна прыводзіць даследчыкаў да суб'ектыўных высноў, як ужо адзначалася ў некаторых навуковых працах [78, с. 10–13].

У манаграфічнай працы І.М. Хлусевіч «Варыянтнасць фразеалагізмаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове» [103] зроблена першая ў нашым мовазнаўстве спроба ўсебаковага, сістэмнага вывучэння фразеалагічнай варыянтнасці. Як паказана ў гэтым даследаванні, каля 31 % фразеалагізмаў беларускай літаратурнай мовы ахоплена з'явай варыянтнасці. Прычынай узнікнення варыянтаў з'яўляецца «супярэчнасць паміж формай і зместам фразеалагізма. Ідэальна фразеалагічнае значэнне, адпрацаванае і замацаванае моўнай традыцыяй, павінна адназначна перадавацца формай, але такая суадноснасць (ці адпаведнасць) пастаянна парушаецца. Справа ў тым, што значэнне фразеалагізма мае тэндэнцыю набываць розныя формы выражэння і наадварот: адна і тая ж фразеалагічная форма імкнецца абслугоўваць розныя моўныя функцыі» [58, с. 168].

Звычайна вылучаюць 8 тыпаў фразеалагічнай варыянтнасці: лексічны, фанетычны, акцэнтны, акцэнтна-фанетычны, словаўтваральны, марфалагічны, канструкцыйна-колькасны, камбінаваны. Гэтыя тыпы варыянтаў вызначаюць на аснове таго, што змяняецца ў фразеалагізме: кампанент ці яго фармальны бок.

У манаграфіі І.М. Хлусевіч паказана, што сярод фразеалагізмаў, для якіх характэрна варыянтнасць, назіраецца шэраг апазіцый. З аднаго боку, выступаюць выразы з лексічнай варыянтнасцю

(з пераменным кампанентам у іх складзе), з другога – з фармальнай (з відазмяненнямі аднаго і таго ж кампанента). І тым, і другім фразеалагізмам, у якіх вар'іраванне заўсёды адбываецца ў межах адной сінтаксічнай канструкцыі, супрацьпастаўляюцца выразы з канструкцыйна-колькаснай варыянтнасцю, у якіх мяняецца колькасць кампанентаў і, значыць, канструкцыя. Што да фразеалагізмаў з камбінаванай варыянтнасцю, то яны знаходзяцца ў апазіцыі да ўсіх пералічаных вышэй выразаў, бо ўтрымліваюць у сабе розныя віды вар'іравання [103, с. 71–72].

Тыпы варыянтаў, якія былі выяўлены ў творах М. Лынькова, паказаны на малюнку 2.1




*Малюнак 2. Варыянты фразеалагізмаў*

## § 1. Лексічныя варыянты фразеалагізмаў

Лексічныя варыянты – гэта «слоўна-кампанентныя разнавіднасці фразеалагізмаў, якія адбываюцца ў межах адной і той жа сінтаксічнай канструкцыі і не ўносяць якіх-небудзь сэнсавых адценняў у змест фразеалагізма» [58, с. 186].

Сярод названых тыпаў варыянтнасці у творах М. Лынькова пераважае лексічны. Зафіксавана 157 фразеалагізмаў з лексічнай варыянтнасцю, некаторыя з іх сустракаюцца па некалькі разоў, таму агульная колькасць ужыванняў складае 323 адзінкі. Для параўнання: словаўтваральных варыянтаў налічваецца 34, марфалагічных – 54, фанетычных – 18, акцэнтна-фанетычных – 4.

Пры лексічнай варыянтнасці могуць замяняцца кампаненты, суадносныя з рознымі часцінамі мовы, але ў большасці выпадкаў – з назоўнікам (54 фразеалагізмы, 90 ужыванняў) і дзеясловам (57 фразеалагізмаў, 144 ужыванні). Разгледзім спачатку фразеалагізмы, у якіх у якасці пераменных кампанентаў выступаюць назоўнікі. У палове выпадкаў яны з'яўляюцца сінонімамі: 1) абсалютнымі, якія супадаюць ва ўсіх сваіх значэннях: *з мінуты на мінуту – з хвіліны на хвіліну* (2 ужыванні)*; на ўсю моц – на ўсю сілу* (3 ужыванні); *к чорту – к д'яблу* (3 ужыванні); *на злосць – на зло* (2 ужыванні); *ні кроплі – ні каплі* [83, т. 7, с. 257]; 2) якія могуць супадаць толькі ў пэўных значэннях полісемантычнага слова: *дзійная рэч – дзійная справа* (2 ужыванні); (супадаюць у значэннях 'факт, з'ява рэчаіснасці'; 'абставіны')[3]; *пракладаць дарогу – пракладаць шлях* (3 ужыванні) – *пракладаць сцежку* [83, т. 7, с. 375]. Праілюструем ужыванне апошняга выразу ў творах М. Лынькова: 1) Літаратура нясе ўсім народам вялікую праўду пра савецкага чалавека, які *пракладвае дарогу* ў светлую будучыню ўсяго чалавецтва [83, т. 7, с. 7]; 2) [Народ] *пракладае* новы *шлях* да чалавечага шчасця, да лепшай будучыні [83, т. 7, с. 386]; 3) Савецкія людзі першымі адкрылі дзверы ў космас і *праклалі* першыя *сцежкі* на прасторах сусвету [83, т. 7, с. 375]. У творах М. Лынькова сустракаем вар'іраванне: 1) на аснове метаніміі: *загнаць у магілу – загнаць у труну* [83, т. 5, с. 54]; *мурашкі пабеглі па целе – мурашкі пабеглі па спіне* [83, т. 1, с. 402] (перанос назвы з месца на тое, што ў ім знаходзіцца); *раскінуць розумам – раскінуць галавой* [83, т. 3, с. 64]; *перабіраць у галаве – перабіраць у памяці* (8

---

[3] Тут і далей дэфініцыі слоў бяруцца з «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы: у 5 т.» – Мінск: БелСЭ, 1977–1983.

ужыванняў) (перанос з назвы прадмета на яго накіраванасць); 2) на аснове сінекдахі: *глядзець смерці ў вочы – глядзець смерці ў твар* [83, т. 7, с. 545]; (перанос з назвы цэлага на яго частку); 3) на аснове метафары: *абліваць граззю – абліваць памыямі* [83, т. 6, с. 109] (перанос назвы на аснове падабенства).

Сярод фразеалагічных варыянтаў з вар'іруемымі назоўнікамі варта вылучыць фразеалагічныя адзінкі, кампаненты якіх не накладваюцца па сваім значэнні на словы свабоднага ўжывання і асацыіруюцца са словамі рознага значэння, што аб'ядноўваюцца ў адно семантычнае поле. На думку У.П. Жукава, такія фразеалагізмы могуць быць вытлумачаны па-рознаму. З аднаго боку, фразеалагізмы тыпу *вынуть душу – вынуть сердце; как с неба свалиться – как с луны свалиться* могуць з'яўляцца разнавіднасцямі адной і той жа фразеалагічнай адзінкі. «З другога боку, тыя ж фразеалагічныя пары можна кваліфікаваць як фразеалагічныя сінонімы, якія маюць у сваім складзе адзін ці некалькі агульных кампанентаў. Нарэшце, адпаведныя ўтварэнні можна разглядаць як прамежкавыя (гібрыдныя) з'явы паміж варыянтнасцю і сінаніміяй» [58, с. 172].

У творах пісьменніка знаходзім 9 прыкладаў замены фразеалагічных кампанентаў *душа – сэрца*: *душа не ляжыць – сэрца не ляжыць* [83, т. 4, с. 588]; *вялікага сэрца – вялікай душы* [83, т. 8, с. 180]; *на дне душы – на дне сэрца* [83, т. 2, с. 49]; *душа крывёй абліваецца – сэрца крывёй абліваецца* [83, т. 4, с. 313] і пад. На нашу думку, дадзеныя кампаненты з'яўляюцца варыянтамі, а не сінонімамі, бо супадаюць у значэнні 'сукупнасць характэрных рыс, уласцівых асобе'. Сэнсавая сувязь паміж кампанентамі і іх здольнасць узаемазамяняцца ў любым кантэксце паказвае, што гэта варыянты: «І страшна, аж млосна робіцца. І добра… *на душы адлягае*» [83, т. 3, с. 34]; «Гінуць чорныя думы, *адлягае на сэрцы*» [83, т. 3, с. 12].

Вар'іраванне дзеяслоўнага кампанента налічваецца ў 57 фразеалагізмах (144 ужыванні). У большасці выпадкаў узаемазамяняльныя дзеясловы, як і назоўнікі, звязаны сінанімічнымі адносінамі. Кампаненты могуць быць абсалютнымі сінонімамі. Так, замену кампанента *пападаць – трапляць* (*папасці – трапіць*) назіраем у 6 фразеалагізмах з розным значэннем: *пападаць у рукі – трапляць у рукі* (15 ужыванняў); *папасці на вочы – трапіць на вочы* (6 ужыванняў); *папасці ў лапы – трапіць у лапы* (4 ужыванні); *зуб на зуб не пападаў – зуб на зуб не трапляў* (4 ужыванні) і інш. Супадаюць у семантычных і стылістычных адносінах наступныя фразеалагізмы і іх варыянты: *што ні кажы – што ні гавары* (4 ужыванні)*; заглянуць у душу – зазірнуць у душу* (2 ужыванні) і інш.

Некаторыя кампаненты (калі іх разглядаць на ўзроўні слоў) супадаюць у адным ці некалькіх значэннях: *браць <блізка> да сэрца* – *прымаць <блізка> да сэрца* (4 ужыванні) (*браць* у 6-ым значэнні – 'умоўна прымаць, лічыць'); *брацца за жываты – хапацца за жываты* (2 ужыванні) (*брацца* ў 1-ым значэнні – 'хапацца рукамі за які-н. прадмет'). Ёсць выпадкі, калі кампаненты (на ўзроўні слоў) адрозніваюцца стылістычнай прыналежнасцю: *піць кроў* – *высмоктваць кроў* [83, т. 1, с. 132] – *смактаць кроў* (2 ужыванні) – *ссаць кроў* [83, т. 3, с. 446], дзе дзеяслоў *піць* – стылістычна нейтральны, а *высмоктваць, смактаць, ссаць* – размоўныя.

У многіх фразеалагізмах пісьменнік выбірае толькі пэўны варыянт. Напрыклад, у выразе *дух выйшаў (вылецеў, выскачыў)* двойчы выкарыстоўваецца дзеяслоўны кампанент *вылецеў*; у фразеалагізмах *не ўкладваецца (не месціцца, не тоўпіцца) у галаве* [83, т. 3, с. 269], *губляць (траціць, страчваць) галаву* [83, т. 5, с. 357], *вывесці (пусціць, спісаць) у расход* [83, т. 3, с. 50] аўтар ужывае адпаведна варыянты *не месціцца, траціць, пусціць.* Ёсць прыклады, дзе М. Лынькоў выкарыстоўвае ўсе варыянты, зафіксаваныя ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы»: *соваць <свой> нос* (куды, у што) – *сунуць <свой> нос* (куды, у што) – *утыкаць <свой> нос* (куды, у што) [76, т. 2, с. 366–367].

Варыянтнасць кампанентаў, суадносных з іншымі часцінамі мовы, сустракаецца радзей. Узаемазамену кампанента-прыметніка назіраем у 10 фразеалагізмах (19 ужыванняў). Пераменныя словы-прыметнікі радзей з'яўляюцца сінонімамі, чым гэта назіралася ў назоўнікавых і дзеяслоўных кампанентах. Звычайна прыметнікавыя кампаненты не супадаюць у сваім значэнні па-за межамі фразеалагізма: *глядзець іншымі вачамі – глядзець новымі вачамі* [83, т. 1, с. 327]; *з голымі рукамі – з пустымі рукамі* (2 ужыванні). Пра варыянт апошняга фразеалагізма ўжо ўпаміналася ў навуковай літаратуры: «У якасці пераменных кампанентаў толькі ў рэдкіх выпадках выступаюць словы, якія па-за межамі фразеалагізма не супадаюць у адным са сваіх значэнняў ці адценняў або не ўваходзяць у адну семантычную групу. Так, немагчыма знайсці пункт сутыкнення паміж узятым на лексічным узроўні словамі *пусты* і *голы*, але ў фразеалагізме *з голымі (пустымі)* рукамі яны ўзаемна замяняюцца і гэта не адбіваецца на вобразным стрыжні выслоўя» [78, с. 22].

Варыянтнасць лічэбнікавага кампанента назіраецца ў адным фразеалагізме: *да сёмага поту – да дзесятага поту* [83, т. 1, с. 82]. Наогул, для пераменнага лічэбнікавага кампанента не характэрны сінанімічныя, метанімічныя, метафарычныя і іншыя сувязі, яго

вар'іраванне даволі рэдкае і абмяжоўваецца толькі лічанымі адзінкамі, а менавіта такімі як *сем, тры, сто, сорак* [83, с. 37].

Займеннікавы кампанент вар'іруецца ў 4 фразеалагізмах (11 ужыванняў): *ад няма чаго рабіць – ад нечага рабіць* (5 ужыванняў); *чаго граху таіць – што граху таіць* (3 ужыванні); *ва ўсякім разе – у кожным разе* (2 ужыванні); *няма чаго бога гнявіць – чаго бога гнявіць* [83, т. 3, с. 546]. Вар'іраванне прыслоўнага кампанента сустракаецца ў 6 фразеалагічных адзінках (8 ужыванняў): *уздыхнуць вольна – уздыхнуць свабодна* [83, т. 3, с. 187]; *бачыць наскрозь – бачыць навылёт* (2 ужыванні); *мякка сцеле <ды мулка спаць> – мякка сцеле < ды жорстка спаць>* [83, т. 5, с. 299] і інш.

Сярод службовых часцін мовы ў 12 выпадках вар'іруюцца прыназоўнікавыя кампаненты (30 ужыванняў), якія выражаюць: часавыя адносіны (*ад цямна да цямна – з цямна да цямна*) [83, т. 4, с. 49]; мэтавыя (*мастацтва для мастацтва – мастацтва дзеля мастацтва*) [64, т. 6, с. 381]; меры і ступені (*на ўвесь дух – ва ўвесь дух* [83, т. 1, с. 232]; *на ўвесь рост – ва ўвесь рост* (3 ужыванні); прычыны (*качацца са смеху – качацца ад смеху*) [83, т. 3, с. 136]. У большасці ўзаемазамяняльныя словы з'яўляюцца сінонімамі: *праз зубы – скрозь зубы* (4 ужыванні); *пятае праз дзесятае – пятае цераз дзесятае* (2 ужыванні), *цераз сілу – праз сілу* (7 ужыванняў) і інш. Па аналогіі з існуючымі ў мове варыянтамі прыназоўнікаў *праз – цераз* ужыты пісьменнікам выраз *пераступіць праз труп* (чый) (слоўнікавае – *пераступіць цераз труп* (чый) можна лічыць магчымым варыянтам. Кампаненты-злучнікі вар'іруюцца ў 5 выпадках (8 ужыванняў): *што ні кажы – як ні кажы* [83, т. 3, с. 473]; *як аршын праглынуў – нібы аршын праглынуў* [83, т. 2, с. 439]; *разжоўваць і ў рот класці – разжоўваць ды ў рот класці* [83, т. 3, с. 33]; часціцы – у 1 выпадку (3 ужыванні): *аж пыл курыць – толькі пыл курыць*.

Назіраецца таксама адначасовае вар'іраванне двух кампанентаў, суадносных з рознымі часцінамі мовы, найчасцей з назоўнікам і дзеясловам (*браць за душу – хапаць за сэрца* [83, т. 2, с. 319]; *пападаць на кручок – трапляць на вудачку* [83, т. 2, с. 465]; *мароз па скуры прабягаў – мароз па спіне прайшоў* (2 ужыванні); з прыназоўнікам і злучнікам (*як праз сон – нібы скрозь сон* (2 ужыванні). У фразеалагізме *не жылец <на белым свеце>* прыметнік *белы* замяняецца займеннікам *гэты: не жылец <на гэтым свеце>* [83, т. 3, с. 215].

Гаворачы пра фразеалагічныя варыянты лексічнага тыпу, У.П. Жукаў зазначае, што адны з іх «могуць быць уласцівы агульнанароднай мове, а другія індывідуальныя па сваім паходжанні» [58, с. 177], і ілюструе гэта прыкладам індывідуальна-аўтарскага варыянта з

рамана Г. Нікалаевай. З такой даволі частай з'явай сустракаемся ў творах М. Лынькова. Усе гэтыя індывідуальна-аўтарскія разнавіднасці фразеалагізмаў можна падзяліць на дзве групы: 1) магчымыя варыянты, не зафіксаваныя ў фразеалагічных слоўніках; 2) аўтарскія варыянты, ужытыя для разнастайнасці маўлення.

Варыянты першай групы можна лічыць магчымымі лексічнымі разнавіднасцямі па той прычыне, што пераменныя кампаненты ўступаюць у сінанімічныя сувязі. Некаторыя фразеалагічныя варыянты, не зафіксаваныя ў слоўніках, сустракаюцца таксама і ў іншых аўтараў, не толькі ў М. Лынькова. Напрыклад, такой лексічнай разнавіднасцю агульнаўжывальнага фразеалагізма *на справе* можна лічыць выраз *на дзеле* [64, т. 3, с. 68], які зафіксаваны ў творах Я. Коласа і Я. Купалы. Рэдкаўжывальны лексічны варыянт *на хуткую руку* (замест *на скорую руку*) [64, т. 8, с. 132] назіраем у П. Броўкі, Г. Далідовіча. Пісьменнік нароўні з агульнаўжывальным лексічным варыянтам ужывае магчымыя заменнікі. Напрыклад, фразеалагізм *сэрца сціскаецца*, двойчы выкарыстаны аўтарам у сваёй звычайнай форме, 6 разоў ужываецца ў выглядзе *сэрца сцялася* (дзеясловы *сціснуць* і *сцяць*[2] маюць агульнае значэнне 'здушыць, сцясніць (горла, грудзі)'. Нароўні з фразеалагізмам *дзе гэта відана* М. Лынькоў двойчы выкарыстоўвае *дзе гэта бачана*. Ёсць выпадкі, дзе аўтар аддае перавагу не агульнаўжывальнаму варыянту, а іншаму – магчымаму. Так, пісьменнік зусім не ўжывае слоўнікавы фразеалагізм *сэрца ледзянее* (*ледзянела*) (у каго), а 5 разоў выкарыстоўвае *сэрца халадзее* (*захаладала, пахаладзее, пахаладзела, стыне*) (у каго). Дзеясловы *ледзянець* і *халадзець* супадаюць у значэннях 'адчуваць холад, мерзнуць', 'станавіцца халодным, халаднейшым'.

У большасці выпадкаў вылучэнне магчымых варыянтаў заснавана на тым, што ў фразеалагічных слоўніках ужо зафіксаваны падобныя прыклады узаемазамены кампанентаў у іншых агульнаўжывальных варыянтах. Так, у фразеалагічнай адзінцы *не бачыць белага свету* разам са стандартным ужываннем тройчы назіраем замену прыметнікавага кампанента словам *божы*; аналагічная варыянтнасць адлюстравана ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» пры ўжыванні выразу *у <белы (божы)> свет* [57, т. 2, с. 321–322]. Фразеалагізмы *сушыць душу* (каму) [64, т. 3, с. 592], *камень на душы* (у каго) [64, т. 5, с. 39], ужытыя М. Лыньковым, можна лічыць магчымымі варыянтамі да выразаў *сушыць сэрца* (каму, чыё), *камень на сэрцы* (у каго), зафіксаванымі фразеалагічнымі слоўнікамі (параўн. агульнанародныя варыянты: *душа гарыць – сэрца гарыць* і пад.).

Такім чынам, магчымыя лексічныя варыянты, якія ёсць у творах М. Лынькова, але не зафіксаваныя фразеалагічнымі слоўнікамі, у значнай ступені дапаўняюць ужо існуючыя ў мове агульнаўжывальныя варыянты.

Больш складанымі з'яўляюцца варыянты другой групы, названай вышэй. Такія варыянты трэба адрозніваць ад нярэдкіх выпадкаў знарочыстай замены фразеалагічнага кампанента іншым словам, калі аўтар робіць гэта мэтанакіравана – для стварэння пэўнага стылістычнага эфекту.

Індывідуальна-аўтарскія варыянты не прыводзяць да змены сэнсу фразеалагізма і выкарыстоўваюцца для разнастайнасці маўлення, часам для таго, каб пазбегнуць таўталогіі: *скура ды косці – скура ды рэбры* [64, т. 3, с. 445]; *забіваць галаву* (каму чым) – *забіваць мазгі* (каму чым) [64, т. 3, с. 76]; *мяккае месца – далікатнае месца* [64, т. 4, с. 92]; *такой бяды – столькі тае бяды* [64, т. 8, с. 327] – *толькі тае бяды* [64, т. 5, с. 329]; *дзіва што – дзіва то* (28 ужыванняў) і інш. Падобнае выкарыстанне фразеалагізмаў выяўляе ўсю складанасць творчага пошуку найбольш удалага выразу. Многія пісьменнікі ва ўспамінах пра М. Лынькова (М. Танк, Б. Бур'ян, Н. Гілевіч і інш.) адзначалі, што мова творцы «па-народнаму сакавітая і па-мастацку строга адшліфаваная» [38, с. 112]. Гэтага, на нашу думку, удалося дасягнуць дзякуючы пісьменніцкаму ўменню выбіраць патрэбныя сродкі мастацкай выразнасці, у тым ліку і фразеалагізмы, што і стварае арыгінальны аўтарскі стыль.

Сярод праілюстраваных тыпаў лексічнай варыянтнасці ў творах пісьменніка сустракаем і дыялектныя варыянты. Так, выраз *не абяры божа* з'яўляецца магчымым дыялектным варыянтам фразеалагізмаў *не давядзі божа, не дай божа.* Нярэдка ў мове персанажаў агульнаўжывальны кампанент замяняецца вузкадыялектці прастамоўным словам. Так, у фразеалагізмах *заткнуць рот, разявіць рот, закрыць рот* замест кампанента *рот* ужываюцца словы 'зяпа', 'ляпа', 'зяпала': *заткнуць зяпу*, *заткнуць ляпу*, *разявіць зяпала, разявіць зяпу* [50, с. 163] (2 ужыванні). Прастамоўна-фамільярная лексіка дамінуе ў рамане «На чырвоных лядах», у маўленні герояў якога сустракаюцца, відаць, дыялектныя і не зусім зразумелыя словы: *трубло, шолудзь, кігікала, пярхун, шлепталы, апоўзлікі, лузаны, пракавечны, рачанцы, гіндзіцца, петавацца* і інш. Падобнае ўжыванне прастамоўнай лексікі «надае мове ўсіх персанажаў некаторую аднастайнасць» [77, с. 51]. Таму многія аўтары (Я. Колас, Ф.І. Куляшоў, М.М. Піятуховіч, Д.Я. Бугаёў) крытыкавалі гэты твор, прапаноўваючы аўтару адмовіцца ад вялікай колькасці прастамоўных слоў і

правінцыяналізмаў; напрыклад, Я. Колас пісаў: «Увесь раман пераважна напісаны аднастайным своеасаблівым стылем. Месцамі стыль гэты аддае нейкаю архаічнасцю, томіць сваім цягучым ладам… Усе персанажы гавораць на адзін манер» [42, с. 92–93]. Або: «У Лынькова няма індывідуалізацыі мовы яго персанажаў, ён не авалодвае «голасам і мовай свайго героя», у яго амаль суцэльны паток фальклорна-напеўнага сказа, вельмі часта сустракаецца тут мова старадаўніх казак. Гэта мова адзначаецца пэўнай аднастайнасцю, ужыванне прыёму інверсіі, напрыклад,ператвараецца ў Лынькова ў некаторы шаблон. Назіраецца ў пісьменніка некаторая манернасць, штучнасць, жаданне сказаць інакш, чым гавораць у звычайнай гутарцы» [70, с. 107].

## § 2. Фармальныя варыянты фразеалагізмаў

У фармальных фразеалагічных варыянтах змяненні адбываюцца толькі ў межах аднаго кампанента і закранаюць адзін яго бок (акцэнтны, фанетычны, словаўтваральны, марфалагічны). Такія варыянты «не з'яўляюцца ні паказчыкамі тых ці іншых граматычных катэгорый у фразеалагізме, ні формамі выражэння адносін і сувязей фразеалагізма са словамі ў маўленні. Замена аднаго фармальнага варыянта кампанента другім не змяняе катэгарыяльнай характарыстыкі фразеалагізма» [87, с. 69].

**Фанетычныя варыянты.** Фанетычныя варыянты (18 фразеалагізмаў, 67 ужыванняў) адрозніваюцца адным гукам ці некалькімі: *раз-пораз – раз-поразу* [83, т. 1, с. 315]; *не маргнуўшы вокам – не міргнуўшы вокам* (2 ужыванні); *у футарале – у футляры* [83, т. 7, с. 369]; *ва фронт – ва фрунт* (2 ужыванні). У некаторых фразеалагізмах назіраецца чаргаванне галоснага з нулём гука: *кроў льецца – кроў ліецца* [83, т. 7, с. 386]. У фразеалагічнай адзінцы *не сходзіць з вуснаў – не сыходзіць з вуснаў* [83, т. 4, с. 237] варыянты адрозніваюцца наяўнасцю гука [*ы*] у прыстаўцы.

У асноўным пісьменнік ужывае як фразеалагізм у сваёй звычайнай форме, так і яго фанетычны варыянт. Так, нароўні з фразеалагізмам *вось-вось* выкарыстоўваюцца і два яго агульнаўжывальныя варыянты *во-во* (3 ужыванні), *вот-вот* (7 ужыванняў). Па аналогіі можна лічыць магчымымі варыянтамі не зафіксаваныя ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» выразы *вот <яно> што!* [83, т. 3, с. 321]; *вот яшчэ!* [64, т. 4, с. 239] і пад. (у «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» – *вось (вунь) <яно> што!*; *вось яшчэ!*) [76, с. 186–187].

Вядома, што наяўнасць гука *[ф]* паказвае на іншамоўнае паходжанне слова. У жывой народнай мове гэты гук часта замяняецца гукамі *[к]*,*[п]*,*[т]*, спалучэннем гукаў *[хв]*. У М. Лынькова таксама сустракаем падобную замену гука *[ф]*. Так, фразеалагізм *паказаць пачым фунт ліха* (каму) мае фанетычную разнавіднасць *паказаць пачым хунт ліха* (каму) [83, т. 4, с. 108].

Часта назіраецца фанетычная варыянтнасць гукаў *[і]-[й]*: *толькі і бачыў – толькі й бачыў* (2 ужыванні); *ну і ну – ну й ну* [83, т. 3, с. 555] і інш. Падобныя гукавыя варыянты, якія ўжываюцца як у мове персанажаў, так і ў аўтарскай, надаюць мове твораў пісьменніка своеасаблівы размоўны каларыт.

**Акцэнтна-фанетычныя варыянты фразеалагізмаў.** Агульнаўжывальную акцэнтна-фанетычную варыянтнасць назіраем толькі ў 4 фразеалагізмах: *доўгі язык – даўгі язык* [83, т. 2, с. 9]; *пайсці ўгору – пайсці ўгару* [83, т. 2, с. 74]; *як укопаны – як укапаны* [83, т. 5, с. 563]; *у цяні – у ценю* [83, т. 5, с. 198]. Такія варыянты адрозніваюцца гукам і месцам націску, тут «дваякі націск вядзе і да фанетычных змяненняў (а таксама арфаграфічных), у выніку чаго ўзнікаюць варыянты, якія можна назваць акцэнтна-фанетычнымі» [77, с. 180].

Сярод акцэнтна-фанетычных варыянтаў ёсць магчымыя, не адлюстраваныя ў фразеалагічных даведніках. Так, ужытыя выразы *хапацца за галаву*; *не ідзе (не ішло) у галаву* (каму); *сесці на галаву* (каму); *не лезе ў галаву* (каму) і інш. маюць адпаведныя разнавіднасці *хапацца за голаў* (3 ужыванні); *не ідзе (не ішло) у голаў* (каму) (2 ужыванні); *сесці на голаў* (каму) [83, т. 3, с. 544]; *не лезе ў голаў* (каму) [83, т.3, с. 384]. Як адзначаецца ў навуковай літаратуры, «слова *галава*, знаходзячыся і не ў складзе фразеалагізма, у шмат якіх беларускіх гаворках мае рухомы націск; у вінавальным склоне адзіночнага ліку ён пераходзіць з канчатка на аснову, у сувязі з чым апошні ненаціскны гук адпадае» [78, с. 15]. Праілюструем гэта адным прыкладам: «І Напрэй сядзеў у хаце, ды за думкамі тымі не *ішла* і работа *ў голаў*» [83, т. 3, с. 436].

**Марфалагічныя варыянты фразеалагізмаў.** Больш распаўсюджанымі сярод фармальных варыянтаў з’яўляюцца марфалагічныя (54 фразеалагізмы, 230 ужыванняў) і словаўтваральныя (34 фразеалагізмы, 91 ужыванне).

Марфалагічныя варыянты адрозніваюцца граматычнай формай кампанентаў. У творах М. Лынькова такія разнавіднасці ў асноўным назіраюцца ў кампанентах-назоўніках і адрозніваюцца формамі ліку і склону.

Вар'іраванне назоўнікавага кампанента можа быць звязана з заменай ліку: множнага – адзіночным (у 11 фразеалагізмах): *дацца ў знакі – дацца ў знак* (3 ужыванні), *не на жарты – не на жарт* (5 ужыванняў); адзіночнага – множным (у 14 фразеалагізмах): *вярэдзіць рану – вярэдзіць раны* (3 ужыванні), *закон не пісаны – законы не пісаны* (3 ужыванні).

У многіх фразеалагізмах вар'іруюцца саматычныя кампаненты, якія генетычна абазначаюць парныя сіметрычныя часткі цела (рукі, ногі, вушы, вочы, плечы) або неадзінкавыя (зубы, пальцы), і ім уласціва варыянтнасць лікавых формаў. Напрыклад, *не спускаць вока* (10 ужыванняў).

Нароўні з агульнаўжывальнымі марфалагічнымі варыянтамі, што вар'іруюцца ў формах ліку, пісьменнік ужывае выразы, якія могуць лічыцца магчымымі разнавіднасцямі фразеалагізмаў, не зафіксаванымі у «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы». У большасці выпадкаў гэта саматычныя кампаненты: *калоць вочы* (каму) – *калоць вока* (каму) [83, т. 3, с. 579]; *мазоліць вочы* (каму) – *мазоліць вока* (каму) [83, т. 5, с. 403]; *сваімі рукамі – сваёй рукой* (2 ужыванні); *да касцей – да касці* (3 ужыванні). У некаторых выпадках маюць формы ліку і несаматызмы: *знайшоў дурня – знайшоў дурных* [83, т. 4, с. 358]; *з глыбіні душы – з глыбінь душы* [83, т. 6, с. 586]; *па сіле* (каму) – *па сілах* (каму) (2 ужыванні); *на ўвесь голас – на ўсе галасы* (5 ужыванняў).

Звернемся зараз да вар'іравання склонавых канчаткаў. У 114 выпадках узаемазамяняюцца формы назоўнага і старажытнага клічнага склону: *дай бог* (5 ужыванняў) – *дай божа* (22 ужыванні); *не дай бог* (6 ужыванняў) – *не дай божа* (18 ужыванняў); *дай бог кожнаму – дай божа кожнаму* (5 ужыванняў); *крый бог – крый божа* (49 ужыванняў). Як відаць з падлікаў, М. Лынькоў аддае перавагу варыянтнай форме *божа*, а ў некаторых фразеалагізмах (*крый бог*, *дай бог кожнаму*) зусім не ўжывае назоўнікавы кампанент *бог*. З'яўляючыся сродкам выражэння суб'ектыўнай мадальнасці, выклічнікавыя фразеалагізмы ўводзяцца і ў аўтарскую мову, што сведчыць пра натуру самога пісьменніка – «чалавека знешне стрыманага і ўраўнаважанага, але душэўна эмацыянальнага» [82, с. 279–298].

У 10 фразеалагізмах вар'іруюцца канчаткі кампанентаў-назоўнікаў у творным склоне множнага ліку: *стрыгчы вачамі – стрыгчы вачыма* [83, т. 4, с. 416]; *лыпаць вачамі – лыпаць вачыма* (5 ужыванняў); *абліваццa слязамі – абліваццa слязьмі* (2 ужыванні), *перад вачамі – перад вачыма* (5 ужыванняў) і інш. Падобная ўзаемазамена адбываецца па той прычыне, што ў творным склоне

множнага ліку словы свабоднага ўжывання таксама могуць мець варыянтныя канчаткі -*амі, -ыма, -мі*. Сустракаецца варыянтнасць у родным склоне множнага ліку: *з п'яных вачэй – з п'яных воч* (9 ужыванняў); *зваліцца з плячэй – зваліцца з плеч* [83, т. 5, с. 419]; у творным склоне адзіночнага ліку: *змяшаць з граззю – змяшаць з гразёй* [83, т. 3, с. 468]; *заліць крывёю – заліць крывёй* [83, т. 6, с. 598]; *потам і кроўю – потам і крывёю* [83, т. 3, с. 212] і інш. Зрэдку бачым замену вінавальнага склону родным: *кішкі марш іграюць – кішкі марша іграюць* [83, т. 1, с. 235].

Як у формах ліку, так і ў формах склону знаходзім магчымыя варыянты, не адлюстраваныя ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы», якія ўзнікаюць па аналогіі з ужо існуючымі ў агульнанароднай мове марфалагічнымі разнавіднасцямі: *не зводзіць вачэй* (з каго) – *не зводзіць воч* (з каго) [83, т. 4, с. 356]; *стаяць перад вачамі* (у каго) – *стаяць перад вачмі* (у каго) [83, т. 5, с. 271]; *уласнай персонай – уласнаю персонай* [83, т. 1, с. 82] і інш.

Ёсць адзінкавыя выпадкі аўтарскай замены склонава-прыназоўнікавых формаў фразеалагічных кампанентаў. Так, сустракаем марфалагічны варыянт фразеалагізма *як па заказу* [83, т. 5, с. 540] (у «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» – *як на заказ*) [76, т. 1, с. 395], які можа ўключацца ў фразеалагічныя слоўнікі. Дарэчы, у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы», падаюцца два выразы – *як на заказ, як па заказу* – і прыводзяцца прыклады, якія ілюструюць ужыванне абодвух разнавіднасцей гэтага выразу: «Дні пагодныя, *як на заказ*» (Мележ); «Надвор'е, *як па заказу*, – сустрэў Марыну Леванюк» (Стаховіч) [100, т. 2, с. 319].

**Словаўтваральныя варыянты фразеалагізмаў.** Словаўтваральныя варыянты адрозніваюцца словаўтваральнай структурай аднаго з кампанентаў.

У 66 выпадках вар'іруюцца кампаненты, якія маюць розныя прэфіксы: *адкрыць сваю душу – раскрыць сваю душу* [83, т. 5, с. 549]; *саступаць месца – уступаць месца* (2 ужыванні); *нічога не зробіш – нічога не паробіш* (6 ужыванняў); *між іншым – паміж іншым* (2 ужыванні). Нароўні з фразеалагізмам *як вокам кінуць* М. Лынькоў выкарыстоўвае два яго словаўтваральныя варыянты *як вокам акінуць* [83, т. 4, с. 397]; *як вокам скінуць* (4 ужыванні). У фразеалагічнай адзінцы *ану яго к ліху* [83, т. 1, с. 389] замяняецца выклічнікавы кампанент (*ану – ну*). Назіраецца ўзаемазамена кампанентаў, суадносных з часціцай (*ні – ані*), якія могуць лічыцца магчымымі варыянтамі (*ні душы – ані душы* [83, т. 3, с. 126]; *ні слова – ані слова* (5 ужыванняў), *ні кроку – ані кроку* [83, т. 5, с. 463]; *ні гуку – ані гуку*

[83, т. 2, с. 286]), бо ў агульнанароднай мове існуюць фразеалагізмы з заменай названай часціцы *ні – ані*: *ні божа мой – ані божа мой, ні на макава зерне – ані на макава зерне, ні мур-мур – ані мур-мур* і інш.

На прыкладзе ўжывання пэўных фразеалагізмаў і іх варыянтаў можна прасачыць, як пісьменнік шукаў патрэбны выраз. Так, фразеалагізм *утапіць у крыві* (што) зусім не ўжываецца ў сваёй традыцыйнай форме, 5 разоў – у агульнанароднай варыянтнай – *патапіць у крыві* (што), а таксама мае аўтарскі словаўтваральны варыянт *затапіць у крыві* (што) [64, т. 4, с. 431].

Сярод кампанентаў, якія адрозніваюцца наяўнасцю ці адсутнасцю суфікса, пераважаюць назоўнікавыя: *набіць аскому – набіць аскоміну* [83, т. 2, с. 593]; *мядзведжы куток – мядзведжы кут* [83, т. 7, с. 378]; *у цяні – у цяньку* [83, т. 5, с. 594]. Некаторыя фразеалагізмы, акрамя агульнаўжывальных словаўтваральных варыянтаў, маюць і аўтарскія разнавіднасці: *не жарты – не жартачкі* (5 ужыванняў) – *не жарцікі* [83, т. 2, с. 136]; *тым больш – тым болей* [83, т. 4, с. 227] і інш.

Словаўтваральныя варыянты могуць адрозніваць прыстаўкай і суфіксам: *не казаць носа – не паказваць носа* (2 ужыванні); *ліць пот – праліваць пот* (2 ужыванні); постфіксам: *пападаць на вочы – пападацца на вочы* [83, т. 3, с. 25]; *пападаць у лапы – пападацца ў лапы* (2 ужыванні).

Як і сярод іншых тыпаў варыянтнасці, сярод словаўтваральных знаходзім аўтарскія разнавіднасці: *ні днём ні ноччу – ні днём ні ўночы* (3 ужыванні) – *ні днём ні ўначы* (2 ужыванні); *упасці духам – апасці духам* (2 ужыванні); *з кута ў кут – з кута ў куток* (10 ужыванняў). Выкарыстоўваюцца таксама фразеалагізмы, назоўнікавыя кампаненты якіх адрозніваюцца наяўнасцю ці адсутнасцю памяншальна-ласкальнага суфікса: *у <белы> свет як у капейку – у <белы> свет як у капеечку* (2 ужыванні); *ні на волас – ні на валасіначку* [83, т. 3, с. 358]; *на здароўе – на здаровейка* (4 ужыванні); *выцягнуцца ў струнку – выцягнуцца ў струну* [83, т. 6, с. 205] і інш.

## § 3. Канструкцыйна-колькасныя варыянты фразеалагізмаў

Канструкцыйна-колькасныя варыянты (91 фразеалагізм, 329 ужыванняў) «адрозніваюцца наяўнасцю ў адным з іх факультатыўнага кампанента (кампанентаў)» [103, с. 73]. Так, фразеалагізм *грош цана <у базарны дзень>* і яго канструкцыйна-колькасны варыянт *грош цана*, двойчы ўжыты М. Лыньковым, маюць розную сінтаксічную

канструкцыю і колькасць кампанентаў, фразеалагізм можа выступаць як у поўнай, так і ў скарочанай форме, «захоўваючы пры гэтым сваё адзінства – адзінства формы і зместу, сваю лексіка-граматычную характарыстыку» [88, с. 87]. Канструкцыйна-колькасная варыянтнасць адрозніваецца ад іншых тыпаў варыянтнасці тым, што «любое вар’іраванне, нават калі яно распаўсюджваецца на ўсе кампаненты, не закранае іх колькасных змяненняў і не можа прывесці да разбурэння фразеалагізма, тады як факультатыўнасць звязана з колькаснымі зменамі кампанентаў» [88, с. 87].

Аналіз канструкцыйна-колькасных варыянтаў у творах М. Лынькова паказвае, што найчасцей апускаюцца займеннікавыя кампаненты: *ты*: *хоць <ты>лопні – хоць лопні* [83, т. 1, с. 103]; *дай <ты> рады – дай рады* (4 ужыванні); *самы*: *над <самым> вухам – над вухам* (2 ужыванні); *па <самае> горла – па горла* (15 ужыванняў); *свой*: *здаць <свае> пазіцыі – здаць пазіцыі* (2 ужыванні); *стаць на <сваё> месца – стаць на месца* (3 ужыванні); *сабе*: *зламаць <сабе> галаву – зламаць галаву* (2 ужыванні); *<сабе> пад нос – пад нос* (44 ужыванні); *гэты*: *на <гэтых> днях – на днях* (35 ужыванняў) і інш.

Кампаненты, суадносныя з іншымі часцінамі мовы, падпадаюць пад скарачэнне радзей, чым кампаненты-займеннікі.

У 4 фразеалагізмах апускаецца назоўнікавы кампанент: *як <нажом> адрэзаў – як адрэзаў* (3 ужыванні); *як <сякерай> адсек – як адсек* [83, т. 1, с. 257]; у 8 – лічэбнікавы: *на <адну> секунду – на секунду* (16 ужыванняў); *у <адзін> момант – у момант* (13 ужыванняў); у 2 – прыслоўны: *<дужа> не разгонішся – не разгонішся* (3 ужыванні); *глядзець <далёка> наперад – глядзець наперад* (2 ужыванні); у 4 – дзеясловы: *на чым свет <стаіць>* (2 ужыванні), *да слова <сказаць>* (11 ужыванняў). Сярод факультатыўных кампанентаў, суадносных са службовымі часцінамі мовы, найчасцей апускаюцца злучнікавыя кампаненты: *<як> нож у сэрца – нож у сэрца* [83, т. 2, с. 27]; *<як> кот наплакаў – кот наплакаў* (2 ужыванні); *<і> там і тут – там і тут* [83, т. 2, с. 40]. Выпадаюць таксама кампаненты-прыназоўнікі: *што ні <на> ёсць – што ні ёсць* (5 ужыванняў); *<у> самы раз – самы раз* (9 ужыванняў); кампаненты-часціцы: *<хоць> плот гарадзі – плот гарадзі* [64, т. 3, с. 8]; *<і> не кажы – не кажы* (11 ужыванняў); *як <і> не было – як не было* (5 ужыванняў).

## § 4. Камбінаваныя варыянты фразеалагізмаў

У гэтым тыпе (36 фразеалагізмаў, 373 ужыванні) назіраюцца розныя віды вар'іравання. У творах М. Лынькова сустракаюцца наступныя разнавіднасці гэтага тыпу варыянтаў:

1) лексічны + канструкцыйна-колькасны: *што <і> казаць – што гаварыць* (11 ужыванняў); *гнуць <сваю> спіну – гнуць шыю*;

2) лексічны + словаўтваральны: *гнаць у магілу – уганяць у зямлю*;

3) лексічны + марфалагічны: *звальваць з плячэй – скідаць з плеч* (3 ужыванні); *з усёй сілы – з усяе моцы*;

4) словаўтваральны + марфалагічны: *разяўляць рот – паразяўляць раты* (2 ужыванні); *не змыкаць вачэй – не самкнуць вочы*;

5) марфалагічны + канструкцыйна-колькасны: *набіваць <сабе, сваю> кішэнь – набіваць кішэню*; *ламаць <сабе> галаву – ламаць галовы* (2 ужыванні) і інш.

У некаторых фразеалагізмах аўтар аддае перавагу камбінаванаму варыянту. Так, агульнаўжывальны выраз *на <адну> мінуту* ўжываецца толькі 3 разы, а яго камбінаваны варыянт *на хвіліну* – 239.

РАЗДЗЕЛ 3

# СТЫЛІСТЫЧНАЕ ВЫКАРЫСТАННЕ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ У ТВОРАХ М. ЛЫНЬКОВА

Варта адразу агаварыцца, што, ужываючы словазлучэнне «стылістычнае выкарыстанне фразеалагізмаў», пад словам *стылістычнае* маем на ўвазе 'творчае, эфектыўнае, нетрадыцыйнае'.

Звычайна ў мастацкай літаратуры, публіцыстыцы, наогул у маўленні фразеалагізмы ўжываюцца нязменна, захоўваючы сваю форму і замацаваны за імі змест. Яны і ў такім разе выступаюць як яркія экспрэсіўныя сродкі, якія ўзбагачаюць, упрыгожваюць маўленне, выконваюць шэраг стылістычных функцый – не толькі намінатыўную, але і функцыю лаканізацыі маўлення, вобразнага выказвання, ацэначную, эмацыянальную і экспрэсіўную. Аднак многія пісьменнікі, і М. Лынькоў у іх ліку, не абмяжоўваюцца толькі традыцыйным выкарыстаннем гэтых маляўнічых сродкаў выразнасці, а імкнуцца рознымі спосабамі абнавіць іх, творча і арыгінальна выяўляючы іх патэнцыяльныя магчымасці. Такое іх выкарыстанне Б.А. Ларын ахарактарызаваў як «артыстычны спосаб транспазіцыі народных фразеалагізмаў у літаратурную мову» [69, с. 158]. У гэтых выпадках стылістычная роля фразеалагізмаў нібы падвойваецца, яны ствараюць большы мастацкі эфект, аказваюць большае эмацыянальна-экспрэсіўнае ўздзеянне на чытача, чым пры сваім звычайным ужыванні.

У мовазнаўчых працах выдзяляюць два спосабы выкарыстання фразеалагізмаў: 1) ужыванне ў нязменным выглядзе, 2) ужыванне з разнастайнымі змяненнямі. У сваю чаргу, гаворачы пра другі спосаб, трэба адрозніваць змяненні фразеалагізмаў матываваныя, стылістычна апраўданыя, падпарадкаваныя пэўным аўтарскім задачам, і, з другога боку, неабгрунтаваныя, памылковыя, якія варта кваліфікаваць як парушэнне нормы. Як пісаў Л.У. Шчэрба, «аўтараў, якія зусім не адступаюць ад нормы, канешне, не існуе – яны былі б нясцерпна нудныя... Калі пачуццё нормы выхавана ў чалавека, ён пачынае адчуваць усю прывабнасць абгрунтаваных адступленняў ад яе ў розных добрых пісьменнікаў (я гавару «абгрунтаваных», таму што ў дрэнных аўтараў яны часта бываюць недастаткова матываваны ўнутраным зместам – таму гэтыя аўтары і лічацца дрэннымі)» [109, с. 10]. У выпадку знарочыстых, матываваных аўтарскіх змяненняў фразеалагізмаў маем справу са стылістычным выкарыстаннем гэтых моўных адзінак.

Галоўнай асновай, аб'ектыўнай крыніцай трансфармацый і мадыфікацый фразеалагізма з'яўляецца яго дваістая прырода. Яна праяўляецца, з аднаго боку, у цэласнасці значэння фразеалагічных адзінак, з другога боку – у расчлянёнасці, раздзельнааформленасці іх структуры. Але не ўсе фразеалагізмы могуць абнаўляцца. Фразеалагічныя зрашчэнні параўнальна рэдка паддаюцца аўтарскім змяненням. Першапачатковы вобраз, які лёг у аснову падобных выразаў, не ўсведамляецца носьбітамі мовы, бо ў зрашчэннях страцілася сувязь іх семантыкі са значэннем асобных слоў-кампанентаў ці суадносных сінанімічных спалучэнняў (*бібікі біць*, *збіваць з панталыку*, *спачыць у бозе*, *арыядніна ніць* і пад.). Таму і «асвяжыць» іх унутраную форму вельмі цяжка. У адрозненне ад фразеалагічных зрашчэнняў, фразеалагічныя адзінствы захоўваюць унутраную форму. Такія выразы (*віляць хвастом*, *біць міма цэлі*, *віць вяроўкі* і інш.) накладаюцца на эквівалентныя свабодныя словазлучэнні і на іх фоне ўспрымаюцца як метафары. Пісьменнікі аднаўляюць у падобных фразеалагізмах іх першаснае, неідыяматычнае значэнне, змяняючы форму ці змест фразеалагізмаў ці форму і змест адначасова.

Як ужо адзначалася, часцей фразеалагізмы выступаюць у гатовым выглядзе, у звычайнай, традыцыйнай форме і з агульнапрынятым, замацаваным у мове значэннем. «На долю «амаладжаных» фразеалагізмаў прыходзіцца невялікі працэнт – ад 1 да 5» [74, с. 119]. Гэта можна пацвердзіць і практыкай выкарыстання фразеалагічных адзінак у апавяданнях М. Лынькова. У большасці з іх сустракаем 1-2 выпадкі абноўленых фразеалагізмаў («Гой», «Гома», «Чыгунныя песні», «Над Бугам» і інш.) – г.зн. у сярэднім каля 3 %. Толькі ў некаторых з іх працэнт абыграных выразаў большы. Так, у апавяданні М. Лынькова «Андрэй Лятун» з 80 ужытых фразеалагізмаў абыгрываецца 6, г.зн. каля 7 %. У апавяданні «У мястэчку» пад аўтарскую пераапрацоўку з 76 ужыванняў фразеалагічных адзінак падпалі 4 фразеалагізмы – 5 %. У творах іншых пісьменнікаў назіраем падобную ж карціну. Так, у аповесці К.Чорнага «Вясна» з 132 выкарыстаных фразеалагізмаў толькі 4 абноўлены, г.зн. 3 %. У рамане І.Чыгрынава «Плач перапёлкі» абнаўленні складаюць 1 %, у рамане К. Крапівы «Мядзведзічы» – 4 % [74, с. 119]. Усяго з 2516 фразеалагізмаў, ужытых у творах М. Лынькова, абыграна больш за 150 (каля 6 %).

Нягледзячы на параўнальную рэдкасць аўтарскіх абнаўленняў фразеалагічных адзінак у літаратурных творах, падобныя змяненні заслугоўваюць «спецыяльнага вывучэння як істотны сродак павышэння стылістычнай ролі фразеалагізмаў у тэксце, як адзін са

спосабаў рэалізацыі фразеалагізмаў у маўленні» [74, с. 119–120]. Вывучэнне гэтага пытання важнае для аналізу індывідуальнага стылю пісьменніка, дапамагае выявіць схільнасць аўтара да таго ці іншага стылістычнага прыёму, паказаць майстэрства пры выкарыстанні фразеалагізмаў.

Часцей за ўсё фразеолагі вызначаюць два спосабы змяненняў фразеалагічных адзінак: 1) змяненне семантыкі і 2) змяненне структуры.

У рускай фразеалогіі першай спробай падзелу стылістычных прыёмаў выкарыстання фразеалагізмаў можна лічыць класіфікацыю В.Н. Вакурава, апісаную ў працы «Асновы стылістыкі фразеалагічных адзінак» [41]. Даследчык падрабязна прааналізаваў многія стылістычныя прыёмы, падмацаўваўшы свае разважанні мноствам прыкладаў, аднак, на наш погляд, ім былі вылучаны далёка не ўсе змяненні фразеалагізмаў.

Думаецца, што на сённяшні дзень у беларускім мовазнаўстве найбольш удалай спробай класіфікаваць стылістычныя прыёмы абыгрывання фразеалагічных адзінак можна лічыць класіфікацыю, пададзеную ў кнізе І. Я. Лепешава «Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы» [74, с. 120].

Існуюць больш распаўсюджаныя прыёмы, якія пераважаюць у многіх аўтараў (замена кампанента, выкарыстанне на фоне фразеалагізма яго кампанента, ускладненне фразеалагізма словамі свабоднага ўжывання, выкарыстанне вобразнай асновы фразелагізма і інш.). Некаторыя з гэтых і іншых прыёмаў «можна лічыць індывідуальнай асаблівасцю аўтарскага стылю, калі відавочнай з'яўляецца схільнасць пісьменніка да таго ці іншага прыёму, частата яго ўжывання, эфектыўнасць скарыстання» [78, с. 35]. Так, у творах М. Лынькова пры выкарыстанні фразеалагізмаў заўважаем надзвычайную прыхільнасць пісьменніка да ўскладнення кампанентаў фразеалагічных адзінак словамі свабоднага ўжывання. Далей, у асноўным прытрымліваючыся класіфікацыі, апісанай І.Я. Лепешавым, разгледзім стылістычныя прыёмы выкарыстання фразеалагізмаў у творах М. Лынькова (гл. малюнак 3).




*Малюнак 3. – Стылістычныя прыёмы выкарыстання фразеалагізмаў*

## § 1. Структурна-семантычныя змяненні фразеалагізмаў

Калі пры ўжыванні фразеалагізмаў свядома, мэтанакіравана змяняецца яго форма, то гэта непазбежна закранае і яго семантыку. Абноўленая фразеалагічная адзінка набывае дадатковае семантычнае прырашчэнне: на яе асноўны змест накладваюцца ўяўленні канкрэтнага плана, звязаныя з пэўным кантэкстам. У такім разе маем справу са структурна-семантычнымі змяненнямі фразеалагізмаў. Існуе шэраг творчых прыёмаў гэтай разнавіднасці эфектыўнага выкарыстання

фразеалагічных адзінак: ускладненне фразеалагізма словамі свабоднага ўжывання, замена кампанента іншым словам, фразеалагічная зеўгма, аб'яднанне слова свабоднага ўжывання з часткай фразеалагізма, кантамінацыя фразеалагізмаў, выкарыстанне вобразнай асновы фразеалагізмаў.

**Ускладненне фразеалагізма словам свабоднага ўжывання.** Адносна таго, ці можа фразеалагізм ускладняцца словам свабоднага ўжывання і ці заўсёды такое ўскладненне выступае як стылістычны прыём, сустракаюцца супрацьлеглыя выказванні. З аднаго боку, І.В. Дубінскі на канкрэтных прыкладах паказвае, што ад такога індывідуальна-аўтарскага ўдакладнення «ідыёма не распадаецца, а набывае дадатковы сэнс» [54, с. 6]. З другога боку, у навучальным дапаможніку У.П. Жукава гаворыцца: «Калі той ці іншы кампанент паясняецца іншымі паўназначнымі словамі сказа, то ён адразу ўспрымаецца як самастойнае слова з уласцівым яму значэннем. Такое «ўкліньванне» слова разбурае фразеалагізм як з боку формы, так і з боку зместу, фразеалагізм перастае быць самім сабой» [59, с. 77]. Праўда, далей У.П. Жукаў дадае: «Зрэшты, пісьменнікі нярэдка «амалоджваюць» кампаненты, дабіваючыся пэўнага мастацкага эфекту» [59, с. 77].

Назіранні за маўленчай практыкай М. Лынькова, як і некаторых іншых аўтараў, паказваюць, што сярод разнастайных стылістычных прыёмаў структурна-семантычнага змянення фразеалагізмаў найбольш пашыраным выступае прыём ускладнення фразеалагічнай адзінкі словам свабоднага ўжывання. Напрыклад, дзеяслоўны зварот *ставіць на карту* (што) (ён абазначае 'рызыкаваць чым-н. для якога-н. выйгрышу') у рамане М. Лынькова «Векапомныя дні» ўжыты з азначэннем *апошнюю* да назоўнікавага кампанента: «Усё *ставіў* [Гітлер] *на* ***апошнюю*** сваю *карту*, усё яшчэ насіўся са сваімі шалёнымі планамі...» [83, т. 5, с. 475]. Тут ужо сэнсавы змест фразеалагізма ўвабраў у сябе і значэнне прыметніка *апошнюю*: 'рызыкаваць апошняй магчымасцю дзеля пэўнага выйгрышу'. І, думаецца, ад такога «ўкліньвання» прыметніка фразеалагізм не «перастаў быць самім сабой», «не разбурыўся». Тут, як і ва ўсіх іншых падобных выпадках, «арыентацыя на правільнае ўяўленне аб фразеалагічнай адзінцы прысутнічае» [88, с. 200].

Гаворачы пра магчымасці фразеалагізмаў ускладняцца ў творчым кантэксце якімі-н. паўназначнымі словамі, трэба, аднак, мець на ўвазе наступнае. Даволі многія фразеалагізмы маюць непранікальную структуру і не дапускаюць увядзення ў свой кампанентны склад іншых слоў: *на сёмым небе, як піць даць*, *так сабе* і інш. Сюды ж

адносяцца выразы таўталагічнага характару (*адзін на адзін*, *душа ў душу*, *зуб за зуб* і г. д.), шматлікія фразеалагізмы, кампаненты якіх звязаны паміж сабой рыфмай і рытмам (*гады ў рады*, *лахі пад пахі*, *днём з агнём* і пад. ), фразеалагізмы з кампанентамі-сінонімамі (*не знай не ведай*, *пераліваць з пустога ў парожняе*, *з агню ды ў полымя* і інш.), выразы, пабудаваныя на сэнсавым супрацьпастаўленні кампанентаў, якія на ўзроўні слоў з'яўляюцца моўнымі або кантэкстуальнымі антонімамі (*з галавы да ног*, *з хворай галавы на здаровую*, *хоць стой хоць падай* і г.д.).

Большая ж частка фразеалагізмаў характарызуецца пранікальнасцю структуры пры іх рэалізацыі ў маўленні. Але далёка не ўсякая маўленчая пранікальнасць павінна кваліфікавацца як стылістычны прыём. Як слушна адзначае Л.Н. Шчадрын, «не можа лічыцца пераўтварэннем фразеалагічнага звароту ўкліньванне такіх элементаў, якія не ўплываюць на яго значэнне, лексічную структуру і стылістычную характарыстыку, напрыклад, укліньванне пабочных слоў, спалучэнняў слоў і сказаў, зваротаў» [108, с. 84]. Такія ўключаныя ў сярэдзіну фразеалагізма звароткі ці пабочныя словы граматычна не звязаныя з ім і адносяцца да ўсяго сказа ўвогуле: «*Язык* у вас, **цётка**, *востры*! Яго б на немца пусціць, дык, не раўнуючы, як кулямёт…» [83, т. 4, с. 495]; «А ці ў цябе *вочы*, **кажу**, *павылазілі*, не бачыш хіба?» [83, т. 3, с. 39].

Апрача зваротаў і пабочных слоў, паміж фразеалагічнымі кампанентамі даволі часта аказваюцца, па-першае, слова, якое адносіцца да ўсяго фразеалагізма і звязана з ім семантычна і граматычна, па-другое, паўназначнае слова, без якога рэалізацыя фразеалагізма ў маўленні немажлівая (маюцца на ўвазе фразеалагізмы з канструкцыйна абмежаваным значэннем – з абавязковай спалучальнасцю «справа», напрыклад: *даца ў знак* (каму), *ездзіць на карку* (чыім). Паяснім гэта такім прыкладам: «А ты пра гуркі вось; *даліся,* **мусіць, яны табе** *ў знак!*» [83, т. 3, с. 39]. Тут у сярэдзіну фразеалагізма нарматыўна ўключаны, па-першае, пабочнае слова *мусіць*, па-другое, дзейнік *яны*, па-трэцяе, слова-канкрэтызатар *табе* (гэта слова-канкрэтызатар хоць у слоўніках і даецца «справа», следам за фразеалагізмам: *даца ў знак* (каму), але ў маўленні можа аказвацца перад фразеалагізмам ці ў сярэдзіне яго: табе *даліся ў знак*, *даліся* табе *ў знак*). Яшчэ прыклад, дзе паміж фразеалагічнымі кампанентамі, без парушэння нормы, уклініліся сэнсава і сінтаксічна звязаныя з фразеалагізмамі спалучэнні *во-от як*, *раней часу*, а таксама слова-канкрэтызатар *тваім*: «Семера баб у хаце, а я адзін, і

кожная табой паганяе, *на карку* **тваім во-от як** *ездзіць*, каб змаглі, *у дамавіну* **раней часу** *загналі* б» [83, т. 3, с. 524].

Ад такіх традыцыйных для маўлення спосабаў увядзення слоў у фразеалагізм трэба адрозніваць стылістычны прыём ускладнення фразеалагічных адзінак. «Індывідуальна-аўтарскім ускладненнем трэба лічыць выпадкі, калі ў межы фразеалагізма ўключаецца слова, якое ўступае ў семантычныя і граматычныя адносіны не з усім фразеалагізмам, а толькі з пэўным яго кампанентам» [74, с. 126]. Адбываецца пашырэнне кампанентнай структуры фразеалагізма і тым самым – прырашчэнне сэнсу, прыплюсоўванне да звычайнага, слоўнікавага значэння фразеалагічнай адзінкі сэнсу ўведзенага ў выраз слова.

Маўленчая практыка М. Лынькова паказвае, што часцей за ўсё ў фразеалагізмы ўводзіцца прыметнік, які адносіцца да назоўнікавага кампанента і паясняе яго. Так, у рамане «На чырвоных лядах» назоўнікавы кампанент фразеалагізма *ўзяць у свае лапы* (што) ускладняецца азначэннем *зладзейскія*, і гэтым удакладняецца семантыка фразеалагізма і выражаецца адмоўная аўтарская ацэнка: «Другія вот, у каторых з пуза лезе, а яны ўсё ў захапкі, каб жа ды ўвесь свет *у* свае ***зладзейскія*** *лапы ўзяць*...» [83, т. 3, с. 387]. У фразеалагізм *удзяўбці ў галаву* (каму, чыю) уводзяцца азначэнні *неразумныя* і *навабранскія*, якія паказваюць адносіны да адрасатаў дзеяння, іх «разумовыя» здольнасці: «Некаторыя ж век сядзяць у казармах ды *ўдзёўбваюць у* ***неразумныя навабранскія*** *галовы* ўсю гэтую няхітрую салдацкую мудрасць» [83, т. 1, с. 520]. Уключэнне названых азначэнняў у фразеалагізм надае яму дадатковае іранічнае адценне.

Досыць частае ўвядзенне азначэнняў у фразеалагізмы носіць у творах М. Лынькова, можна сказаць, сістэмны характар, з'яўляецца адметнасцю выкарыстання гэтых моўных адзінак. Таму слушным будзе згрупаваць азначэнні-ўскладняльнікі па пэўных прыметах. Азначэнні, далучаныя да назоўнікавага кампанента:

1) паказваюць на рысу характару (станоўчую ці адмоўную) дзеючых асоб. Напрыклад, неаднойчы ў адносінах да фашыстаў аўтар уводзіць азначэнне *жалезны* ў значэнні 'жорсткі, бесчалавечны': «У хуткім часе амаль што ўся Заходняя Еўропа апынулася *пад* ***жалезным*** *ботам* германскіх фашыстаў» [83, т. 7, с. 454]; «Ён [Гітлер] браўся *заціснуць у* ***жалезны*** *кулак* рабочы клас Германіі, вытруціць у краіне ўсякую думку аб свабодзе...» [83, т. 4, с. 439]. Параўн. таксама: *даць* ***заўзятага*** *драпака* [83, т. 3, с. 235]; *акінуць* ***дапытлівым*** *вокам* [83, т. 1, с. 154]; *заліць* ***нявіннай*** *крывёю* [83, т. 5, с. 681];

2) узмацняюць якасную ці колькасную характарыстыку прадметаў: *з* ***гучным*** *трэскам* [83, т. 4, с. 71;] *даць* ***стопрацэнтнага*** *ляшча* [83, т. 3, с. 21]; *кавалак* ***патрэбнага*** *хлеба* [83, т. 1, с. 105] і інш.

3) паказваюць на прафесію, род заняткаў чалавека, акрэсліваюць тым самым стаўленне персанажаў да навакольнага свету. Напрыклад, у адносінах да шаўца – яўрэя Шолама (апавяданне «У мястэчку») – гаворыцца: «Жыццё навучыць, і бясплатна навучыць, як на свеце жыць ды як *варочаць мазгамі* ***шавецкімі***» [83, т. 1, с. 114]. Герой не ўяўляе, што яго дачка можа жыць інакш, чым ён сам, таму ўвядзенне ў фразеалагізм азначэння *шавецкімі* пэўным чынам раскрывае светапогляд персанажа. Параўн. таксама: *на ўсё горла* ***салдацкае*** [83, т. 1, с. 127];

4) дапамагаюць яскравей выразіць адносіны аўтара ці персанажа да іншых герояў, да падзей. Так, у лісце да Якуба Коласа пісьменнік піша: «Я з Кандратам [Крапівой] *націскаем на ўсе* ***сцэнарныя*** *педалі*. Абрыдлі яны нам да немагчымасці» [83, т. 8, с. 133]. Тут, дзякуючы ўвядзенню дадатковага азначэння *сцэнарныя* ў выраз *націскаць на ўсе педалі*, перадаецца жартаўлівае, але ў той жа час крыху сумнае стаўленне пісьменніка да сваёй напружанай працы. Жартаўліва-іранічнае гучанне набывае абноўлены фразеалагізм *паставіць на* ***куцыя*** *ножкі*, ужыты ў адносінах да Андрэя Андрэевіча (апавяданне «Баян»), злодзея, якога імкнецца перавыхаваць грамадства: «З неба райскага чалавека ўхапілі, *на* ***куцыя*** *ножкі паставілі* і сказалі: хадзі ды пахаджвай, духу лагернага набірайся» [83, т. 1, с. 299].

Часам М. Лынькоў ускладняе назоўнікавы кампанент фразеалагізма двума азначэннямі: *выбівацца з* ***прызвычаенай наезджанай*** *каляіны* (3 ужыванні); *удзяўбці ў* ***неразумныя навабранскія*** *галовы* [83, т. 1, с. 520] і інш.

Ёсць выпадкі, калі ў фразеалагізмах словамі свабоднага ўжывання ўскладняюцца некалькі кампанентаў. Праілюструем гэта прыкладам з апавядання «Гой», у адным з эпізодаў якога паказана перажыванне галоўнай гераіні – яўрэйскай дзяўчыны Рывы, што закахалася ў рускага ці гоя, як абражліва называюць іх яўрэі: «Жалобна гудзеў вецер у коміне, ціха плакалі шыбы, абліваючыся слязьмі – дажджынкамі асеннімі, то ціха, то гучна сыпаліся словы бацькавай малітвы. І ўсё гэта, перамешваючыся з вохамі маткі, ***цяжкім, жудасным*** *каменем лажылася на сэрца Рывы, сэрца,* ***палюбіўшае гоя***» [83, т. 1, с. 23]. Тут у фразеалагічнай адзінцы *каменем лажыцца на сэрца* (чыё) ('выклікаць вялікія пакуты') аўтар адначасова да фразеалагічнага кампанента *каменем* далучае

азначэнні *цяжкім, жудасным,* а назоўнікавы кампанент *сэрца* ўскладняе дзеепрыметнікавым зваротам *палюбіўшае гоя.* Такое выкарыстанне звычайнага выразу павышае экспрэсіўнасць дадзенага кантэксту, паказвае невыноснае гора гераіні твора, характарызуе яе як асобу рамантычную і ўражлівую, узмацняе абноўленым фразеалагізмам эмацыянальнае ўздзеянне на чытача.

В.Н. Вакураў вылучае тры тыпы распаўсюджвання кампанентнага складу фразеалагізмаў: атрыбутыўнае, аб'ектнае і акалічнаснае, адзначаючы, што больш пашырана атрыбутыўнае (ускладненне азначэннем) [41, с. 136–142]. Гэта пацвярджае і пісьменніцкая практыка М. Лынькова, у творах якога ўскладненне дапаўненнем сустракаем у рэдкіх выпадках: *пайсці **пылам** і прахам* [83, т. 4, с. 141]; *пайсці дымам,* ***пылам*** [83, т. 4, с. 273]; *пусціць з агнём і **дымам*** [83, т. 3, с. 245]; *пусціць з дымам-**попелам*** [64, т. 3, с. 565]; *пускаць з дымам-**ветрам*** [83, т. 4, с. 89]; *пусціць з агнём-**полымем*** [83, т. 3, с. 215]. Характэрна, што ў адны і тыя ж фразеалагізмы аўтар кожны раз уводзіць новыя словы, імкнецца гэтым пазбегнуць паўтарэння.

У некаторых выпадках пісьменнік адначасова ўскладняе фразеалагічныя адзінкі рознымі членамі сказа. Так, у апавяданні «У мястэчку» пісьменнік да абодвух кампанентаў фразеалагічнай адзінкі *расправіць крылы* ('пачаць дзейнічаць на поўную сілу сваіх здольнасцей, магчымасцей') далучае іншыя словы: «Эйдля таксама думае пра будучыню, толькі трохі іначай. Для яе будучыня – шырокі і светлы шлях, толькі падрасці б вось ды *расправіць **шырэй свае маладыя** крыллі*» [83, т. 1, с. 106]. Тут дзеяслоўны кампанент *расправіць* ускладняецца акалічнасцю *шырэй,* а назоўнікавы – азначэннямі *свае* і *маладыя.* У дадзеным выпадку ўвядзенне ў фразеалагізм слоў свабоднага ўжывання не стварае надзвычайнага мастацкага эфекту, зрэшты, як і ў большасці сітуацый з ускладненнем азначэннямі назоўнікавых кампанентаў.

Іншы раз, устаўляючы пэўныя словы, што адносяцца да фразеалагічных кампанентаў, пісьменнік выкарыстоўвае прыём гіпербалы. Так, у публіцыстычных творах, прысвечаных ваеннай тэматыцы, М. Лынькоў творча абнаўляе фразеалагізмы *заліць крывёю* (што), *патапіць у крыві*: «Гэта былі трупы ворагаў нашых, якія тры доўгія гады здзекаваліся з нашага народа *і **рэкамі нявіннай** крыві залілі* шматпакутную зямлю Беларусі» [83, т. 7, с. 363]; «І яны рабілі ўсё, што было ў іх сілах, каб зноў уздзець ярмо на шыю народа, каб *у **моры** крыві патапіць* яго кастрычніцкія заваёвы» [83, т. 7, с. 215]. У двух праілюстраваных прыкладах пашырэннем назоўнікавага

кампанента *крoў* (*рэкамі нявіннай крыві*; *у моры крыві*) аўтару ўдалося ўзмацніць экспрэсіўнае ўздзеянне на чытача, паказаць невычэрпнае гора беларусаў падчас войнаў.

Асобна варта разглядаць выпадкі, дзе аўтар увядзеннем слоў свабоднага ўжывання ў фразеалагізм не мае на мэце стварэнне якога-небудзь стылістычнага эфекту. Такое ўкліньванне наўрад ці матывуецца чым-небудзь і адносіцца ў асноўным да ўстаўкі азначэнняў: ***чэрствы*** *кавалак хлеба* [83, т. 7, с. 373]; ***шэры*** *кот наплакаў* [64, т. 3, с. 54]; *пусціць з* ***жабрацкай*** *торбай* (каго) [83, т. 1, с. 535] і інш. Думаецца, у пададзеных прыкладах далучэнне прыметнікаў да назоўнікавых кампанентаў не зусім удалае і залішняе, бо фразеалагізмы не патрабуюць такіх азначэнняў, якія ніяк не ўплываюць на іх сэнс і стылістычную афарбоўку.

Калі цяпер вярнуцца да працытаванага напачатку выказвання У.П. Жукава пра тое, што паяснёны кампанент «адразу ўспрымаецца як самастойнае слова з уласцівым яму значэннем», то з гэтым выказваннем варта пагадзіцца, дапоўніўшы яго, аднак, істотнай агаворкай. Амаль ва ўсіх разгледжаных вышэй прыкладах з твораў М. Лынькова паяснёны назоўнікавы кампанент сапраўды актуалізуецца, «ажыўляюцца яго слоўныя якасці. Адбываецца своеасаблівае лексіка-фразеалагічнае сумяшчэнне, бо назоўнікавы кампанент успрымаецца як частка цэлага і як звычайнае слова» [74, с. 127].

**Замена кампанента іншым словам.** Вызначальнымі рысамі фразеалагізмаў лічацца пастаянства іх кампанентнага складу, устойлівасць, сэнсавая цэласнасць. Звычайна гэтыя моўныя адзінкі ўзнаўляюцца ў гатовым выглядзе, захоўваючы пастаянства формы і зместу. Выкарыстоўваючыся ў кантэксце, фразеалагізмы ўступаюць у сувязь са словамі свабоднага ўжывання. Абагульненае значэнне фразеалагізма ў некаторых выпадках патрабуе больш дакладнай семантычнай канкрэтызацыі, выклікаyай як зместам твора ў цэлым, так і канкрэтнай маўленчай сітуацыяй.

Часам, не пацвярджаючы ніякімі колькаснымі паказчыкамі, пішуць, што «найбольш распаўсюджаным прыёмам індывідуальна-аўтарскага пераўтварэння фразеалагізма з'яўляецца замена аднаго з кампанентаў другім словам» [4, с. 130]. Але для М. Лынькова, як ужо адзначалася, найбольш пашыраным выступае прыём ускладнення фразеалагізма словам свабоднага ўжывання. Стылістычны прыём замены кампанента іншым словам хоць і сустракаецца ў лынькоўскіх творах, але не ў такой ступені пашыраны. Звязана гэта, відаць, з тым, што даволі цяжка замяніць кампанент фразеалагізма, прыстасоўваючы яго да кантэксту, і гэтым самым выклікаць стылістычны

эфект. Толькі ў некаторых творах названы прыём пераважае над астатнімі стылістычнымі прыёмамі выкарыстання фразеалагізмаў. Можна пацвердзіць гэта меркаванне прыкладамі з апавядання М. Лынькова «Андрэй Лятун», дзе тры з шасці абыграных фразеалагізмаў звязаны якраз з гэтым прыёмам. У творы галоўныя героі – чыгуначнікі, таму ўсе аўтарскія замены кампанентаў канкрэтызуюць агульнаўжывальныя фразеалагізмы, прыстасоўваюць іх да падзеяў, якія адбываюцца ў гэтым асяроддзі. Напрыклад, выраз *чорт не брат* <каму> азначае ‘нічога не страшна каму-н.,’ а замена назоўнікавага кампанента *чорт* словам (з лексікону чыгуначнікаў) *паравоз* абнаўляе гэту фразеалагічную адзінку, спрыяе таму, што на вядомы сэнс фразеалагізма накладваецца значэнне слова *паравоз*, якое і выціснула прывычны кампанент *чорт*. Аўтарскі выраз набывае значэнне ‘нічога не страшна, нават паравоз’. Разуменне значэння змененага фразеалагізма немагчыма без папярэдняга кантэксту, дзе расказваецца пра тое, як Андрэй Лятун «вылечыў» хворую нагу кульгавага рамонтніка Саўкі, якога незнарок стукнуў паравозным білам: «Стукнула яго [Саўку] крыху білам, ды ў самую тую нагу кульгавую. Стукнула і адкінула. Ён сабе і ляжыць. Ну, мы хуценька яго пад кран, ды вадой, а там на паравоз, ды на станцыю, ды ў пакой прыймовы... Здалі і паехалі сабе. А праз месяц сустракаю яго, гэтага Саўку, значыцца, на змене шпал. Ехаў я прыцішаным ходам, і гляджу, кланяецца мне чалавек ды ўсміхаецца яшчэ. – Здароў, – кажа, – дзядзька Андрэй, вялікі табе дзякуй за нагу маю пакалечаную, цяпер, бач, як з кузні, не крывіцца, не кульгае. Мяне аж жах узяў. Але гляджу і сапраўды: ходзіць чалавек, і нішто, нібы яму і *паравоз не брат*» [83, т. 3, с. 213].

У гэтым жа творы выраз *пачым фунт ліха* ўжыты ў форме *пачым фунт гаек*. Такое нечаканае выкарыстанне *гаек* замест *ліха* таксама абумоўлена кантэкстам. Абыграны фразеалагізм укладваецца ў вусны старога заслужанага машыніста Андрэя, які ў размове з чыгуначнымі рамонтнікамі (у кожнага з іх на поясе сумка з ключом і *гайкамі*) жартаўліва кажа: «Вы вось, скажам, рамонтнікі, ведаеце хваробу кожнай шпалы. Чуць захварэе – даёш новую, тое ж самае і кастыль, і рэйка табе, і замок, і *гайка*, скажам, кожная у вас не застарыцца... Скажаце хіба – кепска, працаваць нельга... Ого! Вы паспрабавалі б вось папрацаваць у дзевятнаццатым, у дваццатым, даведаліся б, *пачым фунт* ***гаек***...» [83, т. 1, с. 214]. Значэнне абноўленага фразеалагізма амаль не змянілася: ён усё роўна абазначае ‘(ведаць) якія бываюць цяжкасці, выпрабаванні ў жыцці’, аднак яго стылістычнае ўздзеянне на чытача ўзмацнілася. Выраз «сваім апошнім кампанентам спараджае дадатковыя асацыяцыі ў чытача,

які адчувае падтэкст, укладзены Андрэем Летуном у гэту замену, фамільярна-жартаўлівыя адносіны старога машыніста да маладых работнікаў з іх *гайкамі*» [73, с. 15–16].

Фразеалагізм *зрабіць блін* (з каго) са значэннем 'жорстка расправіцца з кім-н., моцна пакараць каго-н.' часцей ужываецца як пагроза. А ў гэтым апавяданні выраз набывае сэнс 'раздавіць' і выкарыстоўваецца не як пагроза, а як папярэджанне, засцярога ад магчымага, але непажаданага дзеяння: «Вось і цяпер, калі счэпшчык блыхой шнырыць паміж буфераў, Андрэй, назіраючы за ім са свае будкі, крычыць – Глядзі, раздаўлю, сцеражыся! – І ў той жа час думае: «Трэба асцярожней, а то, чаго добрага, ціснанеш знянацку, ***спячэш*** з чалавека *блінец*» [83, т. 1, с. 207]. Дзякуючы замене дзеяслоўнага кампанента *зрабіць* словам *спячы*, у абноўленым фразеалагізме адбываюцца семантычныя зрухі: ён набывае новае значэнне, а яго першасны, неідыяматычны сэнс выразна «прасвечваецца» скрозь фразеалагічны. Выраз загучаў па-новаму, узмацнілася яго эмацыянальна-экспрэсіўнае ўздзеянне на чытача.

У эпапеі «Векапомныя дні» замест фразеалагічнай адзінкі *хоць ты **іголкі** збірай* ('вельмі відно, светла') ужыты выраз *хоць ты **акуркі** збірай пад акном.* Замена перадае лагічны рух думкі персанажа, доктара Арцёма Ісакавіча. Урач таемна ад фашыстаў лечыць параненых байцоў і, убачыўшы акуркі каля бальнічных палат, што пакінулі пасля сябе салдаты, хвалюецца за далейшую сваю працу і лёс хворых: «А неба тым часам пасвятлела, *хоць ты **акуркі** збірай пад акном.* Вось нягоднікі, колькі разоў гаварыў, каб не заводзілі пад вокнамі смецця» [83, т. 4, с. 125]. Тут назіраем замену кампанента *іголкі* кампанентам *акуркі*. Думаецца, што новы кампанент у дадзеным кантэксце мае тэматычную блізкасць з першапачатковым, бо абодва яны выступаюць у якасці назваў дробных прадметаў. Абноўлены выраз *хоць ты акуркі збірай пад акном* мае такое ж значэнне, як і яго прататып, толькі на яго сэнс дадаткова накладваецца значэнне слова *акуркі*, дзякуючы чаму ствараецца стылістычны эфект.

Прыстасаваннем да кантэксту абумоўлена дэфармацыя фразеалагізма *шукай ветру ў полі* ('назад не вернеш, не знойдзеш каго-н.') у аповесці «Міколка-паравоз»: хлопчык, згодна тагачасным уяўленням, не верыць у Бога, не слухае папа, які выкладае Закон Божы, не жадае маліцца. За гэта маці часта дакарае Міколку. Герой рознымі спосабамі пазбягае пакарання, уцякае з хаты: «Пакуль маці прыглядаецца да яе [вароны], Міколка паспявае вылезці з-пад тапчаноў і праслізнуць у дзверы пад самымі матчынымі рукамі. Тая

толькі паспявае войкнуць – ***лаві*** цяпер ***бязбожніка*** *ў чыстым полі*» [83, т. 3, с. 170]. У дадзеным эпізодзе назіраем замену двух кампанентаў агульнаўжывальнага фразеалагізма: дзеяслоўнага *шукай* і назоўнікавага *ветру*. Замена тут сітуацыйна і стылістычна апраўданая: Міколка ўцякае, таму яго трэба *злавіць*, а ўжыванне слова *бязбожнік* (чалавек, які не верыць у Бога) замест кампанента *вецер* у вуснах маці канкрэтызуе агульнавядомы фразеалагізм, а таксама характарызуе галоўнага героя аповесці як упартага, неспакойнага, які, згодна тагачасным савецкім уяўленням, адмаўляе рэлігію. Аўтарскае абнаўленне надае выказванню жартаўлівую стылістычную афарбоўку. У гэтым прыкладзе назіраем яшчэ і прыём ускладнення фразеалагічнага кампанента *поле* сталым, фальклорным эпітэтам *чысты*.

Стылістычна і кантэкстуальна абумоўленую замену фразеалагічнага кампанента знаходзім і ў апавяданні «Баян» – у эпізодзе, калі начальнік лагера для зняволеных заходзіць у РУР (роту ўзмоцненага рэжыму) «да адпетых шарманшчыкаў, усялагерных лодараў, прайдзісветаў» і агітуе іх, каб і яны выходзілі на работу, удзельнічалі ў будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала. Далей: «– Пра работу ты кінь, начальнік. – А што? – Работа нам не да твару. Няхай кулак працуе, яму *і* ***лапата*** *ў рукі*. У яго і здатнасць на гэта: быў чэравам земляным, чарвяком земляным і астаўся...» [83, т. 1, с. 297]. У прыведзеным урыўку бачым творчае выкарыстанне фразеалагізма *і карты ў рукі* (каму) ці *і кнігі ў рукі* (каму) з сітуацыйна абумоўленай заменай першага назоўнікавага кампанента словам *лапата*. Гэтыя два сінанімічныя выразы абазначаюць ‘у каго-н. ёсць усе падставы, магчымасці зрабіць, выканаць што-н.; хто-н. найбольш падыходзіць да чаго-н. (сваімі ведамі, вопытам і пад.)’. Такое ж значэнне рэалізуе і абноўлены выраз *і лапата ў рукі* (каму), толькі на гэта значэнне накладваецца яшчэ і значэнне, уласцівае слову *лапата*, чым і ствараецца мастацкі эфект.

Фразеалагізм *пад абцас* у апавяданні «Радо» ўжываецца ў выглядзе *пад лапаць:* «[Рыпіна Скварчун] кожную вёску навылёт ведае. Ведае, як хто жыве і чым дыша, якіх камуністаў жонкі прыціскаюць *пад лапаць* ды ўбіраюць куты абразамі» [83, т. 1, с. 192]. Замена кампанента названага фразеалагізма выклікана тут экстралінгвістычным фактарам. Падзеі ў гэтым творы расказваюць пра жыццё даваеннай усходнебеларускай вёскі, дзе асноўная частка сялянства жыла вельмі бедна, абутку з абцасамі амаль не насілі. Таму замена ў дадзеным кантэксце цалкам апраўданая.

Сітуацыйна абумоўленай трэба лічыць замену ў фразеалагізме

*рукой падаць* назоўнікавага кампанента словам *крылом*: «Даведаліся мы праз другія крыніцы [ад тых, хто прыляцеў з ляснога аэрадрома акупаванай фашыстамі Беларусі], што Клімковіч... разам з жонкай знаходзіцца цяпер у надзейным месцы, ад якога, як гаворыцца, *крылом падаць* да нас у Маскву» [83, т. 8, с. 97]. Фразеалагізм, амалоджаны такой нечаканай заменай, выступае яркім стылістычным сродкам са значнай дадатковай інфармацыяй (тут *крылом* выразна намякае на магчымы пералёт цераз франтавую лінію).

У творах пісьменніка сустракаюцца толькі адзінкавыя прыклады замены фразеалагічнага кампанента антонімам. Н.В. Вакураў, разглядаючы антанімічную замену, адзначае: «Па сутнасці, гэтым прыёмам пісьменнік стварае новую фразеалагічную адзінку, таму што пры гэтым разбураецца тоеснасць фразеалагічнага вобраза зыходнай і аказіянальнай ФА» [41, с. 131]. На нашу думку, у дадзеным выпадку наўрад ці можна гаварыць пра стварэнне новага фразеалагізма. Хоць сэнс кампанента агульнаўжывальнага фразеалагізма антанімічны (на лексічным узроўні) сэнсу замененага кампанента, першапачатковы выраз яскрава «прасвечваецца» праз абноўлены, што прыводзіць да ўспрымання звычайнага фразеалагізма ўжо як свежага, арыгінальнага. У сатырычным фельетоне «Здарэнні ў пекле» расказваецца пра прыгоды фашыстаў на тым свеце: «[Люцыпар], зірнуўшы на ляскаючых зубамі фрыцаў, коратка кінуў сваім падначаленым: – Такой гарачыні, якую далі ім бальшавікі, вы даць ім ніколі не зможаце. І я не змагу. *Ну іх к* ***богу***... Дык не траццe дарма сілы, не псуйце дроў» [83, т. 6, с. 203]. Тут кампанент агульнаўжывальнага фразеалагізма *ну іх к чорту* у вуснах *Люцыпара* – *чорта* – мэтанакіравана заменены антанімічным *богу*, што стварае нечаканы камічны эфект. На значэнне вядомага выразу накладваецца сэнс антанімічнага замененага кампанента *бог*, аднак новы фразеалагізм тут не ўзнікае.

Своеасаблівай «падгонкай» пад кантэкст трэба лічыць выпадкі, калі ўласцівыя толькі чалавеку дзеянні, абазначаныя фразеалагізмамі, прыпісваюцца жывёлам. Напрыклад, у аповесці «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў», дзе галоўным героем выступае камічны персанаж – мядзведзь Мішка, замест выразу *ў твар*, што значыць ‘адкрыта, у прысутнасці каго-н. (гаварыць, пытацца і пад.)’, ужыта абноўленае *ў морду*: «А той адкуль і храбрасці набраўся, падышоў да самага воза ды проста Мішку ***ў морду***: – Бе-э-э...» [83, т. 3, с. 121]. Параўн. таксама ў той жа аповесці: *просіцца ў рукі* (што) – *просіцца ў лапу* (што): «Маленькія птушкі малінаўкі табе песні спяваюць, ды сама ягада ***ў лапу*** *просіцца*» [83, т. 3, с. 113].

Відаць, варта асобна спыніцца на выкарыстанні М. Лыньковым фразеалагізма *воўчае мяса*. Гэты назоўнікавы выраз мае ярка выяўленае ацэначнае значэнне, «ужываецца як выказванне незадаволенасці канём або сабакам і заўсёды толькі ў ролі зваротка ці прыдатка» [111, с. 99]. У творах М. Лынькова фразеалагізм выкарыстаны тройчы. Адзін раз – у дачыненні да каня і ў сінтаксічнай функцыі зваротка: «Конь стрыг вушамі, нясмела ступіў крок, другі і, параўняўшыся з месцам, дзе ляжаў Слышэня, рвануўся, ледзь не збіў чалавека, які вёў яго. – Ды ціха ты, *воўчае мяса*! – вылаяўся ён, не выпускаючы аброці з рук» [83, т. 5, с. 150]. У двух іншых выпадках пісьменнік пашырае спалучальныя магчымасці фразеалагізма, дастасоўвае яго ўжо не да сабакі ці каня, а да людзей з варожага асяроддзя. У першым выпадку – да палонных немцаў, якія прасілі партызана, каб ён за грошы выпусціў іх на волю, і якім партызан Астап, ляпнуўшы затворам, пагрозліва адказвае: «Іч ты іх, пачалі дурняў шукаць, я вас адвучу ад такой звычкі назаўсёды, *воўчае мяса*!... Не людзі, а шчанюкі, даруй ты божа...» [83, т. 5, с. 341]. Дарэчы, тут супастаўленне «не людзі, а шчанюкі» як бы намякае на звычайны сэнс фразеалагізма. У другім выпадку фразеалагізм дастасоўваецца да польскага афіцэра: «– Ён [афіцэр] выскачыў адзін з гэтага дома і да мяне на кватэру: «Давай, кажа, пінжак твой, мянядца будзем, на мундзір...» Я табе памяняю, *воўчае мяса*, я табе...» [83, т. 1, с. 581].

Добра ўсведамляючы этымалагічную аснову фразеалагізма *воўчае мяса*, пісьменнік ужо зусім у іншай маўленчай сітуацыі прыстасоўвае яго да ката, робіць замену прыметнікавага кампанента словам *сабачае*: «[Нупрэй] палез зноў асцярожна на печ, скінуўшы адтуль ката на палаці. – Разлёгся тут, піскота, усё цябе на чэрань цягне, *мяса сабачае*» [83, т. 3, с. 463]. У выніку замены перад намі ўжо зусім іншы выраз, індывідуальна-аўтарскі, з другім сэнсавым зместам, змадэліраваны на ўзор свайго папярэдніка – з выкарыстаннем яго граматычнай структуры і назоўнікавага кампанента. Наватвор выклікае ў чытача ўжо другія этымалагічныя асацыяцыі, звязаныя з вядомымі непрыязнымі адносінамі паміж сабакам і катом.

У фразеалагізмах могуць замяняцца ўсе кампаненты, пры гэтым узнікае новы аўтарскі выраз, утвораны па мадэлі агульнаўжывальнага. Пры мадэліраванні на ўзор вядомага выразу ў абноўленых фразеалагічных адзінках захоўваецца іх змест і граматычная структура. Параўн., напрыклад, у М. Лынькова выраз *не лапцем кроены*, створаны па мадэлі агульнаўжывальнага фразеалагізма *не лыкам шыты* ('не горшы за іншых, не пазбаўлены

здольнасцей, ведаў'), пры выкарыстанні якога сувязь з першапачатковай фразеалагічнай адзінкай не страчана. Аўтарскі выраз лепш падыходзіць да кантэксту, дзе галоўны герой – селянін, і ўкладзены ў яго вусны зменены фразеалагізм служыць сродкам маўленчай характарыстыкі персанажа: «Гэта была ўжо вышэйшая палітыка, паказ таго, што ён, рэб Нохім, *не лапцем кроены* і ў сім-тым разбіраецца» [83, т. 3, с. 515].

Такім чынам, стылістычны прыём замены кампанентаў абумоўлены кантэкстуальна і стылістычна. Такое творчае выкарыстанне фразеалагізмаў не стыхійнае, бо яно ствараецца знарок і выконвае шэраг аўтарскіх задач: канкрэтызуе абагульненае значэнне фразеалагізмаў, прыстасоўваючы гэтыя моўныя адзінкі да пэўнага кантэксту, абнаўляе ўжо вядомы фразеалагізм, надае выказванню новае, непаўторнае гучанне, часам жартаўлівае ці іранічнае адценне, служыць сродкам маўленчай характарыстыкі персанажа.

**Выкарыстанне вобразнай асновы фразеалагізма.** Пры гэтым стылістычным прыёме, нягледзячы на тое, што аўтар некалькімі, часта граматычна зменнымі фразеалагічнымі кампанентамі толькі намякае на вядомы выраз, сувязь з прататыпам захоўваецца. Напрыклад, у апавяданні «Гома» адчуваецца відавочны намёк на фразеалагізм *тоўстая (поўная) кішэнь* ('вельмі вялікі капітал, багацце'). Адбываецца гэта ў эпізодзе, дзе расказваецца, як багаты яўрэй Залман выбірае сваёй дачцэ Леі будучага мужа: «Дзве крамы ў Залмана і адна дачка, а хіба гэта мала значыць. Ого, і паспрабуй тут пагаварыць з Залманам, пагаварыць аб сэрцы Леі. Залман паглядзіць на цябе адным вокам, другім *памерае глыбіню* тваёй *кішэні*, пакруціць ціха галавой і, узяўшы за кончык сваёй барады і гледзячы кудысьці ўздоўж сцяны ці на жоўтую палавіцу, паважна гэтак і ціха гаворыць: – Дарагі Іцэль, сэрца твае не падыходзіць да сэрца Леі...» [83, т. 1, с. 59]. У дадзеным выпадку М. Лынькоў выкарыстоўвае толькі адзін фразеалагічны кампанент агульнаўжывальнага фразеалагізма – *кішэнь*, дадае да яго іншыя словы (*памерае, глыбіню*), змяняе і форму, і ў пэўнай ступені значэнне вядомага выразу. Можна лічыць, што на аснове назоўнікавага фразеалагізма *тоўстая (поўная) кішэнь* створаны новы, аказіянальны дзеяслоўны выраз *памераць глыбіню кішэні* (чыёй) – 'разведаць, дазнацца пра матэрыяльнае становішча каго-н.'.

У наступным кантэксце (апавяданне «У мястэчку») пісьменнік адштурхоўваецца ад агульнага вобразнага ўяўлення, закладзенага ў фразеалагізме *манна з неба сыплецца* (каму, у каго, для каго) – 'каму-н. вельмі лёгка, само сабой дастаюцца сродкі для пражыцця,

набытак’, і на яго аснове будуе разгорнутую метафару: «Але ж трэба ведаць меру: не сем, а пара рук у Шолама, і ботаў бог *не кідае з неба, як манну калісьці...*» [83, т. 1, с. 93]. Ёсць у пададзеным кантэксце намёк на паходжанне гэтага выразу, выток якога – біблейскі аповед пра сыноў Ізраіля, якія на працягу 40 гадоў елі манну, пакуль не прыйшлі ў зямлю абяцаную. Манну, калі іудзеі ішлі пустыняй, кожную раніцу нібыта пасылаў з неба Бог. Усё гэта асацыятыўна звязваецца з вобразам яўрэя Шолама і невялікай колькасцю слоў нясе чытачу багатую дадатковую і нечаканую інфармацыю. Герой апавядання – шавец, таму вынік сваёй працы – *боты* – ён параўноўвае з дарам божым – «маннай нябеснай». Фразеалагізм выступае сродкам маўленчай характарыстыкі персанажа, характарызуе яго як чалавека веруючага, які, аднак, спадзяецца не на бога, а толькі на сябе. Выраз і без змяненняў мае іранічнае адценне, а падпаўшы пад аўтарскую перапрацоўку, аказвае яшчэ большае ўражанне на чытача, прыцягвае ўвагу сваёй навізной.

Выраз *свет клінам сышоўся* (на кім, на чым) (‘хто-н. або што-н. з’яўляецца адзіным, з чаго можна выбіраць’) выступае як несуадносны з пэўнай часцінай мовы фразеалагізм, па структуры ўяўляе сабой двухсастаўны развіты сказ і рэалізуецца ў маўленні з дапаўненнямі. Аднак у наступным кантэксце (апавяданне «Кларнет») структура гэтага выразу разбураецца, трансфармаваны фразеалагізм суадносіцца з дзеясловам, і яго структура нагадвае словазлучэнне. Выкарыстанне ў кантэксце з дапаўненнямі (на кім, на чым) ужо неабавязковае: «[Жонка] ўрэпілася ў гэтыя пялёнкі, і *сышліся* яны цяпер для яе ўсім *краем-светам*» [83, т. 1, с. 178].

У апавяданні «Андрэй Лятун» на аснове фразеалагізма *на парозе* (‘вельмі хутка, у самы бліжэйшы час наступіць, будзе што-н.’) пісьменнік стварае новую фразеалагічную адзінку *на парог ляціць*. Перароблены аўтарскі выраз найбольш адпавядае рамантычнаму стылю апавядання, выразней перадае лірычны настрой галоўнага героя – паравознага машыніста Андрэя: «Пятрусь падкідаў вугалле і ціха ўголас напяваў нейкую песню. Якая – не памятаю, дый справа не ў словах, а ў песні. А ад песні заўсёды сум на сэрцы і жаль, мо аб тым, што жонка далёка, мо аб тым, што маладосць праляцела калісьці без пуцёвак і станцый. А Пятрусь малады, маладая і каханка. Чаму ж не пазайздросціць чужому шчасцю, асабліва калі гэтае шчасце *на парог ляціць*» [83, т. 1, с. 212]. У дадзеным выпадку да агульнаўжывальнага фразеалагізма *на парозе* дадаецца дзеяслоўны кампанент *ляціць*. Ён выступае ў ролі граматычна галоўнага кампанента і кіруе назоўнікавым кампанентам, які ўжываецца ў форме вінавальнага

склону з прыназоўнікам *на* (*ляціць на парог*). Змянілася і форма агульнамоўнага выразу, і яго семантыка: ён цяпер паказвае на больш хуткае здзяйсненне шчасця. «А калі не забываць, што праз некалькі мінут адбылося крушэнне і Пятрусь згарэў у топцы, мнагазначнасць і матываванасць абнаўлення фразеалагізма будзе яшчэ больш відавочная» [73, с. 17].

«Чым большая колькасць кампанентаў бярэцца з фразеалагізма ў яго зыходнай форме, тым лепш адчуваецца гэты фразеалагізм нават тады, калі ён, падпарадкаваны кантэксту, выконвае іншую сінтаксічную функцыю, атрымлівае новае сэнсавае адценне або зусім змяняе сваю семантыку» [74, с. 136]. Так, у індывідуальна-аўтарскім дзеяслоўным выразе *на сем замкоў замыкалі* бачым вобразную аснову прыслоўнага фразеалагізма *за сямю замкамі*: «І цар, і бог, і ўсе іх слугі і памагатыя *на сем замкоў замыкалі* гэтае шчасце, каб не трапіла яно ў рукі чалавека працы» [83, т. 6, с. 604]. Гэтак жа ў аўтарскім *скура да касцей папрысыхала* адчуваецца прыметнікавы фразеалагізм *скура ды косці* (‘вельмі худы, змарнелы’): «Людзі з нямецкіх лагераў прыйшлі, ледзь дыхаюць, *скура да касцей папрысыхала...*» [83, т. 4, с. 536]. Абноўлены фразеалагізм у большай ступені стварае ўяўленне пра знешні выгляд арыштаваных (такія худыя, што аж *скура да касцей папрысыхала*).

Праілюстраваныя прыклады паказваюць, што стылістычны эфект ад дадзенага прыёму ствараецца ў тым выпадку, калі чытач абавязкова суадносіць абноўлены выраз з вядомай фразеалагічнай адзінкай. У іншым выпадку аўтарская пераробка вядомага фразеалагізма будзе проста не зразумелай. Нягледзячы на тое, што пры такім выкарыстанні фразеалагічных адзінак, як правіла, парушаецца іх цэласнасць, сувязь паміж змененым выразам і яго першаасновай павінна быць відавочная. Як адзначае М.М. Шанскі, «фразеалагічнай адзінкі як цэласнай моўнай адзінкі тут ужо ўласна няма, аднак для правільнага разумення кантэксту і ўспрыняцця яго эстэтычных якасцей неабходна ведаць і мець на ўвазе і фразеалагізм як такі, г.зн. у такім выглядзе, у якім ён выкарыстоўваецца ў моўнай сістэме» [105, с. 210]. Так, М. Лынькоў, захоўваючы толькі назоўнікавы кампанент з фразеалагізма *рукі доўгія* (у каго) і прыблізна перадаючы семантыку зыходнага выразу (‘хто-н. любіць біцца’), выразна намякае на вядомы фразеалагізм: «Хоць раз правучыў каторага, каб *рукі карацей трымаў*» [83, т. 3, с. 577].

Пісьменнік па-рознаму выкарыстоўвае вобразную аснову фразеалагізмаў. Іншы раз структура фразеалагізмаў разбураецца, хоць іх семантыка амаль не змяняецца. Параўн., напрыклад,

выкарыстанне вядомых выразаў *нібы камень з сэрца зваліўся* (у каго), *у глыбіні душы*, *як гром з яснага неба*: «І так весела стала на сэрцы, як ніколі-ніколі, *нібы адваліўся камень*, які ціснуў *сэрца* гэткія доўгія гады» [83, т. 3, с. 102]; «І ўсе гады свайго жыцця не гасіў Мотэль у сэрцы затаёную, крывавую крыўду на рускіх. Здаецца, і гаварыў з імі, і абыходзіўся добра, але дзесьці *глыбока-глыбока* ў нявідных сутарэннях чалавечай *душы* захоўвалася гэтае варожае пачуццё да іх, да гояў, да Міхася» [64, т. 1, с. 29–30]; «Каб *гром* прагрымеў *з яснага неба*, менш бы здзівіліся жыхары нашага двара, чым гэтаму нясмеламу і жаласнаму мяўканню» [83, т. 1, с. 396].

Такім чынам, пісьменнік, выкарыстоўваючы вобразную аснову фразеалагізмаў, не парушае мяжы, за якой гэтыя моўныя адзінкі становяцца непазнавальнымі і незразумелымі чытачу. Дзякуючы захаванню большасці кампанентаў і выкарыстанню вобразнай асновы, фразеалагізмы лёгка ўсведамляюцца чытачам. Больш таго, удалыя дэфармацыі працуюць на аўтарскія мэты, спрыяюць узмацненню экспрэсіўнасці змененых выразаў, тым самым павышаюць сваю мастацкую вартасць.

**Фразеалагічная зеўгма і іншыя прыёмы.** Разглядаючы зеўгму, В.І. Рагаўцоў адзначае: «Любая стылістычная фігура мае змест і форму. Пад зместам зеўгмы мы разумеем яе ўнутраную сутнасць, якая зводзіцца да адначасовай рэалізацыі апорным словам двух лексічных значэнняў, а пад формай – моўнае выражэнне гэтага зместу, г.зн. сінтаксічную канструкцыю». Згодна такому падыходу даследчык прапаноўвае наступнае разуменне зеўгмы: «Сінтаксічная канструкцыя, якая складаецца з апорнага слова і залежных ад яго кампанентаў паратаксічнага рада (членаў сказа, сказаў), раўнацэнных граматычна, але семантычна разнапланавых, у выніку чаго ў полісемантычным апорным слове адначасова рэалізуюцца два розныя значэнні або сэнсавыя адценні» [92, с. 45].

У зеўгме могуць удзельнічаць не толькі словы, але і фразеалагізмы. У такім выпадку маем справу з фразеалагічнай зеўгмай. Нярэдка яна выкарыстоўваецца пісьменнікамі для стварэння мастацкага эфекту, які ўзнікае толькі ў выпадку, калі чытач ці слухач добра валодае мовай і можа заўважыць у парушэнні семантычнай спалучальнасці не памылку, а знарочысты стылістычны эфект.

У навуковай літаратуры апісваюцца некалькі разнавіднасцей фразеалагічнай зеўгмы [16, с. 59–67; 62, с. 70–71; 72, с. 47–52; 55, с. 130–135]. Што да твораў М. Лынькова, то тут сустрэліся адзінкавыя выпадкі дзвюх разнавіднасцей зеўгмы. Адна з іх – у апавяданні «У мястэчку». У эпізодзе, дзе ў яўрэя Шолама пытаюцца, як ідзе гандаль,

герой адказвае: «*Дзякаваць богу **і людзям*** – нічога» [83, т. 1, с. 94]. Тут у зеўгматычную канструкцыю аб'ядноўваюцца фразеалагізм *дзякаваць богу* (ужываецца як выказванне радасці, задавальнення, палёгкі з якой-н. прычыны) і свабоднае словазлучэнне *дзякаваць людзям* (выказванне падзякі). Дзеяслоўны кампанент *дзякаваць* з'яўляецца агульным і для фразеалагізма, і для свабоднага словазлучэння, адначасова выступае і як кампанент фразеалагізма, і як апушчаны элемент словазлучэння. У праілюстраваным кантэксце спачатку выяўляецца фразеалагічнае значэнне, а пасля сэнс свабоднага спалучэння слоў. Такое творчае абыгрыванне фразеалагізма апраўдана і кантэкстуальна, і стылістычна: менавіта людзі, купляючы тавар у Шолама, спрыяюць яго дабрабыту, выклікаючы гэтым задавальненне і радасць героя.

У апавяданні «Квіслінг» выкарыстанне зеўгмы абумоўлена аўтарскай мэтай сатырычнага паказу амерыканскай улады: «Але хто такі сенатар? Хто такія гэтыя амерыканскія дарадчыкі, якія даюць сабе права *залазіць* бруднай рукой не толькі *ў душу* тваю, але і *ў* твае *кішэні*, квапіцца на дабро тваё...» [83, т. 2, с. 473]. У прыведзеным прыкладзе два дзеяслоўныя фразеалагізмы падобнай структуры *залазіць у душу* (чыю, каго, каму) ('даведвацца пра чые-н. думкі, пачуцці, намеры') і *залазіць у кішэнь* (чыю, каму, каго) ('незаконна карыстацца чужым дабром') маюць агульны дзеяслоўны кампанент *залазіць*, які рэалізуецца ў першым фразеалагізме, у другім жа толькі падразумяваецца. Агульны кампанет ажыўляе ўнутраную форму абодвух фразеалагізмаў. Дзякуючы фразеалагічнай зеўгме, М. Лынькову ўдалося стварыць яркі сатырычны вобраз амерыканскай улады, якая, на думку аўтара, шкодзіць чалавеку маральна і матэрыяльна: абрабоўвае яго, умешваецца ў асабістыя думкі і пачуцці.

Вядома, што лаканічнась, дакладнасць выступаюць якаснымі характарыстыкамі мастацкай вартасці твора. Уменне ў малым перадаць многае вызначае майстэрства пісьменніка. Дасягнуць гэтага ў многім дапамагае прыём фразеалагічнай зеўгмы як «самай лаканічнай формы рэалізацыі эфекту «падманутага чакання» [16, с. 66], які нарастае і выяўляецца у межах аднаго словазлучэння.

Сярод іншых прыёмаў структурна-семантычных змяненняў фразеалагізма можна адзначыць адзінкавы прыклад **аб'яднання слова свабоднага ўжывання з часткай фразеалагізма**. Гэты прыём «грунтуецца на двухпланавай рэалізацыі слова свабоднага ўжывання, на сутыкненні і перапляценні двух сэнсавых кантэкстаў. Пэўнае слова, аманімічнае з фразеалагічным кампанентам і рэалізаванае ў адным са сваіх значэнняў, выступае і як частка фразеалагізма» [74, с.

135]. У адным з эпізодаў аповесці «Міколка-паравоз» расказваецца, як Міколка, убачыўшы царскі герб, на якім намаляваны двухгаловы арол з царскай каронай, пытаецца ў бацькі: «А чаму ў арла дзве *галавы*?» Бацька іранічна тлумачыць: «Таму што адной не хапае, *дзіравая*... Таму, бачыш, і каронай накрытая» [83, т. 3, с. 151]. Стылістычны эфект узнікае таму, што слова *дзіравая* тут успрымаецца адначасова як прыметнік са значэннем 'з дзіркай' і як кампанент фразеалагізма *дзіравая галава* (у каго, чыя). У «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» семантыка гэтага фразеалагізма наступная – 'хто-н. Забыўчывы, рассеяны, мае кепскую памяць', а ў творы М. Лынькова выраз набывае больш негатыўнае значэнне – 'хтосьці неразумны, бесталковы, тупы'. Нягледзячы на тое, што бацька ў адкрытую не выказвае хлопчыку сваё стаўленне да царскага рэжыму, у гэтым кантэксце, дзякуючы структурна-семантычнаму абнаўленню фразеалагізма, няцяжка здагадацца пра бацькавы негатыўныя адносіны да ўлады.

**Кантамінацыя фразеалагізмаў.** Фразеалагічнай кантамінацыяй называюць зліццё, аб'яднанне частак двух фразеалагізмаў у адзін індывідуальна-аўтарскі выраз-наватвор. Як пісаў А.М. Бабкін, у выніку кантамінацыі ўтвараецца «новая фразеалагічная адзінка з тым самым ці падобным значэннем» [26, с. 194]. Не згаджаючыся з такім сцвярджэннем, А.І. Малаткоў зазначае, што «кантамінацыя фразеалагізмаў не прыводзіць да ўтварэння новага фразеалагізма», «састаў фразеалагічных адзінак мовы не ўзбагачаецца за кошт такіх утварэнняў» і што кантамінаваныя ўтварэнні павінны разглядацца як тыповыя памылкі [88, с. 202, 203].

Іншы пункт гледжання на вынікі кантамінавання знаходзім у працы І.Я. Лепешава [74, с. 222–223]. Ён на канкрэтных прыкладах паказвае, што, па-першае, у асобных, параўнальна рэдкіх выпадках кантамінацыю варта лічыць адным са спосабаў узнікнення новых фразеалагізмаў (напрыклад: *куды вочы глядзяць* + *куды ногі нясуць* = *куды вочы нясуць*; *мераць на свой аршын* + *на свой капыл* = *мераць на свой капыл*). Па-другое, кантамінаваныя ўтварэнні не становяцца новымі фразеалагічнымі адзінкамі, але, створаныя для пэўнага маўленчага кантэксту, успрымаюцца чытачом як эфектыўны сродак мастацкай выразнасці (гэта пацвярджаецца прыкладамі з твораў М. Лобана, П. Панчанкі, І. Шамякіна або, скажам, такім гібрыдам В. Шаўчэнкі: *ход траянскім канём*). Па-трэцяе, кантамінаваныя ўтварэнні – гэта часцей за ўсё фразеалагічныя памылкі, вынік несвядомага змешвання двух фразеалагізмаў.

Да другой разнавіднасці фразеалагічнай кантамінацыі паводле яе вынікаў трэба адносіць аўтарскі выраз М. Лынькова *хоць бы ў вус*,

утвораны пісьменнікам з двух сінанімічных выразаў: *хоць бы што* + *у вус не дзьмуць*. Наватвор захоўвае тое самае значэнне, што і яго папярэднікі ('ніяк не рэагуе, не звяртае ніякай увагі на што-н.'), але робіць выказванне больш яркім, больш эфектыўным: «І шанцуе ж чалавеку. У мяне два на заводзе, а ў яго аж тры чалавекі, ды яшчэ – на табе, сталоўку завёў, «антылігенцыю» сталуе – канторшчыкаў, дзелаводаў, аграбае сабе грошы, і *хоць бы ў вус*!» [83, т. 3, с. 70].

## § 2. Семантычныя змяненні фразеалагізмаў

Другая група творчага выкарыстання фразеалагізмаў – гэта іх семантычныя змяненні, калі форма фразеалагізма застаецца традыцыйнай, а закранаецца толькі яго сэнс.

Аб'ектыўнай крыніцай для семантычных змяненняў фразеалагічных адзінак з'яўляецца «супярэчнасць паміж семантычнай непадзельнасцю фразеалагізма і яго расчлянёнай формай, з аднаго боку, структурная блізкасць фразеалагізма са [свабодным] словазлучэннем, а ў вельмі многіх выпадках і іх слоўна-кампанентнае супадзенне, з другога боку...» [77, с. 223–224]. Пісьменнікі ўлічваюць такія прыродныя ўласцівасці фразеалагізмаў і дзеля стварэння мастацкага эфекту знарок супастаўляюць увесь фразеалагізм ці яго асобныя кампаненты з адпаведным словам або са свабодным спалучэннем слоў. Адначасовае ўспрынясцце фразеалагізма як свабоднага словазлучэння і як устойлівай, узнаўляльнай адзінкі з цэласным значэннем спрыяе таму, што абноўленыя фразеалагічныя адзінкі пачынаюць гучаць як новыя, свежыя і арыгінальныя маўленчыя сродкі выразнасці.

Часцей за ўсё пад семантычнае абнаўленне падпадаюць фразеалагічныя адзінствы (*віляць хвастом, змотваць вуды, гладзіць па галоўцы, падразаць крылы* і інш.). Яны ўзніклі на аснове аманімічных словазлучэнняў і на іх фоне ўспрымаюцца як метафары. Семантычныя прыёмы абыгрывання фразеалагізмаў якраз і грунтуюцца на «ўваскрашэнні» ўнутранай формы фразеалагізмаў, выяўленні іх першаснага, неідыяматычнага значэння, асвяжэнні іх метафарычнага сэнсу; тым самым узмацняецца экспрэсіўнае ўздзеянне вядомых выразаў. Спецыяльна створаны пісьменнікамі кантэкст, ці стылістычны актуалізатар, «выконвае асноўную ролю ў асвяжэнні, семантычным прырашчэнні, узбагачэнні фразеалагізма перакрыжаванымі асацыятыўнымі ўяўленнямі» [74, с. 141]. Таму пры аналізе змененых фразеалагізмаў у творах пісьменніка вельмі важна ўлічваць уплыў кантэксту на абнаўленне семантыкі фразеалагічных адзінак.

У навуковай літаратуры семантычныя прыёмы аўтарскай перапрацоўкі фразеалагізмаў звычайна падзяляюцца на дзве падгрупы: 1) прыёмы, звязаныя з абыгрываннем усяго фразеалагізма; 2) прыёмы, заснаваныя на абыгрыванні асобнага фразеалагічнага кампанента [41, 74, 77, 92]. У творах М. Лынькова знаходзім разнастайныя прыклады семантычнага абнаўлення фразеалагізмаў, прычым пад такія змяненні ў творах пісьменніка падпадаюць як адзінствы (найчасцей), так і зрашчэнні. Разгледзім спачатку прыёмы абыгрывання ўсяго фразеалагізма. Сярод іх – агаленне ўнутранай формы фразеалагізма параўнаннем, пераасэнсаванне фразеалагізма ў дыялагічным маўленні, камічная расшыфроўка фразеалагізма, разгортванне метафарычнага кантэксту на вобразнай аснове фразеалагізма, сутыкненне фразеалагізмаў, якія маюць аднолькавы кампанент, паралельнае ўжыванне фразеалагізма і свабоднага словазлучэння, антытэзнае супрацьпастаўленне фразеалагізма і антанімічнага яму свабоднага словазлучэння, а таксама прыём стварэння семантычнага паралелізму.

**Агаленне ўнутранай формы фразеалагізма параўнаннем.** У выніку гэтага прыёму параўнальны зварот, які ставіцца пасля фразеалагізма, перад ім ці ў сярэдзіне яго, аднаўляе яго прыхаваную ўнутраную форму, што пры звычайным ужыванні фразеалагізма знаходзіцца ў цені свядомасці. Пры стылістычным прыёме агалення ўнутранай формы фразеалагізма параўнанне адносіцца непасрэдна да фразеалагічнай адзінкі і ўзнаўляе яе ўнутраную форму. Ствараецца семантычная двухпланавасць, адбываецца сумяшчэнне двух сэнсаў – фразеалагічнага і нефразеалагічнага. У такім выпадку параўнанне, акрамя замацаванай за ім ад прыроды вобразнасці, «выконвае яшчэ і дадатковую функцыю – «разнявольвання» семантычнага вобраза фразеалагічнай адзінкі. Ствараецца адзінае яркае ўражанне, павышаецца ступень канкрэтызацыі, нагляднасці. У выніку такога ўздзеяння кампаненты фразеалагізма павышаюць сваю лексіка-семантычную самастойнасць» [74, с. 145]. Параўнанне актуалізуе ўнутраную форму фразеалагізма, у якога з’яўляецца канкрэтны план, несумяшчальны з яго ідыяматычным значэннем. Гэты канкрэтны план падтрымліваецца параўнальным зваротам. Падобная кантрасная несумяшчальнасць фразеалагічнага і канкрэтнага планаў выражэння прыводзіць да стварэння стылістычнага эфекту.

У творах М. Лынькова сустрэліся нешматлікія выпадкі такога творчага выкарыстання фразеалагізмаў. Так, у рамане «На чырвоных лядах» побач з выразам *ссаць кроў* ужываецца параўнальны зварот *як той слівень,* які выступае «стылістычным актуалізатарам» унутранай

формы фразеалагічнай адзінкі: «А што казаць? Каб біў мяне кожны? Каб кожны гад, **як той слівень**, *кроў* маю *ссаў*?» [83, т. 3, с. 462]. Дзякуючы параўнальнаму звароту ў праілюстраваным кантэксце адбываецца сумяшчэнне двух значэнняў: фразеалагічнага (‘мучыць каго-н., прычыняць пакуты’) і ўласцівага свабоднаму словазлучэнню *піць кроў*. Параўн. таксама падобны прыклад з «Векапомных дзён»: «Вось шчаслівыя тыя, каторым удалося ўцячы. Можа, яны ўжо ў партызанах, можа, яны б’юць ужо недзе гэтых ненавісных і праклятых, якія, **як ненажэрныя п’яўкі**, *смокчуць і не насмокчуцца крыві*» [83, т. 5, с. 141].

Абнаўленне семантыкі фразеалагізма *лезці ў вочы* (каму) назіраем у публіцыстычным творы «На востраве»: «Вунь не маю часу спакойна папіць гарбаты, *лезуць*, **як тыя сляпні**, *у вочы*, лезуць з кулакамі ды лаюцца, і не ведаю, што рабіць, хоць ты ў свет белы бяжы, як тая зязюля ад верабʼёў» [83, т. 6, с. 56]. Пісьменнік ажыўляе прыхаваны вобраз фразеалагізма *лезці ў вочы* (каму), агаляе яго ўнутраную форму, якая, дзякуючы параўнальнаму звароту *як тыя сляпні*, выяўляецца скрозь фразеалагічнае значэнне ‘назойліва прыставаць, дакучаць’.

У папярэдніх прыкладах фразеалагізмы ўскладняюцца параўнальнымі зваротамі, якія ўяўляюць сабою словазлучэнні (*як тыя сляпні, як ненажэрныя п’яўкі, як той слівень*). У выпадку ж абыгрывання фразеалагізма *молада-зелена* (‘нявопытны, наіўны па маладосці гадоў’) у аповесці «Апошні зверыядавец» М. Лынькоў асобна «расшыфроўвае» кожны фразеалагічны кампанент, дадаючы да яго разгорнутыя параўнальныя канструкцыі: «Ёрзкая ты ў мяне, браце, дзяўчына. Не нажыць бы бяды часам… *Молада-зелена*. Так, молада-зелена… *Молада*, як пахучыя вятры вясновыя, поўныя гуду жыццёвага, перазвону палёў і лясоў… *Зелена*, як тыя лісточкі прыбярыхі-бярозкі, як тыя лугі-мурагі са сваімі мядовымі кветкамі…» [83, т. 3, с. 7–8]. Параўнальныя звароты ўяўляюць сабой асобныя мікракантэксты, непаўторную карціну вясновага абнаўлення жыцця. Аўтар па-майстэрску малюе вобраз маладой, прыгожай, як вясновая прырода, гераіні, якая, аднак, з-за сваёй «зялёнасці», наіўнасці, трапляе ў непрыемную гісторыю.

**Пераасэнсаванне фразеалагізма ў дыялагічным маўленні.** Прыём засноўваецца на сэнсавым непаразуменні паміж суразмоўнікамі. Яно можа быць сапраўдным, калі адзін персанаж ужывае фразеалагізм у нязменным выглядзе, з уласцівым яму фразеалагічным значэннем, а другі ўспрымае яго як свабоднае словазлучэнне. У большасці ж выпадкаў такога абнаўлення фразеалагізмаў, сустрэтых у

творах пісьменніка, сэнсавае непаразуменне паміж персанажамі ўяўнае, знарочыстае. Суразмоўнік робіць выгляд, што не разумее сэнсу фразеалагічнай адзінкі і ўспрымае яе літаральна, як звычайнае свабоднае словазлучэнне. На самай справе ён добра ведае значэнне выразу, аднак па пэўных прычынах не паказвае гэтага.

Стылістычны эфект ад абыграных фразеалагічных адзінак узнікае дзякуючы супастаўленню іх са словам ці словамі свабоднага ўжывання, якія паўтараюцца ў маўленні другога суразмоўніка. Двойчы арыгінальна, цікава і непаўторна абыгрываецца выраз *з-пад зямлі* (дастаць) у «Векапомных днях». Першы раз – у размове паміж паліцэйскім і начальнікам паліцыі, які злосна рэагуе на пачуты ад суразмоўніка фразеалагізм *з-пад зямлі* (дастану) і своеасабліва пераасэнсоўвае яго, з далейшым каментарыем да назоўніка *зямля*: «– Я ж буду старацца, так старацца, што я гэтых самых партызан *з-пад зямлі* вам дастану. – *З-пад зямлі* мне не трэба. Ты мне тых дастань, якія *па зямлі* ходзяць, якія на маёй тэрыторыі ходзяць ды з нас, з цябе, з пустой твае галавы пасмейваюцца» [83, т. 4, с. 331].

Другі раз фразеалагізм абыгрываецца ў эпізодзе, калі партызан Светлік прыдбаў у лесе прыхаваную бутэльку гарэлкі: «Рашуча падышоўшы да стала, [Светлік] яшчэ больш рашуча паставіў на яго пляшку, абвёўшы ўсіх урачыстым позіркам. – Во! *З-пад зямлі*, можна сказаць, дастаў. – А і сапраўды *з-пад зямлі*, – прамовіў маўклівы Заруба, гаспадарліва абцершы пляшку ад наліпшага на яе пяску» [83, т. 4, с. 378]. У першай рэпліцы герой ужывае фразеалагізм з уласцівым яму значэннем – ‘пры любых умовах, любым спосабам і абавязкова’. Другі персанаж знарок абыгрывае гэты фразеалагізм. Уражанне ад пераасэнсаванага выразу ўзмацняецца і ад апісання дзеянняў героя, які выцірае пляшку ад пяску.

Мадыфікацыя фразеалагізма *якім ветрам занесла* (каго, куды) у гэтым жа творы дапамагае аўтару станоўча ахарактарызаваць вобраз дасціпнага партызанскага камандзіра Васіля Іванавіча Слышэні. Традыцыйна гэты выраз ужываецца як выказванне здзіўлення пры нечаканай сустрэчы. У адным з эпізодаў камандзір раптоўна з’яўляецца ў штаб, і гэта выклікае радасць саслужыўцаў: «– Ці не сон бачу я? *Якім* добрым *ветрам занесла* вас сюды, Васіль Іванавіч? – *Не ветрам*, даражэнькі, а *паветрам*» [83, т. 5, с. 521]. Жартоўнае «ўдакладненне» Слышэні аказваецца да месца, таму што прыляцеў ён на самалёце. Аўтарскае абнаўленне вядомага фразеалагізма тут вельмі дарэчнае і невялікай колькасцю слоў нясе чытачу дадатковую інфармацыю. У дадзеным выпадку стылістычны эфект узнікае дзякуючы супрацьпастаўленню назоўнікавага

кампанента фразеалагізма *якім ветрам занесла* са словам свабоднага ўжывання *паветрам.*

Арыгінальна пераасэнсоўваецца фразеалагізм *у лес не ўцячэ* ('яшчэ паспеецца, нічога не зробіцца з кім-, чым-н.') пры размове старасты Сымона з мясцовымі паліцаямі, які таемна ад нямецкіх уладаў дапамагае партызанам, не выдае іх месцазнаходжання: «– Нам, брат Сымон, не вельмі заседжвацца ў цябе. Справа ў нас адна сур'ёзная. – [Сымон:] А справа – яна ніколі *ў лес не ўцячэ.* – Вось гэта ты, стары, правільна. Чаго *ёй* і *ўцякаць*, калі яна, можна сказаць, у лесе і *сядзіць*?» [83, т. 4, с. 357]. Сэнсавае апрадмечванне кампанентаў фразеалагізма, наданне ім прамога лексічнага значэння дакладна і трапна характарызуе маўленчую сітуацыю (штаб партызан размяшчаецца ў лесе).

Двойчы сустрэлася абнаўленне традыцыйнага прывітальнага звароту *дзень добры.* Напрыклад, у апавяданні «Андрэй Лятун»: «Ён [Антон] лезе на прыступкі і, скрывіўшы твар, кажа «*дзень добры*». – Каму як, а ў цябе, нябось, *нядобры.* Баляць?» [83, т. 1, с. 209]. Змяненне семантыкі фразеалагізма, наданне літаральнага значэння яго прыметнікаваму кампаненту тут цалкам апраўдана і матывуецца тым, што другі персанаж такім чынам спачувае рабочаму Антону, у якога баляць зубы, таму і *дзень* для яго *нядобры.* Параўн. таксама ў рамане «На чырвоных лядах»: «– Дык *дзень добры* вам у хату, паніч! – *Дзянёк* то *добры*, а якія справы ў вас?» [83, т. 3, с. 325].

Пераасэнсаванне фразеалагізмаў у дыялагічным маўленні назіраем і ў іншых творах пісьменніка, напрыклад, у аповесці «Апошні зверыядавец». У гэтым творы толькі ў апошніх эпізодах раскрываецца ілжывая сутнасць галоўнага героя, дырэктара завода Анатоля Іванавіча Гарашчэні, які прысвоіў сабе імя забітага воіна. Людзі слепа давяралі дырэктару, таму адразу не зразумелі, што ўяўляе сабой гэты чалавек: «– І як гэта мы не заўважылі? – А *дзе былі вочы*? – Недарма я часта глядзеў...– Ото ж ты глядзеў, ды не бачыў, бо *вочы*, мусіць, *былі на почапцы*» [83, т. 3, с. 99]. У гэтым жа творы абыгрываецца фразеалагізм *якое ліха носіць* (каго, дзе) ('чаго хто-н. бадзяецца, не ў пару ходзіць дзе-н.'): «– А я ўжо дадумацца не мог – куды вудзільна падзелася... Але ж *якое* цябе *ліха* тут *носіць*? – *Ліха* чалавека *не носіць*, ад яго *папаўзеш* па зямлі» [83, т. 3, с. 30].

У адрозненне ад разгледжаных прыкладаў, дзе пераасэнсаванні фразеалагізмаў, як правіла, уяўныя, знарочыстыя, у маўленні дзяцей падобныя змяненні фразеалагічных адзінак сапраўдныя. Вядома, што канкрэтнасць мыслення дзіцяці спрыяе таму, што яно апрадмечвае кампаненты невядомага выразу, успрымае фразеалагізм

як суму асобных слоў са знаёмым, нефразеалагічным сэнсам. Падобная літаралізацыя фразеалагічных адзінак у маўленні дзяцей выглядае натуральна і эфектыўна. Так, у аповесці «Міколка-паравоз» на пытанне Міколкі, хто такія буржуі, бацька адказвае:

– Буржуі?.. Гэта, бачыш, такія людзі, якія нічога не робяць і смачна ядуць... Такія, браце, пузатыя людзі, *на* чужым *карку сядзяць*... на маім вось, на тваім.

Памацаў Міколка свой карак, здзівіўся.

– Няхай жа паспрабуе сесці каторы, я яго гайкай па лбе [83, т. 3, с. 152].

Успрыманне Міколкам фразеалагізма *сядзець на карку* (чыім, у каго, каго) не як выразу з цэласным, непадзельным сэнсам ('быць на чыім-н. забеспячэнні, утрыманні'), а як свабодных слоў з прамым значэннем стварае ад ужывання абноўленага выразу запамінальны мастацкі эфект. А яшчэ ў большай ступені ўзмацняе камічнае ўражанне апісанне дзеянняў хлопчыка, які, сапраўды не разумеючы сэнсу невядомага яму выразу, мацае свой карак, быццам бы шукаючы там буржуя.

Як бачым, усе прыклады паказваюць функцыянаванне фразеалагізма ў маўленні персанажаў, выяўляючы тым самым іх дасціпнасць, пачуццё гумару.

**Камічная расшыфроўка фразеалагізма.** Адным з моўных сродкаў стварэння камічнага эфекту з удзелам фразеалагізмаў з'яўляецца стылістычны прыём камічнай расшыфроўкі фразеалагізма. Сутнасць яго ў тым, што ў спецыяльна створаным кантэксце папярэдне ўжыты фразеалагізм у сваім нарматыўным значэнні своеасабліва «тлумачыцца» словамі, якія нібы паясняюць яго, вяртаюць фразеалагічным кампанентам літаральны сэнс і гэтым разбураюць цэласнасць фразеалагічнай адзінкі. «Пачатак кантэксту выяўляе фразеалагічнае значэнне, а канец – выварочвае навыварат гэта значэнне» [74, с. 149–150]. Каламбур, які ўзнікае ў выніку такой «расшыфроўкі» фразеалагізма, стварае «эфект падманутага чакання».

Так, у апавяданні «Містэр Лаяна» творча выкарыстоўваецца агульнаўжывальны выраз *не міргнуўшы вокам*: «І, *не міргнуўшы вокам,* толькі пачэсваючы злёгку правае брыво, містэр Лаяна адказаў: – Думаю, вам вядома, што грошы не пахнуць» [83, т. 2, с. 356]. У гэтым выпадку *не міргнуўшы вокам* спачатку ўспрымаецца як фразеалагізм са значэннем 'без ніякай збянтэжанасці, сораму, хвалявання (гаварыць што-н.)', аднак у далейшым кантэксце, дзякуючы ўжытаму ўслед за ім структурна блізкаму словазлучэнню *толькі пачэсваючы злёгку правае брыво,* разбураецца цэласнае значэнне

вядомага фразеалагізма. Своеасаблівая імітацыя свабоднага словазлучэння пад фразеалагізм у цэлым надае экспрэсіўнасць кантэксту, дапамагае пісьменніку стварыць сатырычны вобраз містэра Лаяна.

Дасціпнасць, тонкае пачуццё гумару персанажаў лынькоўскіх твораў выяўляюцца дзякуючы камічнай расшыфроўцы вядомых выразаў. Так, у апавяданні «Маньчжур» галоўны герой так рэагуе на скаргі і нараканні старой бабулі: «А словы твае, ого-о... не туды вернеш, дарагая, *бачу* я *наскрозь* цябе, да апошняй тваёй панчохі» [83, т. 1, с. 140]. Тут выраз *бачыць наскрозь* (каго) спачатку рэалізуе фразеалагічнае значэнне і абазначае 'вельмі добра ведаць чые-н. думкі, намеры', а словы-канкрэтызатары *да апошняй тваёй панчохі* апрадмечваюць кампаненты фразеалагізма, ажыўляюць яго прадметнае, першапачатковае значэнне. У выніку фразеалагізм пачынае ўспрымацца як свабоднае аманімічнае словазлучэнне. Аўтарская перапрацоўка павышае вобразнасць фразеалагізма, надае выказванню жартаўлівы характар. Падобным чынам гэты ж фразеалагізм, толькі ў іншым значэнні ('глыбока разумець, ведаць што-н., пранікаць у сутнасць чаго-н.') абыгрываецца і ў рамане «На чырвоных лядах»: «Я, брат, *наскрозь* кожную душу *бачу*, як кожная жылачка там пераліваецца і што ў чалавека наўме...» [83, т. 3, с. 437].

У эпізодзе з «Векапомных дзён» пад аўтарскую перапрацоўку падпадае выраз *рукі кароткія* (у каго): «Маўчала, сціснуўшы зубы, а калі ўжо скажа, дык такое, што сіпелі ад злосці, пагражалі: – Глядзі, баба, мы табе пакажам камунію! – *Рукі* ў вас *кароткія*... А трэба будзе – яшчэ ўкароцім» [83, т. 4, с. 250]. Спачатку выраз *рукі кароткія* мае фразеалагічнае значэнне 'няма права, магчымасці, сілы зрабіць, ажыццявіць што-н.', а ў далейшым кантэксце аднакаранёвы з прыметнікавым кампанентам дзеяслоў *укароцім* спрыяе таму, што на фразеалагізм нібы наслойваецца значэнне свабоднага аманімічнага словазлучэння (прэдыкатыўнага).

Выраз *мора па калена* (каму) абазначае 'нічога не страшна, нічога не значыць, усё хоць бы што'. У артыкуле «Цешыўся старац, што перажыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю...» назоўнікавы кампанент *мора* ўспрымаецца ў прамым значэнні: «Ідзі хаця супакой нацыю... Ну, скажы там што-небудзь па эфіру... Пра *мора* намякні, што *яно* немцам *па калена*, што нашы там з прыемнасцю купаюцца, ну... весела цялёпкаюцца, адным словам, ніякай бяспекі...» [83, т. 6, с. 208]. Абноўлены выраз знарок укладваецца ў маўленне фюрэра, каб узмацніць сатырычную ацэнку яго вобраза з дапамогай моўных сродкаў.

Пісьменніцкае майстэрства ў выкарыстанні фразеалагізмаў выяўляецца не толькі праз маўленне персанажаў, але і праз аўтарскую мову, асабліва ў публіцыстычных артыкулах, лістах. Так, у артыкуле «Пра чалавека, друга, настаўніка», прысвечаным Якубу Коласу, абыгрываецца выраз *глядзець зверху ўніз* (на каго): «Але траплялісся сярод нас... і такія, што *глядзелі* на Коласа, на Купалу *зверху ўніз*, з касмічна-планетарных вышынь» [83, т. 7, с. 253]. На фразеалагічнае значэнне выразу *глядзець зверху ўніз* (‘адносіцца да каго-н. пагардліва’), дзякуючы акалічнасці месца *з касмічна-планетарных вышынь*, накладваецца значэнне свабоднага словазлучэння. Параўн. таксама аўтарскую перапрацоўку традыцыйнага фразеалагізма *вешаць насы* (‘даходзіць да моцнага адчаю, адчуваць душэўнае хваляванне, маркоціцца’) у лісце да Эдзі Агняцвет: «Дык вось, як мы тут жывём: працуем, часам сумуем, але *вешаць насы* каманда ў нас тут не падавалася. Думаю, што і ў далейшым *насы* будуць на месцы, а мо і падымуцца яшчэ вышэй» [83, т. 8, с. 67].

Прастамоўны фразеалагізм *напіцца крыві* (чыёй) ужо ў сваім значэнні ўтрымлівае адмоўнае адценне, выражае негатыўныя адносіны. У адным з лістоў да Якуба Коласа М. Лынькоў, выказваючы сваё стаўленне да фашызму, яшчэ больш узмацняе гэта адмоўнае ўражанне, літаралізуючы семантыку агульнаўжывальнага фразеалагізма: «Хопіць, *напіўся* нашай *крыві*, лопне, здохне» [83, т. 8, с. 94]. Спачатку выраз *напіцца крыві* (чыёй) успрымаецца як фразеалагізм са значэннем ‘памучыць каго-н., паздзекавацца з каго-н.’, а пасля пад уплывам дзеясловаў *лопне*, *здохне* на фразеалагічную адзінку напластоўваецца значэнне свабоднага словазлучэння. У гэтым прыкладзе аўтар перадае негатыўнае стаўленне да фашызму з дапамогай выкрывальнага, з’едлівага гумару.

Такім чынам, стварыць камічны эфект пісьменніку дапамагаюць не толькі сюжэт, канфлікт, сітуацыя самога твора, але і яго моўныя сродкі, у тым ліку і абноўленыя фразеалагізмы. Камічная расшыфроўка фразеалагічнага значэння дапамагае выявіць патэнцыяльныя магчымасці фразеалагічных адзінак, надаць кантэксту гумарыстычны ці сатырычны эфект.

**Разгортванне метафарычнага кантэксту на вобразнай аснове фразеалагізма.** Як піша А.І. Яфімаў, «у аснове метафарычнага кантэксту ляжыць прынцып семантычнай двухпланавасці, пад якім разумеецца своеасаблівы паралелізм, суіснаванне двух сэнсавых радоў. Адзін з іх выступае ў якасці фону, на якім вымалёўваецца больш канкрэтная сэнсавая канва» [55, с. 123]. Пры стварэнні метафарычнага кантэксту з удзелам фразеалагізмаў гэтыя выразы

з'яўляюцца фонам, на вобразнай аснове якіх і ствараецца метафарычны кантэкст. Праілюструем гэта наступным прыкладам. У нарысе «Мастацкая проза ў 1947 годзе» М. Лынькоў, разглядаючы твор аднаго беларускага аўтара, творча абыгрывае фразеалагізм *падсекчы сук, на якім сядзіш*. Гэта фразеалагічнае адзінства мае выразную матываванасць, і на аснове яго значэння ('рабіць што-н. на шкоду сабе, рыхтаваць сабе непрыемнасць') М. Лынькоў развівае далейшае вобразнае ўяўленне: «Аўтар сам, сваёй уласнай рукой *падсек* той *сук* пад сабой, *на якім сядзеў* ён, і разам з гэтым суком упаў у тую шэранькую апісацельную вадзіцу, куды ўпаў і знявечаны ім мост» [83, т. 6, с. 456]. У выніку ствараецца метафарычны кантэкст, для разумення якога патрэбна ўлічваць значэнне фразеалагізма, «праз-рыстасць» яго ўнутранай формы, суаднесенасць з адпаведнай, свабодна арганізаванай сінтаксічнай канструкцыяй. «Зона дзеяння» фразеалагізма *падсекчы сук, на якім сядзіш* пашыраецца на далейшы кантэкст і, як вынік гэтага, утвараецца «ланцужок метафар», якія непасрэдна адносяцца да абноўленага выразу і спараджаюцца гэтым выразам, садзейнічаюць таму, што фразеалагізм адначасова ўспрымаецца двухсэнсава.

А вось як у апавяданні М. Лынькова «Выпадак на чыстцы» фразеалагізм *клубок разблытваецца* ('высвятляецца якая-н. Складанасць, заблытаная справа') актывізуе далейшае развіццё вобразных асацыяцый: «Ну што ж, цяпер ясна ўсё. *Клубок разблытаўся*. Заўтра раскруцім апошнюю нітку і завяжам вузел» [83, т. 1, с. 350]. Фразеалагізм *клубок разблытваецца* становіцца своеасаблівым экспрэсіўным цэнтрам вобразнага кантэксту, уздзейнічае на свабодныя словазлучэнні *раскруцім апошнюю нітку* і *завяжам вузел*, метафарызуючы іх. Папярэдне ў тым жа апавяданні ўжо выяўляўся метафарычны кантэкст, звязаны з «клубком»: «[Старшыня] адчуваў, што трапіў на нейкую нітачку, і вось цягнецца яна, цягнецца, *клубок раскручвае*» [83, т. 1, с. 253–254]. Такое аўтарскае выкарыстанне фразеалагізма тут вельмі дарэчнае і звязанае найперш з ідэяй твора, мэта якога – выкрыццё нядобрасумленнага кіраўніка прадпрыемства.

Гэты ж прыём назіраецца і ў апавяданні «Світка». Тут у метафарычным кантэксце, пабудаваным на вобразнай аснове фразеалагізма *скуру здзіраць*, ёсць словы, сэнсава ці тэматычна блізкія да дзеяслоўнага кампанента *здзіраць*, і займеннік як «намеснік» кампанента *скура:* «Ды подшапты, як калючкі разучыя: «Вось яно, прычакаліся», «Апошнюю *скуру здзяруць*, абрасцеш і тую здымуць...» [83, т. 1, с. 256]. Дзеясловы *абрасцеш* і *здымуць* як сэнсавыя актуалізатары этымалагічнага вобраза фразеалагізма

*здзіраць скуру* (з каго) – 'бязлітасна эксплуатаваць, моцна прыгнятаць каго-н.' – ствараюць семантычную двухпланавасць, што ахоплівае ўвесь кантэкст. Згаданыя дзеясловы, далучаючыся да фразеалагізма, агаляюць яго ўнутраную форму, выяўляюць этымалагічны вобраз, у сваю чаргу самі пераасэнсоўваюцца, метафарызуюцца і ўспрымаюцца ў пераносным плане.

У шэрагу з папярэднімі абыгранымі фразеалагізмамі варта разглядаць і выраз *сэрца гарэла*, хоць, у адрозненне ад папярэдніх, у яго аснове – нерэальны вобраз. Аднак, як бачым, метафарычны кантэкст можа разгортвацца і на нерэальнай вобразнай аснове: «Тут патрэбна, каб кожнае наша *сэрца гарэла*, ды так *гарэла,* каб у яго полымі спапялелі яны, усе гэтыя прыблуды, прагныя да нашай крыві» [83, т. 4, с. 299]. Словы *полымя*, *спапялець* тут пад уплывам фразеалагізма *сэрца гарэла* набылі вобразныя, кантэкстуальныя значэнні.

**Сутыкненне фразеалагізмаў, якія маюць аднолькавы кампанент.** Гэты прыём узнікае, як правіла, у адным блізкім кантэксце. Так, у рамане «Векапомныя дні» назіраем удалае абыгрыванне ажно трох выразаў з агульным кампанентам-саматызмам *галава*: *адкруціць галаву* (каму) ('забіць, знішчыць'), *падстаўляць галаву* ('рызыкаваць жыццём; нарывацца на небяспеку') і *з галавой* ('абдумана, свядома (рабіць што-н.)'), пры гэтым у фразеалагізме *падстаўляць галаву* кампанент *галава* заменены займеннікам *яе*: «– За такую рэч могуць і *галаву адкруціць*. – А навошта *яе падстаўляць*? Калі працаваць *з галавою*, то яна астанецца на месцы» [83, т. 5, с. 202]. У выніку адбываецца ажыўленне ўнутранай формы згаданых фразеалагізмаў, павышэнне іх экспрэсіўнасці, а выказванню надаецца гумарыстычны эфект.

У наступным прыкладзе таксама сутыкаюцца фразеалагізмы з агульным кампанентам *галава*. У рамане «На чырвоных лядах» трапнай характарыстыкай героя выступаюць фразеалагізмы *ўбіваць у галаву* (каму што) ('настойліва ўнушаць што-н., пераконваць у чым-н.'), *хоць кол на галаве чашы* (каму) ('немагчыма пераканаць каго-н., растлумачыць каму-н. што-н.; пра ўпартага, няўступчывага чалавека'): «То ж, морда шляхецкая, *уваб'е ў голаў* што, *хоць* ты *коліка* тады *на галаве чашы*» [83, т. 3, с. 322]. Самі фразеалагізмы, нават ужываючыся паасобку, характарызуюць персанаж з адмоўнага боку, а знаходзячыся ў адным кантэксце, перадаюць яшчэ большае негатыўнае стаўленне да героя.

У публіцыстычных творах М. Лынькоў часам малюе ў іранічным святле пэўных асоб. Напрыклад, у наступным кантэксце

(артыкул «Падзея гістарычнай важнасці») крытыкуюцца дзеянні пісьменніцкіх арганізацый, якія не ў стане дамовіцца наконт праграмы з-за рознасці поглядаў іх удзельнікаў: «Аб'яднанні «Полымя», «Маладняк», «Узвышша» і інш. таксама зацята спрачаліся, перакідалі свае грахі, свае недахопы на чужыя плечы. Адным словам, кожны цягнуў у свой бок, як гаворыцца ў вядомай прымаўцы – *хто ў лес, хто па дровы*. «*Дроў*» гэтых *ламалі* часам задужа багата» [83, т. 7, с. 661]. Узаемадзеянне фразеалагізма *хто ў лес хто па дровы* ('нязладжана, нядружна, уразброд'), які пісьменнік называе «вядомай прымаўкай», і фразеалагічнай адзінкі *ламаць дровы* ('рабіць грубыя памылкі') з іх аднолькавым кампанентам *дровы* як не трэба лепш перадае атмасферу гэтых аб'яднанняў, выражае аўтарскую іронію.

Часам пры рэалізацыі названага прыёму аўтар імкнецца выразіць псіхалагічны стан сваіх герояў. Напрыклад, у апавяданні «Журавель мой, журавель...» Ігнат падчас размовы з каханай Верай, якая па прымусу маці выйшла замуж за старога бухгалтара, супакойвае і падбадзёрвае дзяўчыну: «[Вера:] Як цяжка жыць мне, увесь *свет нямілы*... [Ігнат:] Ну, дык ці *свет клінам сышоўся*? А я нашто?» [83, т. 1, с. 167]. У гэтым кантэксце бачым сутыкненне двух выразаў, якія маюць агульны кампанент *свет*: *свет не мілы* (каму) ('каму-н. усё абрыдла, нічога не падабаецца ў сувязі з дрэнным настроем, нясцерпным болем і пад.') і *свет клінам сышоўся* (на кім, на чым) ('хто-н. альбо што-н. з'яўляецца адзіным, з чаго можна выбіраць'). Хлопец усімі сіламі стараецца падтрымаць і падбадзёрыць каханую, для якой нават «*свет нямілы*». Паказаць цяжкі душэўны стан маладой гераіні дапамагаюць аўтару фразеалагізмы з агульным кампанентам *свет*.

**Іншыя прыёмы першай падгрупы семантычных змяненняў фразеалагізма.** Апрача разгледжаных вышэй прыёмаў эфектыўнага выкарыстання фразеалагізмаў, у творах М. Лынькова зрэдку сустракаюцца адзінкавыя прыклады на некаторыя іншыя стылістычныя прыёмы раней названай першай падгрупы. Адзін з іх – **паралельнае ўжыванне фразеалагізма і свабоднага словазлучэння.** Гэты прыём грунтуецца ўжо не на семантычна-гукавой аснове, як у раней апісаных шматлікіх выпадках, а на сінтаксічнай. Яго сутнасць у тым, што побач з фразеалагізмам, следам за ім ставіцца свабоднае словазлучэнне аналагічнай структуры і яны абодва ўспрымаюцца як аднародныя члены. У апавяданні «Андрэй Лятун» ёсць эпізод, калі машыніст Андрэй і счэпшчык Іван, здаецца, вось-вось пасварацца. Але аўтар як бы папярэджвае чытача: «Не, гэта старыя прыяцелі, спрадвечныя дружбакі, якіх *не разальеш вадой*, не

разгоніш парай» [83, т. 1, с. 207]. Звернем увагу на будову гэтага сказа: у ім «абодва словазлучэнні, фразеалагічнае і свабоднае, выступаюць як сінанімічныя канструкцыі і з'яўляюцца адзіна маўлівымі ў дадзеным кантэксце, дзе побач стаяць і яшчэ два сінанімічныя словазлучэнні (*старыя прыяцелі, спрадвечныя дружбакі*)» [73, с. 16]. Тут паміж фразеалагізмам і свабодным словазлучэннем адбываецца ўзаемная абумоўленасць: пад уздзеяннем свабоднага словазлучэння фразеалагізм успрымаецца двухпланава – з актуалізацыяй яго ўнутранай формы, у сваю чаргу свабоднае словазлучэнне пад уплывам фразеалагізма ўсведамляецца як разгорнутая метафара. Стылістычны эфект ад такога ўзаемадзеяння відавочны.

Другі прыём – **антытэзнае супрацьпастаўленне фразеалагізма і антанімічнага яму свабоднага словазлучэння.** У публіцыстычным нарысе «На парозе Беларусі» чытаем: «Дружнай братняй сям'ёю выстаялі мы супраць смяротнай навалы. Немец думаў *паставіць* нас *на калені.* Мы *паставілі* яго *на карачкі*» [83, т. 6, с. 235]. Праўда, у гэтым прыкладзе пра словазлучэнне *паставілі на карачкі* толькі ўмоўна можна гаварыць, што яно свабоднае. Справа ў тым, што слова *карачкі*, як засведчана ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы», ужываецца толькі ў выразах *на карачкі, на карачках* [100, т. 2, с. 640]. Прыслоўны фразеалагізм *на карачкі*, спалучаючыся з дзеясловамі-суправаджальнікамі *станавіцца, апускацца* і пад., нарматыўна рэалізуе сваё значэнне 'аднач асова на абедзве рукі і нагі'. У лынькоўскім жа кантэксце гэты выраз у спалучэнні з дзеясловам набыў незвычайнае значэнне, якое можна перадаць словамі 'стварылі небяспечнае, крытычнае, амаль безвыходнае становішча'. Такое сэнсавае пераўтварэнне дасягаецца дзякуючы супрацьпастаўленню фразеалагізма *паставіць на калені* ('прымусіць скарыцца, падпарадкавацца') і спалучэння *паставіць на карачкі.* Абодва яны ў прыведзеным урыўку ўспрымаюцца двухпланава. Фразеалагічнае спалучэнне *паставілі на карачкі* стварае сатырычнае ўражанне.

Асобна можна гаварыць і пра **прыём стварэння семантычнага паралелізму.** У рамане «Векапомныя дні» афіцэр-гестапавец Кох, дапытваючы арыштаванага, пагражае: «Я жалезны воўк. Калі патрэбна майму фюрэру, нашай імперыі, я *перагрызу горла* кожнаму, хто наважыцца рабіць інакш, нават думаць інакш, чым думае наш мудры фюрэр» [83, т. 4, с. 402]. Калі ў двух папярэдніх, як і ва ўсіх ранейшых прыкладах, звязаных з семантычнымі змяненнямі фразеалагізма, аднаўленне яго першапачатковага вобраза адбываецца не імгненна, а з пэўным часавым прамежкам, то ў прыведзеным урыўку фразеалагізм *перагрызу горла* адначасова

асэнсоўваецца і як адпаведнае свабоднае словазлучэнне. Гэтаму садзейнічае спалучэнне *жалезны воўк*, якое выступае ў ролі стылістычнага актуалізатара. Абноўлены такім чынам фразеалагізм выконвае ў дачыненні да гестапаўца і характарыстычную функцыю – падкрэслівае яго звярыную натуру.

Другая падгрупа семантычных змяненняў фразеалагізма аб'ядноўвае прыёмы, якія маюць дачыненне не да ўсёй фразеалагічнай адзінкі, а толькі да яе асобнага кампанента. Часам у навуковай літаратуры сцвярджаецца, што пад такое выкарыстанне фразеалагізмаў звычайна падпадаюць нематываваныя выразы (зрашчэнні) і што «абыгрыванне аднаго з кампанентаў, натуральна, выклікае семантычнае пераўтварэнне ўсёй фразеалагічнай адзінкі» [1, с. 121]. Але, як паказвае маўленчая практыка М. Лынькова, па-першае, прыёмамі другой падгрупы абыгрываюцца як зрашчэнні, так і (часцей) адзінствы, па-другое, «семантычнае пераўтварэнне ўсёй фразеалагічнай адзінкі» адбываецца толькі ў рэдкіх выпадках.

Разгледзім гэтыя стылістычныя прыёмы.

**Каламбурнае сутыкненне фразеалагізма і сугучнага з яго кампанентам слова.** «Каламбур як стылістычная фігура, заснаваная на выкарыстанні розных значэнняў аднаго і таго ж полісеманта (слова, фразеалагізма), з'яўляецца адным з эфектыўных спецыялізаваных сродкаў стварэння камічнага эфекту ў мастацкай літаратуры» [92, с. 11].

У творах М. Лынькова сустракаюцца каламбуры, заснаваныя на абыгрыванні двух значэнняў мнагазначнага слова або двух амонімаў. Прывядзём прыклад з аповесці «Міколка-паравоз», дзе знарок сутыкаюцца два амонімы: *жывот* – устарэлае слова са значэннем 'жыццё' і *жывот* як частка цела чалавека. Міколка хоча дапамагчы рабочым вызваліць іх таварышаў, арыштаваных немцамі, паўзе да пакгауза, дзе сядзяць арыштаваныя, блізка ад сябе бачыць узброенага нямецкага вартавога. І далей: «Падумаў Міколка і аж уліп у зямлю, халодным потам абліўся, замёр на якую хвіліну-другую. Не з-за страху за свой *жывот*, – які там у яго *жывот*, – а баяўся за справу» [83, т. 3, с. 192].

Тройчы ў творах М. Лынькова мае месца фразеалагічны каламбур, пабудаваны на сутыкненні фразеалагічнага кампанента і асацыятыўна звязанага з ім слова, аднолькавага па гучанні з гэтым кампанентам. Праўда, некаторыя з прыкладаў, якія будуць разглядацца далей, не зусім прымальныя з нашых сённяшніх ідэалагічных пазіцый, але тады, калі пісаўся той ці іншы твор М. Лыньковым, дзейнічалі іншыя палітычныя ўстаноўкі.

У раней названай аповесці «Міколка-паравоз» ёсць такі дыялог паміж унукам і дзедам: «– Немцы ж гэтыя… У іх жа царскія арлы… Ды з імі бог яшчэ гэты… На кожным поясе напісана… – А ты, унучак, яшчэ раз плюнь і на арлоў, і на бога. І арлам галовы скруцім. А *дасць бог*, і *богу* шыю звернем…» [83, т. 3, с. 220]. Дарэчы, выраз *дасць бог* – не зрашчэнне, а адзінства, яно заўсёды выкарыстоўваецца ў значэнні пабочнага кампанента, калі гавораць пра магчымасць добрага зыходу, і мае сэнс 'як на шчасце, калі пашанцуе'. Яшчэ раз варта паўтарыць, што пры сутыкненні гэтага фразеалагізма са словам *бог* ніякага «семантычнага пераўтварэння ўсёй фразеалагічнай адзінкі» не адбываецца. Але каламбур і камічны эфект – у наяўнасці (зразумела, для тых часоў, калі ажыццяўлялася антырэлігійная прапаганда і дзейнічаў прынцып партыйнасці ў мастацтве).

Другі прыклад, у адрозненне ад папярэдняга, знаходзім у аўтарскай мове. Ва ўрыўку гаворыцца пра эміграцкі польскі ўрад у 1939–1945 гг., і, канечне ж, аўтар разважае ў духу сацыялістычнага рэалізму. Тут слова *сядзець* у значэнні 'знаходзіцца дзе-н. доўгі час' каламбурна ставіцца ў сувязь з дзеяслоўнымі кампанентамі двух фразеалагізмаў: *сядзець на карку* (чыім) ('быць на чыім-н. забеспячэнні, утрыманні') і *сесці на шыю* (каму) ('поўнасцю падпарадкаваць сабе, выкарыстоўваючы ў сваіх інтарэсах'): «Ёсць у польскага народа яшчэ адзін вораг, гэта тыя, хто… паўцякалі за межы і спакойна *сядзяць* там… Але было б столькі бяды, каб яны толькі *сядзелі* там. Прызвычаіўшыся *сядзець на* народным *карку*, яны і цяпер лічаць сябе кіраўнікамі Польшчы і трымаюць усе захады для таго, каб і пасля вайны зноў *сесці на шыю* народу» [83, т. 5, с. 430].

У апавяданні «Маладосць», у маўленні нэпмана-фабрыканта, абыгрываецца фразеалагізм *на шыю садзіцца* (каму) – 'абцяжарваць каго-н., знаходзячыся на яго ўтрыманні'. Сваім назоўнікавым кампанентам *шыю* фразеалагізм сутыкаецца з дзеясловам *шыю*, у выніку чаго ствараецца каламбур: «Я шыю тонкі туалет… Я шыю бялізну на цэлы горад… Я *шыю*… А мне *на шыю*…» [83, т. 1, с. 414]. Дзеяслоўны фразеалагічны кампанент *садзяцца* тут прапушчаны, недагаворваецца ў маўленні персанажа.

Ва ўсіх трох прыкладах каламбурна абыгрываюцца фразеалагічныя адзінствы, а не зрашчэнні, і пры гэтым ніякай актуалізацыі іх этымалагічнага вобраза не назіраецца.

**Канкрэтызацыя значэння фразеалагічнага кампанента.** Вядома, што адной з вызначальных прымет фразеалагізма з'яўляецца яго семантычная цэласнасць, пад якой разумеюць «такое ўнутранае сэнсавае адзінства фразеалагізма, якое ў канчатковым выніку

прыводзіць да поўнай ці частковай страты кампанентамі ўласнага лексічнага значэння» [58, с. 7]. Значэнне фразеалагізма нераскладальнае на асобныя значэнні кампанентаў. Іх значэнні растварыліся ў значэнні цэлага. «І калі пісьменнік канкрэтызуе семантыку фразеалагічных кампанентаў, вяртаючы ім першапачатковае значэнне або пераасэнсоўваючы іх, то гэтым заўсёды дасягаецца пэўны стылістычны эфект, часцей за ўсё камізм, які будуецца на суіснаванні цэласнага значэння фразеалагізма і яго апрадмечанай часткі ці частак» [74, с. 167].

Вось як канкрэтызуецца адзін з кампанентаў фразеалагізма *цяля язык аджавала* (каму) ва ўрыўку з апавядання М. Лынькова «Кларнет»: «– Які чорт тут бы жыў, акрамя цябе, у загарадзі гэтай, дзе з-за таўкатнечы не павернешся. Дзіця пакупаць – начоўкі паставіць няма дзе... А каб шукаць кватэры – дык яму *цяля язык аджавала*... – Дзякаваць богу, у цябе пакуль што цэлы, на абаіх хопіць...» [83, т. 1, с. 178]. Як бачым, у першым выказванні выраз *цяля язык аджавала* (каму) рэалізуе сваё значэнне ‘хто-н. недарэчы маўчыць, не хоча сказаць што-н.’, а ў другой рэпліцы суразмоўнік апрадмечвае, канкрэтызуе кампанент *язык*, дзякуючы чаму ў чытача складваецца ўражанне пра характар героя, які здольны ўспрымаць нудныя нараканні з гумарам. Падобным чынам у дыялагічным маўленні абыгрываецца фразеалагізм *чорт іх бяры* (‘няхай будзе так, можна пакінуць без увагі’): «– Ведаеш што, Астап, думаю я, што варта прыбраць іх [забітых ворагаў]. – А няхай ляжаць, *чорт іх бяры.* – Чорту яны цяпер не патрэбны» [83, т. 5, с. 404]. Канкрэтызацыя фразеалагічнага кампанента *чорт* з’яўляецца жартаўлівай рэакцыяй персанажа на папярэдняе выказванне.

Фразеалагізм *пераступаць парог* (чый, чаго) абазначае ‘паяўляцца дзе-н., прыходзіць куды-н.’ і належыць да выразаў з жывой унутранай формай, якая, аднак, пры яго рэалізацыі ў маўленні знаходзіцца ў цені свядомасці. У дыялагічным маўленні назоўнікавы кампанент гэтага фразеалагізма можа быць апрадмечаны суразмоўнікам для выражэння негатыўных адносін да пачутага выказвання. З такім прыкладам сустракаемся ў рамане «На чырвоных лядах». Бацька сварыцца са сваім сынам, крычыць на яго: «Замоўкні, гад... Ды каб больш *парога* майго не *пераступаў*, рыштант ты гэтакі...». Сын Піліп так рэагуе на словы бацькі: «Дужа *парог* мне твой трэба. Бач, *струхлеў увесь*» [83, т. 3, с. 360]. У піку бацьку канкрэтызаваны сынам кампанент дадаткова атрымлівае адмоўную характарыстыку стану гэтага *парога*, які «струхлеў увесь». У пададзеным урыўку ў выніку канкрэтызацыі семантыкі аднаго з

фразеалагічных кампанентаў выразна адчуваецца зыходнае, этымалагічнае значэнне ўсяго фразеалагізма *перaступаць парог*.

Аналагічны вынік назіраем і ў наступным прыкладзе, дзе канкрэтызуецца назоўнікавы кампанент *спіна* ў фразеалагізме *сагнуць свае спіны* (‘стаць, пачаць прыніжацца, угоднічаць’): «Можа, мы *сагнём свае спіны* перад панамі: вось наша халопская *спіна*, біце па *ёй*, колькі вам хочацца!» [85, т. 7, с. 582].

Прыём канкрэтызацыі значэння фразеалагічнага кампанента сустракаем не толькі ў маўленні персанажаў, але і ў няўласна-простай мове, дзе аўтар як быццам гаворыць ад імя свайго персанажа. Такім спосабам аўтар выказвае думкі героя апавядання «У мястэчку», шаўца Шолама, які глядзіць на свет праз прызму свайго рамяства: «Рукі апусціш – не чалавек ты, а стары атопак, якім папіхаюць куры на сметніку. Ды вось як, *не апускай* жа *рукі*, бо заўсёды *іх* шыла чакае» [83, т. 1, с. 92]. Напачатку пісьменнік ужывае фразеалагізм *апускаць рукі* ў сваім звычайным значэнні ‘станавіцца бяздзейным, бязвольным, страчваць жаданне займацца чым-н.’, пасля апрадмечвае яго назоўнікавы кампанент, замест якога ў якасці яго намесніка выступае займеннік *іх*. Яшчэ ў адным прыкладзе выкарыстоўваецца займеннік, які выступае намеснікам слова з намінатыўным значэннем, сугучнага з фразеалагічным кампанентам: «Вам, Піня, трэба-такі *завязаць языка* крыху, каб *ён* не матляўся задужа» [83, т. 3, с. 560].

У «Векапомных днях» (і ў аўтарскай мове, і ў маўленні персанажаў) таксама сустракаем гэты стылістычны прыём: «[Пасцябунчык] зразумеў, што камандзір вытварае над ім усе гэтыя штукі *пад п’яную руку*. Ды, відаць, не толькі камандзірава *рука*, але і галава былі ў добрым хмелі» [83, т. 5, с. 226]; «– Узяў бы мяне ў памочнікі, я навучыў бы цябе, як з тваёй парафіяй абыходзіцца. – Так я і *пусціў казла ў агарод*!» – Што *казёл*, што ксёндз – адзін д’ябал» [83, т. 5, с. 451].

Двойчы ў дыялагічнай мове абыгрываецца выклічнікавы фразеалагізм *глядзі ў мяне!*: «– Ты ў мяне дурнем не прыкідвайся. *Глядзі ў мяне!*.. – Што ж мне *глядзець*? Не люстра ты, бачу…» [83, т. 2, с. 97]; «– Ты ўжо *ў мяне глядзі*, дзеўка… – На каго гэта *глядзець*?» [83, т. 3, с. 417]. Традыцыйна выраз ужываецца як выказванне перасцярогі ці пагрозы. Героі, на якіх скіравана гэта перасцярога ці пагроза, робяць выгляд, што не разумеюць семантыку фразеалагізма, знарок ужываючы фразеалагічны кампанент *глядзець* у прамым значэнні.

Калі цяпер паназіраць за абыгранымі вышэй фразеалагізмамі, адзін з кампанентаў якіх падпаў пад канкрэтызацыю, то бачым наступнае. Па-першае, толькі ў двух выпадках маем справу са

зрашчэннямі (*чорт іх бяры*, *глядзі ў мяне*!), восем астатніх – фразеалагічныя адзінствы. Два з іх (*цяля язык аджавала*, *завязаць язык*) – з нерэальным вобразам у іх аснове. Адзін – *пад п'яную руку*, што значыць 'у стане ап'янення', – мае ў сваім складзе сэнсаўтваральны кампанент *п'яную*; хоць гэты фразеалагізм і бязвобразны, але ў сэнсавых адносінах ён матываваны і слушна кваліфікуецца як «фразеалагічнае адзінства з часткова цэласным значэннем» [58, с. 66]. Па-другое, толькі ў двух выпадках (пры абыгрыванні фразеалагізмаў *пераступаць парог* і *сагнуць свае спіны*) адбылося «семантычнае пераўтварэнне ўсёй фразеалагічнай адзінкі» [1, с. 121]. Ва ўсіх іншых выпадках фразеалагізм рэалізуе сваё слоўнікавае значэнне, а канкрэтызаваны кампанент усведамляецца як слова свабоднага ўжывання, не страчваючы, аднак, цеснай сувязі са «сваім» фразеалагізмам, дзякуючы чаму і ўзнікае стылістычны эфект.

**Выкарыстанне на фоне фразеалагізма яго кампанента.** Нярэдка ў маўленні спачатку ўжываецца сам фразеалагізм, а затым яго асобны кампанент. Такі фармальны паўтор фразеалагічнай адзінкі са скарачэннем яе кампанентнага складу нельга лічыць стылістычным прыёмам. Ужыванне рэдукаваных формаў фразеалагізма (пераважна дзеяслоўных) побач з традыцыйным выразам выклікаецца імкненнем пазбегнуць паўтору дзвюх аднолькавых фразеалагічных адзінак у адным мікракантэксце. Так, у рамане М. Лынькова «На чырвоных лядах» назіраем паўтарэнне дзеяслоўнага кампанента выразу *глядзець у корань*: «А зaві хіба Карнеем... Імя, бачыш, такое цёплае і харошае, *у* самы *корань глядзіць*, *глядзіць*, і не пытае...» [83, т. 3, с. 552]. Параўн. таксама ў аповесці «Міколка-паравоз»: «Гэтых рускіх трэба *скруціць* цяпер *у бараноў рог*.., патрэбны лішнія сілы, і *скруцім*...» [83, т. 3, с. 239];

Іншы раз, аднак, паўтор фразеалагічнага кампанента пасля фразеалагізма можа ствараць стылістычны эфект. Адбываецца гэта ў тым выпадку, калі фразеалагічны кампанент, ужыты на фоне папярэдне выкарыстанага фразеалагізма, выступае ў якасці семантычна намагнічанага слова, сэнс якога цесна звязаны з сэнсам фразеалагізма ці з яго істотнай семай. Часцей такім словам, узбагачаным за кошт сэнсавага фразеалагічнага цэлага, выступае назоўнік.

У творах М. Лынькова сустрэліся тры прыклады названага стылістычнага прыёму. Фразеалагізм *на сёмым небе* мае значэнне 'бязмерна шчаслівым, вельмі задаволеным (быць)' і неаднойчы ўжываецца ў традыцыйным выглядзе. У адным з лістоў М. Лынькова заўважаем творчае выкарыстанне гэтага фразеалагізма: «Ёсць некаторыя цьмяныя чуткі аб маёй сям'і і сям'і Ільы Гурскага. Чуткі

такога зместу, што яны быццам бы – нашы сем'і – яшчэ існуюць на гэтым свеце. Адным словам, я знаходжуся цяпер нібы *на сёмым небе.* Але ж страшэнна баюся ўпасці з гэтага *неба…*» [83, т. 8, с. 74]. Вядома, што пісьменнік падчас вайны страціў родных, але ўвесь час меў надзею, шукаў іх. У гэтым прыкладзе кампанент *неба*, ужыты пасля фразеалагізма *на сёмым небе*, мае асацыяцыю з яго значэннем і ў сукупнасці з дзеясловам *упасці* абазначае 'страціць надзею'.

Сінанімічныя выразы *ёлкі-палкі* і *ёлкі зялёныя* выступаюць сродкам маўленчай характарыстыкі Ваські Шкетава, героя лынькоўскага апавядання «Над Бугам». Гэтыя фразеалагізмы ў залежнасці ад пэўнай сітуацыі выкарыстоўваюцца як воклічы захаплення, здзіўлення, прыкрасці і пад. У адным з эпізодаў твора пісьменнік ужывае камбінаваны гібрыд – выраз *ёлкі-палкі зялёныя*: «Няхай я з месца не ўстану, калі не прыпраўлю табе селядца так, што запяе язык твой херувімскую з багародзіцай. Эх, *ёлкі-палкі зялёныя…*» [83, т. 1, с. 82]. Далей гэты гібрыд, але ўжо ў аўтарскай мове, мэтанакіравана разрываецца на дзве часткі: «Але нягледзячы *ні на ёлкі, ні на палкі зялёныя*, не паддавалася жыта кулінарнаму майстэрству Ваські…» [83, т. 1, с. 82]. Тут кампаненты *ёлкі* і *палкі*, выкарыстаныя на фоне аўтарскага наватвора *ёлкі-палкі зялёныя*, канцэнтруюць у сабе элемент значэння фразеалагізма і абазначаюць 'воклічы, наракання'.

Як бачым, гэтым прыёмам у абодвух прыкладах абыгрываюцца зрашчэнні. А калі браць усе тры апісаныя прыёмы, то на долю зрашчэнняў прыпадае 4 выпадкі, усе ж астатнія (іх 11) – адзінствы. Абноўленыя такім ужываннем фразеалагізмы і суседні з імі кантэкст гучаць як свежыя, арыгінальныя маўленчыя сродкі выказвання. Разам з тым гэта і яркае сведчанне маўленчай вынаходлівасці і дасціпнасці пісьменніка М. Лынькова.

РАЗДЗЕЛ 4

## ПРА НЕМАТЫВАВАНЫЯ АДХІЛЕННІ АД ФРАЗЕАЛАГІЧНАЙ НОРМЫ

Фразеалагічная норма вызначаецца як «традыцыйнае, аднатыпнае і раўнацэннае ўжыванне фразеалагізмаў, прынятае ў пэўны перыяд моўным калектывам і ўсвядомленае ім як правільнае і ўзорнае» [77, с. 284]. Гэта норма ў параўнанні з іншымі моўнымі нормамі куды больш складаная, што вытлумачваецца самой складанасцю фразеалагічнай адзінкі, супярэчнасцю паміж яе семантычнай непадзельнасцю і расчлянёнай формай. Таму ў маўленні, як вусным, так і пісьмовым, даволі часта сустракаюцца фразеалагічныя памылкі. «Памылкі ва ўжыванні фразеалагічных зваротаў носяць розны характар і ўзнікаюць як у выніку няведання іх лексіка-граматычнага складу і значэння, так і з прычыны таго, што не ўлічваюцца іх спалучальныя сувязі, экспрэсіўна-стылістычныя ўласцівасці, сфера прымянення, маўленчы кантэкст і г.д.», – піша М.М. Шанскі [105, с. 5]. Ён жа ілюструе гэта некалькімі прыкладамі з перыёдыкі і твораў сучасных рускіх пісьменнікаў.

На памылковае выкарыстанне фразеалагізмаў, іх «абнаўленне з уронам» звяртае ўвагу і А.М. Бабкін [26, с. 29–32]. Яшчэ ў адной працы ён зазначае, што абагульніць прычыну з'яўлення недакладных і прыблізных ужыванняў як слоў, так і фразеалагізмаў можна «пры дапамозе вядомага выразу: чуў звон, ды не ведае, дзе ён» [27, с. 6].

Больш падрабязна гэта пытанне разглядаецца ў манаграфіі А.І. Малаткова [88, с. 192–206]. Паняцце фразеалагічнай памылкі, як адзначаецца ў гэтай манаграфіі, «раўназначнае паняццю моўнай памылкі, таму што кожная маўленчая памылка абумоўлена няведаннем ці кепскім веданнем нормы» [88, с. 200]. Аўтар ілюструе памылковыя ўжыванні фразеалагізмаў шматлікімі прыкладамі, у тым ліку з твораў нават такіх пісьменнікаў, як Чэхаў, Горкі, Маякоўскі, Ясенін, Шолахаў, Паустоўскі, Гранін і інш.

У беларускім мовазнаўстве пытанне «фразеалагізм і норма» грунтоўна даследавана ў многіх артыкулах І.Я. Лепешава, а таксама ў яго манаграфіі [74]. У працах жа, непасрэдна прысвечаных фразеалогіі ў творах таго ці іншага пісьменніка, гэта пытанне чамусьці зусім не закранаецца. Гл., напрыклад, публікацыі С.К. Бердніка [34], В.І. Рагаўцова [92], Л.І. Яўдошынай [115], М.У. Юнаш [110] і інш. Пры чытанні такіх публікацый ствараецца ўражанне, што фразеалагізмы ў прааналізаваных творах пэўных пісьменнікаў

выкарыстоўваюцца толькі нарматыўна або з матываванымі, стылістычна апраўданымі адхіленнямі ад нормы.

Думаецца, аднак, што пры вывучэнні фразеалогіі ў творах пісьменніка нельга не заўважаць і праходзіць міма ненарматыўных ужыванняў фразеалагічных адзінак. А яны сустракаюцца, як ужо адзначалася, і ў маўленчай практыцы даволі аўтарытэтных аўтараў. Так, у адной працы [72, с. 97] прыводзяцца (з агаворкай «з песні слова не выкінеш») прыклады такіх недакладнасцей з твораў Я. Купалы, К. Крапівы, Р. Барадуліна.

Ёсць фразеалагічныя недакладнасці і ў творах М. Лынькова. Варта пры гэтым адзначыць, што ў той перыяд, калі пісаліся гэтыя творы, не было яшчэ ні тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы, ні фразеалагічных даведнікаў. Пісьменнік, не маючы магчымасці звярнуцца пры неабходнасці да адпаведных слоўнікаў, выкарыстоўваў выразы з уласнага фразеалагічнага запасу, з таго, што засвоіў з жывой народнай мовы і што прыходзіла яму ў патрэбны момант на памяць.

Шкада, што часам некаторыя памылковыя ўжыванні таго ці іншага пісьменніка прызнаюцца, як пісаў А.М. Бабкін, «фактам літаратурнай мовы» [26, с. 30]. Гэта можна пацвердзіць і адным прыкладам з апавядання М. Лынькова «Андрэй Лятун», дзе фразеалагізм *гады ў рады* (нарматыўна ён ужываецца і з перастаноўкай кампанентаў: *рады ў гады*) выкарыстаны ў памылковай форме *з гады ў рады*: «Толькі і ведае – кастыль ды гайкі, дый молат для фасону насіць, *з гады ў рады* стукне дзе…» [83, т. 1, с. 209]. У такім выглядзе выраз падаецца ў «Фразеалагічным слоўніку для сярэдняй школы» [46, с. 61–62] як норма: *гады ў рады (рады ў гады, з гады ў рады)*.

Разгледзім далей выяўленыя ў творах М. Лынькова нематываваныя адхіленні ад фразеалагічнай нормы.

## § 1. Адхіленні ад фразеалагічна-семантычных нормаў

Кожны фразеалагізм мае сваё, прыватнае, індывідуальнае значэнне і рэалізуецца ў маўленні толькі з гэтым значэннем. Калі ж ён, без якой-небудзь стылістычнай мэты, ужыты з нейкім іншым сэнсавым зместам, то перад намі памылка семантычнага характару.

Для фразеалагізма *вастрыць (тачыць) зубы* характэрна лексічная варыянтнасць дзеяслоўнага кампанента і канструктыўна абмежаванае значэнне. Гэты выраз двухзначны. Менавіта ў такой форме і з такім тыпам значэння паводле лексіка-граматычнай

спалучальнасці ён фіксуецца ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» [100, т. 1, с. 469] і ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» [76, т. 1, с. 156]: *вастрыць (тачыць) зубы* (на каго) – 'ненавідзячы каго-н., рыхтаваць яму якую-н. непрыемнасць'; *вастрыць (тачыць) зубы* (на што) – 'старацца сілай завалодаць чым-н. ці трапіць куды-н.'. Нарматыўна гэты выраз у яго першым значэнні двойчы ўжыты М. Лыньковым – у аповесці «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў» і ў рамане «На чырвоных лядах»: «Фанабэрыцца польскі пан і *точыць зубы* на нас» [83, т. 3, с. 123]; «Чалавек не будзе тады *зубы* на цябе *тачыць*, бо ты не ты, не твае то клопаты» [83, т. 3, с. 566]. А ў наступным прыкладзе (з «Векапомных дзён») сустракаемся з парушэннем фразеалагічна-семантычнай нормы гэтага выразу: «Бабка такт мае. Сказала і пайшла, ці ёй жа з маладымі *зубы тачыць*» [83, т. 4, с. 367]. Тут *зубы тачыць* (з кім) абазначае 'займацца пустымі размовамі, пустасловіць', г.зн. мае сэнс, які замацаваўся за фразеалагізмам *тачыць лясы (балясы)* (з кім). Яшчэ ў адным творы М. Лынькова («Апошні зверыядавец») знаходзім недакладнае ўжыванне *зубы патачыць* са значэннем 'займацца пустымі размовамі, пустасловіць' (замест нарматыўнага для гэтага кантэксту *лясы патачыць*): «Дык на чорта [нас] склікаць было, на якое ліха? Каб *зубы* свае *патачыць*?» [83, т. 3, с. 80].

Дзеяслоўны фразеалагізм *біць у нос* ужываецца пры дзейніку са значэннем абстрактнага прадмета, здольнага вылучаць які-н. пах (*дым, смурод* і пад.), і абазначае 'востра, рэзка пахнуць, выклікаючы адмоўную рэакцыю'. Напрыклад: «Аж грудзі ломяць залпы-стрэлы, а *ў нос б'е* дым парахавы» (Я. Колас). У М. Лынькова ж, у апавяданні «Саўка-агіцірнік», гэты выраз спалучаецца з назоўнікам *словы* і атрымлівае нейкае іншае, ненарматыўнае значэнне: «Хаджу сабе, прыглядаюся, прыкмячаю ўсё. А прыкмечу, от тут жа, на сходзе, як на далоні той вылажу. Але ж моршчацца. Бачу, словы мае каго *ў нос б'юць*» [83, т. 1, с. 225].

У «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» [76, т. 2, с. 121] ужыванне фразеалагізма *падмазваць пяткі* ілюструецца трыма прыкладамі, у тым ліку і прыкладам з твораў М. Лынькова: «Хутка, аднак, ваяўнічы бургамістр прымушаны быў пад націскам бранскіх партызан *падмазваць пяткі* разам з рэшткамі свайго разбітага атрада» [83, т. 5, с. 315]. Ёсць у М. Лынькова і яшчэ адно нарматыўнае выкарыстанне гэтага выразу – у тэксце, напісаным па-руску [83, т. 8, с. 83]. У абодвух прыкладах рэалізуецца фразеалагічнае значэнне 'ратавацца ўцёкамі; уцякаць'. Гэты фразеалагізм валодае семантычнай самадастатковасцю і ўжываецца ў маўленні толькі

абсалютыўна, без паясняльных слоў «справа». У М. Лынькова ж ён двойчы выкарыстаны ў канструкцыі *падмазваць пяткі* (каму) і надзелены ненарматыўным, незразумелым сэнсам: «Добра, хлопцы, што вы *падмазалі* ім *пяткі*, больш не палезуць да нас» [83, т. 5, с. 402]; «Добра налаўчыўся ты, колішні змазчык, *падмазваць* ім *пяткі*, іх жа крывёю» [83, т. 5, с. 497–498]. Як у гэтых, так і ў іншых выпадках, «недакладнае ўжыванне фразеалагізма выклікае няправільнае ўспрыманне тэксту, скажае сэнс выказвання, дэзынфармуе чытача» [74, с. 186]. Варта лічыць нематываваным адхіленнем ад нормы і такое ўжыванне гэтага ж выразу ў наступным урыўку: «Вы памыляецеся, Шніцке, ён жыў і здароў, і вы *падмазалі пяткі*, уцякаючы ад яго, баючыся аднаго яго прозвішча» [83, т. 5, с. 656]. Тут словазлучэнне *ўцякаючы ад яго* дубліруе тое, што ўжо ёсць у сэнсавай структуры папярэдне ўжытага фразеалагізма з яго слоўнікавым значэннем ‘уцякаць’.

Апошні, прыведзены вышэй урывак – не адзінкавы прыклад у творах М. Лынькова, калі аўтар, можна сказаць, парушае патрабаванні строгай лагічнасці, ставіць фразеалагізм, насуперак норме, «у сінтаксічную і семантычную сувязь са словам, лексічнае значэнне якога ўваходзіць у сэнсавую структуру фразеалагізма, і калі, такім чынам, узнікае семантычная таўталогія, «масла масленае» [74, с. 191]. Фразеалагізм *коўзанне па паверхні* абазначае ‘павярхоўныя дзеянні знешняга характару, без заглыблення ў сутнасць справы’. Вызначальным сэнсавым элементам гэтага фразеалагізма з’яўляецца сема ‘павярхоўныя (дзеянні)’. Таму ўжыванне пры фразеалагізме *коўзанне па паверхні* азначэння *павярхоўныя* варта лічыць непатрэбным, збыткоўным, памылковым: «Усё, аб чым пісалі часопісы, было ў большасці выпадкаў бяздумным, павярхоўным *коўзаннем па паверхні* жыцця...» [83, т. 7, с. 225].

Прыкладна такое ж «масла масленае» ўзнікае тады, калі фразеалагізм і сэнсава блізкае, але куды бяднейшае ў семантычных і стылістычных адносінах слова ставяцца побач, ужываюцца як аднародныя члены, звязаныя злучнікавай ці бяззлучнікавай сувяззю. У далейшых прыкладах такое сэнсава блізкае слова, выкарыстанае пасля фразеалагізма, пададзім уразбіўку: 1) І вечарам познім, калі масціліся ўдарнікі на сон, з’явіўся ў барак Андрэй Андрэевіч, *як з неба ўпаў*, н е ч а к а н а [83, т. 1, с. 311]; 2) А то часам натрапіш на падгуляўшую кампанію матросаў – падай ім музыку, ды такую, каб усё навокал *ходырам хадзіла*, г р ы м е л а [83, т. 2, с. 319].

Думаецца, што да адхіленняў семантычнага характару трэба адносіць і такія ўжыванні, калі побач, адзін за адным, як аднародныя

члены ідуць два абсалютныя фразеалагічныя сінонімы. У такіх выпадках другі фразеалагізм нічога не дадае ў сэнсавых адносінах да першага: 1) Сурова агрызнуўся на яго яфрэйтар і тут жа сарваўся на крык: *Да д'ябла, да чорта* ўсё… [83, т. 2, с. 22]; 2) Дагаспадарнічаліся, як гэта гаворыцца, *да абуха, да ручкі* [83, т. 6, с. 173]; 3) Каб і ў думках тваіх, а *ні на волас, ні на каліва*… Хлопца каб гэтак змушчаць [83, т. 3, с. 417].

У «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» выраз *да ліха* апісаны як акалічнасны з двума значэннямі: 'вельмі многа каго-, чаго-н.' і 'вельмі моцна' [76, т. 1, с. 575]. У М. Лынькова ж ён двойчы выкарыстаны ў значэнні пабочнага кампанента (але без выдзяляльных косак) як выказванне іранічных адносін да чаго-н.: 1) А якія там *да ліха* жарты! [83, т. 5, с. 38]; 2) А якая там *да ліха* свабода… [83, т. 4, с. 556]. Калі б былі пацвярджэнні такога ж ужывання гэтага выразу іншымі аўтарамі, то можна было б лічыць, што гэта яшчэ адно (трэцяе) значэнне фразеалагізма. Дарэчы, у «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» [76, т. 1, с. 369] менавіта з такім значэннем (чацвёртым) апісаны фразеалагізм *да д'ябла*, а таксама сінанімічны з ім *к чорту* (трэцяе значэнне) [76, т. 2, с. 569]. Як паказваюць ілюстрацыйныя прыклады, усе тры выразы ўжываюцца ў аднолькавай сінтаксічнай канструкцыі – пасля слова *які* (*якая, якое, якія*).

Некаторыя фразеалагізмы хоць і маюць аднолькавую гукавую абалонку, але адрозніваюцца сваёй семантыкай і зусім іншай сінтаксічнай функцыяй, таму і разглядаюцца не як мнагазначныя і не як амонімы, а як самастойныя выразы. Так, у «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» апісаны чатыры выразы аднолькавага гучання *да душы* (каму), *да душы* падабацца, *да душы* прыйсціся, усе *да душы* [76, т. 1, с. 363]. У рамане ж М. Лынькова «На чырвоных лядах» знаходзім такое ўжыванне і напісанне: «А чаму б табе, пане Лейба, ды не купіць ваўначоскі? *Да душы* ж спатрэбілася б, не завадзілася б у гаспадарцы» [83, т. 3, с. 337]. Выдзеленае тут спалучэнне – гэта не яшчэ адзін (пяты) фразеалагізм, а слова з прыстаўкай «да», якое ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» пададзена з паметай «выкл.» і такой сэнсавай характарысткай: «Ужываецца для падмацавання чаго-н., для запэўнівання ў чым-н.; блізкі па значэнню да слова *далібог*» [100, т. 2, с. 116]. Таму напісанне *да душы* ў прыведзеным лынькоўскім прыкладзе – арфаграфічная памылка.

## § 2. Ненарматыўная спалучальнасць фразеалагізма

«Абапіраючыся на структурныя сувязі фразеалагізма з іншымі словамі, – піша У.П. Жукаў, – можна вылучыць наступныя асноўныя тыпы значэнняў: адносна свабоднае значэнне, канструктыўна абмежаванае і валентна абмежаванае значэнне» [57, с. 139]. Як слушна адзначае Л.М. Якшук, «гэта класіфікацыя цяпер, можна сказаць, лічыцца агульнапрынятай». І далей: «Але калі карыстацца толькі ёю, то выяўляецца пэўная «нестыкоўка». Атрымліваецца, што калі пэўнаму фразеалагізму не ўласціва канструктыўна абмежаванае значэнне (*вадзіць за нос* каго) або валентна абмежаванае (спаць *як пшаніцу прадаўшы*), то, значыць, гэта фразеалагізм з адносна свабодным значэннем. Аднак... для шмат якіх фразеалагізмаў, асабліва назоўнікавых, характэрны яшчэ адзін тып значэнняў, а менавіта сінтаксічна абумоўленае значэнне» [111, с. 85].

Адхіленні, звязаныя з парушэннем спалучальнасці фразеалагізма са словамі кантэксту, – даволі частая з'ява ў маўленні. У творах М. Лынькова выяўлены недакладнасці ва ўжыванні фразеалагічных адзінак з валентна абмежаваным значэннем. Такіх выпадкаў тры.

Фразеалагізм *як уліты* растлумачаны ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» так: 'які добра аблягае (пра адзенне, абутак)' [100, т. 5, кн. 2, с. 14], а ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» тлумачыцца спалучэннем 'якраз па фігуры' і мае дадатковую сэнсавую і граматычную характарыстыку: «Часцей выказнік. Ужываецца пры дзейніку, які абазначае назвы адзення» [76, т. 2, с. 489]. У М. Лынькова ёсць прыклад нарматыўнага выкарыстання гэтага выразу: «На хлопцу і парваная гімнасцёрка сядзела *як улітая*» [83, т. 4, с. 549]. А ў некалькіх іншых прыкладах гэты ж фразеалагізм чамусьці дастасоўваецца не да назваў адзення і абутку, а да зусім іншых прадметаў і спалучаецца не з дзеясловамі *сядзець, дагнаць* і пад., а са словамі іншай лексіка-семантычнай сферы. Як вынік гэтага, фразеалагізм рэалізуе ўжо не сваё нарматыўнае значэнне, а штосьці іншае: 1) Эшалон стаяў *як уліты* [83, т. 4, с. 396]; 2) І вінтоўка ў яго руках *як улітая* [83, т. 4, с. 536]; 3) Словы твае *як улітыя*, пад іх не падкапаешся [83, т. 3, с. 568]; 4) Я любую маху адгаблюю і да месца яе прылажу, *як улітую* [83, т. 4, с. 76].

6 разоў нарматыўна выкарыстаны ў творах М. Лынькова фразеалагізм *як на іголках*, які сваё значэнне 'ў стане крайняга хвалявання, неспакою, трывогі' праяўляе толькі ў спалучэнні са словамі *сядзець, адчуваць сябе*, напрыклад: «Васька сядзеў *як на іголках*» [83, т. 1, с. 415]. А два разы сустрэлася памылковае ўжыванне

гэтага выразу – з іншымі суправаджальнікамі і няслоўнікавым значэннем: 1) – Адкуль табе, дзед, вядома? – папярхнуўся тут і падскочыў *як на іголках* Дзетка [83, т. 5, с. 168]; 2) Начальнік выкрыкнуў, тузануўшыся на крэсле *як на іголках* [83, т. 5, с. 327].

Амаль тое самае можна сказаць пра выкарыстанне кампаратыўнага фразеалагізма *як мышы пад венікам*, які нарматыўна ўжываецца пры дзеяслове *сядзець* і абазначае 'вельмі ціха, бясшумна, спалохана'. Два разы ён ужыты з суправаджальнікам *сядзець* [83, т. 5, с. 332; т. 4, с. 531], а адзін раз – недакладна, са спалучэннем *адчуць сябе*: "Яны адразу адчулі сябе *як мышы пад венікам*" [83, т. 5, с. 455].

## § 3. Парушэнне формы фразеалагізма

Як вядома, фразеалагізмы маюць форму і змест. Змест фразеалагічных адзінак, як правіла, устойлівы, а форма фразеалагізма можа змяняцца. Так, некаторыя з выразаў выступаюць у мове у дзвюх і больш разнавіднасцях ці варыянтах – лексічных, фанетычных, марфалагічных, словаўтваральных і інш. (*дзіўная рэч – дзіўная справа*; *перабягаць дарогу – пераступаць дарогу* (каму); *сам сабе гаспадар – сам сабе пан; бачыш ты – бач ты*; *звярнуць горы – перавярнуць горы* і інш.). Такое ўжыванне фразеалагізмаў адпавядае моўнай норме і фіксуецца фразеалагічнымі слоўнікамі.

Аднак у форме фразеалагізмаў сустракаюцца разнастайныя адхіленні іншага характару. У адных выпадках змяненне формы фразеалагізма можа быць мэтанакіраванае, свядомае, выкліканае пэўнымі аўтарскімі задачамі. Тады маем справу са стылістычнымі прыёмамі абыгрывання фразеалагічных адзінак. У выпадку ж стылістычна не абумоўленага выхаду за межы фразеалагічнай варыянтнасці ўзнікаюць фразеалагічныя недакладнасці. Змененыя такім спосабам выразы ўжо не ўспрымаюцца як свежыя і арыгінальныя мастацкія сродкі, а кваліфікуюцца як фразеалагізмы з нематываванымі парушэннямі ў форме. Як слушна сцвярджае А.І. Малаткоў, «з правільнай формай фразеалагізма заўсёды звязана яго правільнае разуменне і правільнае ўжыванне» [88, с. 196]. Парушэнні ў форме фразеалагізмаў сустрэліся і ў творах М. Лынькова.

**Памылкі марфалагічнага характару.** Сярод марфалагічных адхіленняў ва ўжыванні фразеалагізма вылучаюць разнастайныя парушэнні. Так, некаторыя аўтары не ўлічваюць таго, што пэўныя выразы маюць абмежаваную ці нулявую парадыгму, і імкнуцца абыграць іх, але такое пераўтварэнне заўсёды нематываванае (напрыклад, ужываюць *лыка не вяжучы* замест *лыка не вяжа (не*

*вязаў), пальца ў рот не пакладу* замест *пальца ў рот не кладзі*, *як рукою зняў* замест *як рукой зняло* (*зніме*) і пад.). Назіраюцца таксама адхіленні ў формах роду, ліку і склону фразеалагічных кампанентаў.

У творах М. Лынькова сярод памылак марфалагічнага характару сустрэліся адхіленні, звязаныя з парушэннем фразеалагічнай нормы ў склоне. Напрыклад, у апавяданні «Світка»: «Можа, і жонцы надакучыла б *языка мянціць*» [83, т. 1, с. 252]. Нарматыўна ў выразе *мянціць языком* ('гаварыць упустую, пустасловіць') назоўнікавы кампанент павінен ўжывацца ў творным склоне з канчаткам *–ом*. Аднак у гэтым кантэксце знаходзім нематываваную форму кампанента-назоўніка: *мянціць языка*.

У «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» зафіксаваны трохзначны фразеалагізм *набірацца (набрацца) сілы (сіл, моцы)* [76, т. 2, с. 60]. У творах пісьменніка 8 разоў гэты выраз сустракаем у яго нарматыўным ужыванні з розным значэннем і ў дзвюх трывальных формах дзеяслоўнага кампанента, а таксама з марфалагічнай і лексічнай варыянтнасцю назоўнікавага кампанента: *набірацца (набрацца) сілы* – 3 разы; *набірацца (набрацца) сіл* – 4 разы, *набірацца моцы* – 1 раз). Аднак у наступным кантэксце аўтар адыходзіць ад нормы і ўжывае фразеалагізм у памылковай форме: «Ізноў *набраўся сілоў* на цэлы год, ніякая трасца цяпер не падступіцца...» [83, т. 7, с. 260]. Параўн. таксама падобнае выкарыстанне фразеалагізма *выбівацца з сіл*: «І я клапачуся, *з сілоў выбіваюся*, а яно ўсё не ідзе на лад» [83, т. 5, с. 251]. Думаецца, што ў абодвух гэтых выпадках ужыванне ў назоўнікавых кампанентах ненарматыўнага для літаратурнай мовы канчатка *-оў* у родным склоне множнага ліку выклікана ўплывам прастамоўя.

Марфалагічнае парушэнне, якое ўзнікае ў выніку ўплыву дыялектнай мовы, назіраем і ў аповесці «Апошні зверыядавец». Тут наўрад ці можна лічыць апраўданым ужыванне *перці на ражна* замест *перці на ражон*: «Спяць усе, а хто не спіць, той маўчыць. *На ражна* ніхто не хоча *перці*» [83, т. 3, с. 65].

Асобна варта разгледзець ужыванне фразеалагізма *паварушыць мазгамі*. Тройчы гэты прастамоўны фразеалагізм выкарыстаны ў форме *паварушыць мазгой*, аднак такое ўжыванне наўрад ці можна лічыць парушэннем марфалагічных уласцівасцей гэтага выразу. Перад намі – адлюстраванне тагачаснага маўлення, у якім замест *мазгамі* ўжывалі кампанент *мазгой* – у форме жаночага роду адзіночнага ліку. Адзін раз гэты выраз бачым у маўленні папа («Мы й падумаем, *мазгой паварушым*, а мо яно й на лад пойдзе» [83, т. 3, с. 554]), другі – у маўленні начальніка лагера (тут дзеяслоўны кампанент

заменены іншым словам: «А вы падумайце ўсё ж, *мазгой пашаруйце*» [83, т. 1, с. 298]), трэці – у аўтарскай мове: «Любіць поп пасля сытнага абеда ў філасофію часам укінуцца, *паварушыць мазгой* крыху» [83, т. 3, с. 343].

У творах М. Лынькова сустрэўся адзін выпадак і традыцыйнага ўжывання прастамоўнага выразу *варушыць мазгамі* (незакончанае трыванне): «Тады Ніку даводзіцца *варушыць мазгамі*.., каб неяк прывабіць слухачоў» [83, т. 2, с. 314].

**Словаўтваральныя памылкі.** Некаторыя фразеалагізмы могуць мець словаўтваральныя варыянты (*як вокам кінуць – як вокам скінуць – як вокам акінуць, у цяні – у цяньку, саступаць месца – уступаць месца, на хвіліну – на хвілінaчку* і інш.). У выпадку ж неапраўданага адхілення ва ўжыванні марфем у фразеалагічным кампаненце ўзнікаюць памылкі словаўтваральнага характару. Так, у «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» зафіксаваны выраз *няма ўгамону* (на каго) (ʻнельга стрымаць, супакоіць, спыніць каго-н.ʼ) [76, т. 2, с. 104], прычым фразеалагізму не ўласцівы словаўтваральны варыянт. У «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» [100, т. 5, кн. 1, с. 610] даецца такі нарматыўны прыклад гэтага выразу з апавядання «Дзед Аўсей і Палажка»: «[Палажка:] – *Няма* на яго ніякага *ўгамону*. Ва ўсякую маю справу… нос уткне…» [83, т. 2, с. 69]. Незразумела, па якой прычыне ў рамане «На чырвоных лядах» аўтар ужывае гэты выраз у іншай, ненарматыўнай форме: «– Дык гэта вы зноў, ліха вашай матары… *Няма* на вас ніколі *ўгамонку*» [83, т. 3, с. 280]. Тут ужо маем справу са словаўтваральнай памылкай, калі замест нарматыўнага *няма угамону* ў назоўнікавым кампаненце фразеалагізма з'яўляецца суфікс -к- (*няма ўгамонку*).

Неапраўданае скажэнне формы дзеяслоўнага кампанента ўзнікае пры ўжыванні замест фразеалагізма *ўправіць мазгі* (каму) аўтарскага *правіць мазгі* (каму): «Абкому давялося правесці спецыяльную растлумачальную работу, а разам з гэтым *правіць мазгі* і Свістуну» [83, т. 5, с. 52]. Нарматыўна ж фразеалагізм *управіць мазгі* (каму) не можа быць выкарыстаны без прыстаўкі.

**Скажэнне структуры фразеалагізма.** Як вядома, фразеалагізмы паводле іх структуры «суадносяцца: а) са словазлучэннямі (*абіваць парогі, белая варона*), б) са сказамі (*мядзведзь на вуха наступіў, на чым свет стаіць*), в) са спалучэннямі слоў (*не ў галаве, і жук і жаба*). Інакш кажучы, фразеалагізмы падзяляюцца на тры структурна-граматычныя разнавіднасці: фразеалагізмы-словазлучэнні, фразеалагізмы-сказы, фразеалагізмы-спалучэнні. Кожная разнавіднасць характарызуецца некалькімі структурнымі тыпамі, якія ў

сваю чаргу падзяляюцца на шэраг структурных мадэляў. За кожным фразеалагізмам замацавалася свая структура. Яна на ўзроўні нормы такая ж устойлівая і нязменная, як, скажам, і семантыка фразеалагізма» [77, с. 150–151].

У творах М. Лынькова сустракаем 7 фразеалагізмаў, выкарыстаных з парушэннем іх структуры.

Фразеалагізм *пусціць на вецер* (*грошы, сродкі, час* і пад.) мае структуру трохкампанентнага дзеяслоўнага словазлучэння, ён утвораны па адной з тыповых схем: дзеяслоў + прыназоўнік *на* + назоўнік у вінавальным склоне. У рамане «На чырвоных лядах» гэты фразеалагізм ужыты з парушэннем нормы – у форме *пусціць па ветру*: «Тут ужо і каня трэба ў пасаг, ды яшчэ і зямлі прырэж, словам, пусціся ў разор, вось так *па ветру* і *пусці* гаспадарку…» [83, т. 3, с. 282].

Ёсць у нашай мове, а таксама ў рускай і ўкраінскай мовах дзеяслоўны фразеалагізм *гарыць у руках* (у каго, чыіх), ён мае абмежаваную парадыгму – рэалізуецца толькі ў формах цяперашняга і прошлага часу (*гарэла ў руках*), спалучаецца са словамі *работа, справа* і пад. Нарматыўна гэты фразеалагізм выкарыстаны ў «Векапомных днях» М. Лынькова: «Але глядзі, каб работа, як гэта гаворыцца, *гарэла ў руках*» [83, т. 4, с. 324]. Аднак у апавяданні «Выпадак на чыстцы» выраз ужыты, па-першае, са скажэннем яго структуры, па-другое, з пашырэннем кампанентнага складу: «Але ж да чаго дасціпны – усё, што даручыш, *гарыць* у яго *агнём пад рукамі*» [83, т. 1, с. 352].

Фразеалагізм *не дабраць ладу* ўжываецца толькі пры дзейніку са значэннем асобы і мае сталую трохкампанентную структуру. У такой форме ён занатаваны ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» [100, т. 2, с. 107] і ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» [76, т. 1, с. 300]. А ў апавяданні М. Лынькова «Вяселле» выраз ужыты з пашырэннем структуры і кампанентнага складу: «[Нямецкі патруль] разгублена ціснуўся ўбок, *не дабраўшы да ладу*, што яму рабіць у гэтым непрадбачаным ніводнай інструкцыяй выпадку» [83, т. 2, с. 64]. Адзначым, дарэчы, што фразеалагізм *не дабраць ладу* з'яўляецца адмоўным як па форме, так і па змесце, таму неад'емным элементам яго дэфініцыі выступае часціца «не». У «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» сэнс фразеалагізма апісаны наступным чынам: 'не знайсці выхаду з якога-н. становішча' [100, т. 2, с. 107], а ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» часціца «не» чамусьці прапушчана [76, т. 1, с. 300]. На наш погляд, дэфініцыя гэтага выразу

павінна быць такой: ‘не разабрацца ў чым-н., не зразумець чаго-н., не здагадацца’.

Пададзім яшчэ фразеалагізмы, выкарыстаныя з парушэннем нормы: *да розуму брацца* замест *брацца за розум*: «Трэба ж неяк і *да розуму брацца*, жысць сваю ладзіць» [83, т. 3, с. 411]; *сэрца адлягло* замест *адлягло на сэрцы*: «У Слімака *сэрца адлягло*: няйначай, суджана так, не выпадае падавацца ў дарогу» [83, т. 4, с. 231]; *з упора* замест *ва ўпор*: «Бачыў ён: абярнуўся на бягу афіцэр, стрэліў *з упора*...» [83, т. 3, с. 254].

**Падмена кампанента.** Як адзначае А.І. Малаткоў, «ужыванне фразеалагізма ў незвычайнай форме часцей за ўсё звязана з няправільнай заменай кампанентаў фразеалагізма іх лексічнымі варыянтамі». І далей: «Дапушчэнне лексічных варыянтаў [у такіх выразах] успрымаецца як ужыванне фразеалагізмаў у незвычайнай форме, як адхіленне ад нормы» [88, с. 196]. Такое адхіленне ад нормы лічыцца творчым, калі аўтар матывавана, з пэўнай стылістычнай мэтай замяняе фразеалагічныя кампаненты іншымі, у выніку чаго маем справу са стылістычным прыёмам замены кампанентаў. У адваротным выпадку назіраем неапраўданую, нематываваную падмену кампанента, якая не нясе ніякай сэнсавай і стылістычнай нагрузкі.

У творах М. Лынькова сустракаем падобныя прыклады падмены фразеалагічнага кампанента іншым словам. Можна вылучыць наступныя групы такіх адхіленняў.

1. Падмена назоўнікавага кампанента. У нашай літаратурнай мове ёсць больш як 160 рыфмаваных фразеалагізмаў [75, с. 130], кампаненты якіх звязаны ўнутранай рыфмай, што робіць гэтыя выразы паэтычнымі мініяцюрамі. У гэты лік уваходзяць і такія фразеалагізмы, як *днём з агнём* (шукаць), *ні слуху ні духу*. У творах жа М. Лынькова сустракаем нічым не апраўданае абнаўленне гэтых фразеалагізмаў: 1) А добрую ваду трэба *днём з ліхтаром* шукаць [83, т. 6, с. 55]; 2) Хадзілі ля стагоў, абышлі балота ўсё, на дарогу выйшлі, – а коней тых – *ні следу, ні духу* [83, т. 3, с. 557]. У гэтай жа групе сустрэўся і такі выпадак ненарматыўнай замены фразеалагічнага кампанента-назоўніка: замест *прышчаміць хвост* ужываецца *прышчаміць нос*: «У гарады, дружа, не суйся пакуль – *прышчэмяць нос*» [83, т. 3, с. 10]. У наступным прыкладзе з «Векапомных дзён» замест нарматыўнага фразеалагізма *сэрца крывёй абліваецца* чыё, у каго (‘хто-н. зазнае пачуццё глыбокай спагады, жалю; каму-н. Невыносна цяжка, тужліва’) выкарыстоўваецца *сэрца абліваецца крывавымі слязьмі*: «Навошта мне ўсміхацца там, дзе *сэрца абліваецца*

*крывавымі слязьмі*?» [83, т. 5, с. 476]. Тут назіраем падмену назоўнікавага кампанента *крывёй* словазлучэннем *крывавымі слязьмі.*

Асобна спынімся на такім прыкладзе з рамана «На чырвоных лядах»: «Усё больш паддавалася ахвоты знішчыць, *змясіць з гразёй* гэтага гада, распусніка» [83, т. 3, с. 359]. Па-першае, у выдзеленым выразе замест *змясіць* трэба ўжываць *змяшаць*, бо гэтыя словы не ў складзе фразеалагізма маюць розныя значэнні [76, т. 2, с. 56–57]. Па-другое, фразеалагізм *змяшаць з гразёй* (каго, што), як засведчана ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» [76, т. 2, с. 56–57], мае адзінае значэнне ‘ўсяляк прынізіць, несправядліва абвінаваціць’, а фразеалагізм *змяшаць з зямлёй* трохзначны, яго другое значэнне – ‘забіць, знішчыць’, г.зн. якраз такое, якое найбольш падыходзіць да пададзенага лынькоўскага кантэксту. Такім чынам, тут замест нарматыўнага *зямлёй* памылкова выкарыстана *гразёй.*

2. Падмена дзеяслоўнага кампанента. Так, нарматыўны фразеалагізм *вывесці на дарогу* (каго) зафіксаваны ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» [76, т. 1, с. 206] як двухзначны. У творах М. Лынькова гэты выраз нарматыўна ўжываецца 3 разы, прычым у розных значэннях. Да прыкладу, урывак з «Векапомных дзён»: «Ён біў сябе кулакамі ў грудзі і голасна заяўляў, што *выведзе* краіну *на* шырокую *дарогу*» [83, т. 4, с. 440]. Тут фразеалагізм мае значэнне ‘дапамагчы каму-н. знайсці сваё месца ў жыцці’. А ў апавяданні «На вялікай хвалі» бачым нематываваную падмену кампанента-дзеяслова *вывелі* словам *паставілі*: «Як ні круці, а чалавекам яны мяне зрабілі, *на дарогу паставілі*» [83, т. 1, с. 336]. Між іншым, і ўнутраная форма апошняга выразу пярэчыць логіцы: у прамым значэнні на дарогу ніхто не ставіць, а выводзіць. Двойчы сустракаем неапраўданую замену ў фразеалагізме *прыкусіць язык* са значэннем ‘раптоўна змоўкнуць’. Гэты выраз мае жывую ўнутраную форму, якая выразна ўсведамляецца чытачом. Цяжка зразумець, для чаго М. Лынькоў замяняе дзеяслоўны кампанент гэтага фразеалагізма нелагічнымі, з пункту гледжання элементарнай логікі, словамі *падаткнуць, падперазаць*: 1) І нечага нукаць там, знайшоўся нукала... – *Падпережы язык*! [83, т. 3, с. 309]; 2) *Язык падатні*, трапло... [83, т. 1, с. 134].

3. Падмена кампанентаў-прыназоўнікаў. Так, у «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» ёсць трохзначны фразеалагізм *з рукі* (каму), першае значэнне якога – ‘зручна, адпавядае чыім-н. Намерам’ [76, т. 2, с. 287]. У М. Лынькова ж знаходзім *да рукі*, што трэба кваліфікаваць як нічым не апраўданую падмену прыназоўнікавага кампанента ў фразеалагізме *з рукі*: «А зямелька мне *да рукі*, зусім,

можна сказаць, таго паўнадзела з маімі загонамі злучыць – і выйдзе яно не кепска…» [83, т. 3, с. 567]. Яшчэ адзін прыклад. Паводле «Фразеалагічнага слоўніка беларускай мовы» [76, т. 1, с. 490], выраз *на капусту* ўжываецца з кампанентам-прыназоўнікам *на* і мае значэнне ‘ўшчэнт, поўнасцю; на дробныя часткі’. Такое нарматыўнае выкарыстанне гэтага фразеалагізма знаходзім у апавяданні «Аб чалавечым сэрцы»: «Бі іх, крышы *на капусту*!» [83, т. 1, с. 366]. Незразумела, чаму ў «Векапомных днях» замест нарматыўнага *на капусту* аўтар нематывавана замяніў прыназоўнікавы кампанент: «Я іх *у капусту* златашу, таварыш Байсак!» [83, т. 5, с. 229].

**Кантамінацыя фразеалагізмаў.** У раздзеле 3 ужо адзначалася, што фразеалагічная кантамінацыя паводле яе выніковасці падзяляецца на тры разнавіднасці і што кантамінаваныя гібрыды найчасцей трэба кваліфікаваць як ненаўмыснае змешванне двух фразеалагізмаў, як фразеалагічныя памылкі. Двойчы сустрэліся такія памылкі і ў творах М. Лынькова.

Ёсць фразеалагізм *абламаць рогі* (каму), што значыць ‘уціхамірыць, утаймаваць каго-н., прымусіць каго-н. пакарыцца’, і *абразаць крылы* (каму) – ‘пазбавіць каго-н. магчымасці дзейнічаць, рабіць што-н.’. Пісьменнік змешвае гэтыя два выразы і на іх аснове механічна стварае гібрыд: «Вось паклічу яшчэ твайго лейтэнанта, ды не пагляджу, што ён герой, а так *абламаю* яму камарыныя *крылы*, што ён і дзесятаму закажа збіваць з тропу некаторых… пляменніц…» [83, т. 5, с. 638]. Між іншым, і ўнутраная форма гэтага гібрыднага ўтварэння пярэчыць логіцы: у прамым значэнні крылы ніхто не абломвае, іх абразаюць ці падразаюць. Неапраўданы кантамінаваны наватвор *не ўпускаць з вока* ўзнік у выніку змешвання двух фразеалагізмаў: *не ўпускаць з віду* (каго, што) – ‘трымаць пад пільнай увагай’ і *спускаць з вока* (каго) – ‘пераставаць назіраць, сачыць за кім-н.’. У «Векапомных днях» чытаем: «Зручна прымасціўшыся на кажушку і седзячы бокам, каб *не ўпускаць з вока* коней, ён вёў «сур’ёзную гаворку» з Саколічам» [83, т. 5, с. 47].

## § 4. Фразеалагічныя русізмы ў творах М. Лынькова

У «Поўным зборы твораў у 8 тамах» М. Лынькова змешчана каля 16 % тэкстаў, напісаных аўтарам па-руску. Гэта пераважна публіцыстычныя і навуковыя артыкулы, якія друкаваліся ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны ў рускіх выданнях («Литературная газета», «Известия», «Красная звезда», «Советская Белоруссия» і інш.). Усяго ў гэтых тэкстах знаходзім 1067 фразеалагізмаўжыванняў. Тут ёсць і

фразеалагізмы, характэрныя толькі для рускай мовы, і такія, якія з'яўляюцца агульнымі для рускай і беларускай, а часта і некаторых іншых славянскіх моў. Зрэдку ў гэтыя тэксты пісьменнік знарок уключае беларускія фразеалагізмы, суправаджаючы іх стылеўказальнымі агаворкамі накшталт «как говорят у нас, белорусов»; напрыклад: *да Абрама на піва пайсці* [83, т. 8, с. 170], *на сухі лес* [83, т. 8, с. 419], *кум каралю* [83, т. 8, с. 260], *людзьмі звацца* (9 ужыванняў у розных тэкстах).

Калі ж звярнуцца да беларускіх тэкстаў М. Лынькова, то тут можна выявіць каля 30 фразеалагічных русізмаў, што варта кваліфікаваць як парушэнне такой камунікатыўнай якасці, як чысціня беларускага маўлення. Дарэчы, пра неапраўданае ўжыванне русізмаў у творах М. Лынькова пісалі М. Гарэцкі [45, с. 115], Д. Бугаёў [37, с. 176]. Я. Колас, аналізуючы мову рамана «На чырвоных лядах», зазначыў, што ў гэтым творы «нямала трапляецца і русізмаў, і слоў, пастаўленых у формах, уласцівых рускім словам» [61, с. 96].

Фразеалагічныя русізмы, сустрэтыя ў творах М. Лынькова, можна падзяліць на 3 групы:

1. Рускія фразеалагізмы, пададзеныя аўтарам у беларускім арфаграфічным афармленні: *не ка двару* (рус. *не ко двору*): «Балазе там і настаўнік адзін *не ка двару* прыйшоўся» [83, т. 3, с. 341]), *як банны ліст* (рус. *как банный лист*): «Адчапіся ты, чаго прыліп, *як банны ліст*...» [83, т. 3, с. 187]; *бачыць віды* (рус. *видать виды*): «Містэр Чэрман... *бачыў*, як гэта гаворыцца, усякія *віды*» [83, т. 2, с. 457]; «У самым куце прытаіўся, *бачыўшы* розныя *віды*, плюшавы мішка...» [83, т. 4, с. 24]; *што к чаму* (рус. *что к чему*): «Канечне, абыкаму не дужа я гавару аб гэтым, бо каторае яно і да ладу не дабярэ, *што к чаму*» [83, т. 3, с. 539].

2. Рускія фразеалагізмы, якія ў беларускай літаратурнай мове маюць суадносныя адпаведнікі, адрозныя ад рускіх выразаў адным ці двума кампанентамі. Так, М. Лынькоў замест *твару не было* (на кім) ужыў *ліца не было*: «На ім, як кажуць, *ліца не было*» [83, т. 6, с. 21]; *на віду мае* замест *на ўвазе мае*: «... сын яго да Таццяны чэпіцца, *на віду* яе *мае*» [83, т. 3, с. 345]; *на дзеле* замест *на справе*: «Кожны селянін *на дзеле* ўпэўніцца ў тым...» [83, т. 6, с. 38]; *не за страх, а за совесць* замест *не за страх, а за сумленне*: «... пачалі працаваць *не за страх*, як гаворыцца, *а за совесць*» [83, т. 7, с. 679]; *у чэсць* замест *у гонар*: «Трохразовы салют *у чэсць* паўшага воіна, друга» [83, т. 2, с. 126]; *ні шагу* замест *ні кроку*: «І будзем мы тут стаяць насмерць, а назад – *ні шагу*» [83, т. 2, с. 170]; *часаліся рукі* замест *свярбелі рукі*: «Пасадзілі дрэўца, каб яно расло... А яго ўзялі і паламалі; ну чые гэта, скажы,

*часаліся рукі?*» [83, т. 3, с. 94; аналагічна на с. 261 у 1-м томе]; *вёў сябе* замест *паводзіў сябе*: «Ён і *вёў сябе*, як урач на кансіліуме…» [83, т. 5, с. 205; аналагічна яшчэ ў двух выпадках: т. 5, с. 641; т. 6, с. 553]; *захватвае дух* замест *займае дух*: «І ляціць Валька ўніз галавой… Ляціць, аж *захватвае дух*» [83, т. 3, с. 44; аналагічна яшчэ ў двух выпадках: т. 1, с. 262; т. 6, с. 69]; *хоць кол на галаве цяшы* замест *хоць кол на галаве чашы*: «Не слухае, *хоць ты кол на галаве цяшы*» [83, т. 2, с. 557; аналагічна на с. 322 у 3-м томе]; *таюць у роце* замест *у роце растаюць*: «… абаранкі… ну проста *таюць у роце*» [83, т. 3, с. 277].

Рускі фразеалагізм *как нельзя лучше* перакладзены ў «Руска-беларускім слоўніку беларускай мовы» [94, т. 1, с. 525] так: *як мага лепш*. Аднак гэты пераклад не прыжыўся ў нашай мове, адпаведнікам рускага выразу стаў *як не трэба лепш*. Гэта ілюструецца ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» [76, т. 2, с. 461–462] цытатамі з твораў Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, В. Палтаран. У М. Лынькова сустракаем аўтарскі пераклад – *як нельга лепш*: «Цяпер яны *як нельга лепш* спатрэбяцца яму ў задуманай справе» [83, т. 5, с. 257].

3. Агульныя для беларускай і рускай моў фразеалагізмы, адзін з кампанентаў якіх адрозніваецца канчаткам (*дыхае – дышет, бараноў – бараний*), суфіксам (*агеньчык – огонёк*), прыстаўкай (*спакой – покой*), родавай прыналежнасцю (*яблык – яблоко, яблычак – яблочко*), акцэнтна-фанетычнымі асаблівасцямі (*адводзіць – отводить*) і інш. Напрыклад: аўтар ужывае *чым дыша* замест *чым дыхае*: «Рыпіна ведае, як хто чым жыве і *чым дыша*» [83, т. 1, с. 192; тое самае ў 3-м томе на с. 474]; *скруціць у барані рог* замест *скруціць у бараноў рог*: «Гэтых рускіх трэба *скруціць у барані рог…*» [83, т. 3, с. 239]; *на аганёк* замест *на агеньчык*: «Зойдзе *на аганёк* пуцявы абходчык Антон» [83, т. 1, с. 209]; *не давала пакою* замест *не давала спакою*: «Ды думка таядругая *не давала пакою*» [83, т. 3, с. 581]; *на горкае яблыка* замест *на горкі яблык*: «Быў ён збіты *на горкае яблыка*» [83, т. 6, с. 252; аналагічна на с. 179 у 3-м томе]; *трапіць у яблычка* замест *трапіць у яблычак*: «І гэтак абмішуліцца, гэтак прамазаць… *У яблычка* тое ды не *патрапіў*» [83, т. 1, с. 265; аналагічна на с. 568 у 1-м томе].

## § 5. Арфаграфічныя памылкі

У параўнанні з іншымі нормамі (акцэнталагічнымі, словаўтваральнымі, марфалагічнымі, сінтаксічнымі і г. д.) арфаграфічныя нормы «характарызуюцца больш строгай рэгламентаванасцю, не дапускаюць варыянтаў напісання» [74, с. 249]. У М. Лынькова зрэдку назіраюцца арфаграфічныя адхіленні ў напісанні як асобных слоў,

так і фразеалагізмаў. Напрыклад, прыслоўе *зроду* ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» зафіксавана ў значэнні 'ніколі, ні разу за ўсё жыццё' [100, т. 2, с. 513] і пішацца разам, а ў нарысе «Вайна і соль» бачым асобнае напісанне: «І як там ужо ні было, а вялікія саляныя запасы Бабруйшчыны развіліся... – такі, кажуць, гандаль ішоў, што *з роду* не бачылі» [83, т. 6, с. 36]. Рускае *нипочем* у «Руска-беларускім слоўніку» перакладзена так: «хоць бы што, не цяжка» [94, т. 1, с. 547]. М. Лынькоў тройчы ужыў гэта прыслоўе ў іншым арфаграфічным напісанні: «Ім жа ўсё *ні па чым*, яны нічога не баяцца...» [83, т. 4, с. 313].

Разгледзім арфаграфічныя няправільнасці ва ўжыванні фразеалагізмаў у творах пісьменніка. Варта адзначыць, што наяўнасць арфаграфічных памылак выклікана рознымі прычынамі. Па-першае, напісанне некаторых фразеалагізмаў менавіта так, а не інакш лічылася ў пэўны перыяд нормай. Гэта датычыць выразу *на ўме*, які ў часы стварэння рамана «На чырвоных лядах» (30-ыя гады) пісаўся, як і ў рускай мове, у два словы і лічыўся фразеалагізмам: «Дзівіся, стары, а шчэ трасца *на ўме* і дапяў жа Барташысе» [83, т. 3, с. 298]. У сучаснай беларускай мове прыслоўе *наўме* трэба пісаць разам [100, т. 3, с. 329]. Аўтар у гэтым выпадку карыстаўся тагачаснымі нормамі, а вось карэктары пры пазнейшым перавыданні твора не паправілі такое напісанне. Па-другое, сустрэліся выпадкі рознага напісання адных і тых жа фразеалагізмаў у розных выданнях. Напрыклад, двухзначны выраз *век-вяком* у беларускай мове нарматыўна пішацца праз злучок і ў такім выглядзе зафіксаваны ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» [76, т. 1, с. 162] і ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» [100, т. 1, с. 474]. У рамане ж «Векапомныя дні», выдадзеным у 1969 годзе, бачым напісанне *век-векам*, а ў гэтым жа творы, толькі ў пазнейшым выданні 1983 года (у «Поўным зборы твораў у 8-мі тамах»), гэты фразеалагізм са значэннем 'заўсёды, вечна, усё жыццё' пішацца ў два словы без дэфіса: «І насі сабе [біклажку] на здароўе *век векам*, і ўнукам яшчэ астанецца» [83, т. 4, с. 77].

Арфаграфічныя адхіленні ва ўжыванні фразеалагізмаў, якія сустрэліся ў творах пісьменніка, можна падзяліць на дзве групы:

1. Памылкі ў напісанні фразеалагічных кампанентаў асобна, разам і праз злучок. Так, фразеалагізм *на векі вечныя* зафіксаваны ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» як двухзначны, кампаненты якога пішуцца асобна. Менавіта такое напісанне выразу (са значэннем 'назаўсёды, навечна') сустракаем і ў нарысе М. Лынькова «Кузьма Чорны»: «Дзіця будзе другое, а не тое, якое мела пакуту, і

пакута гэтая сталася *на векі вечныя…*» [83, т. 6, с. 539]. Незразумела, чаму двойчы аўтар выкарыстоўвае гэты фразеалагізм ужо ў іншым напісанні – *навекі-вечныя*: 1) Клапатлівая маці… пазірае часам на сына, нібы хоча *навекі-вечныя* ўгледзецца ў яго [83, т. 6, с. 25]; 2) [У дзядзькі Сяргея] застыла ўсмешка *навекі-вечныя* [83, т. 1, с. 151].

Пэўны разнабой бачым і ў напісанні фразеалагізма *збоку прыпёку*. Нарматыўна гэты двухзначны выраз зафіксаваны ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» [76, т. 1, с. 423] і ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» [80, т. 2, с. 431] менавіта ў такім напісанні, якое назіраем у рамане «На чырвоных лядах»: «Іван жа Іванавіч, як відаць, *збоку прыпёку*» [83, т. 3, с. 484]. Тут фразеалагізм ужываецца ў ролі выказніка і мае значэнне ‘зусім непатрэбны, лішні, чужы’. А ў апавяданні «Над Бугам» фразеалагізм пішацца так: «Сам я… Эх, што гаварыць, нічога не варты, мухаморына адна, так, нешта нейкае, *з боку прыпёку*» [83, т. 1, с. 86]. Дарэчы, у выданні 1960 года ў гэтым творы выраз мае выгляд *з боку-прыпёку*. Параўн. таксама памылковае напісанне фразеалагізмаў *на зло* (каму), *раз-поразу* ў наступных кантэкстах: 1) А Маньчжур, тады ўжо *назло* ім, піў яшчэ болей… [83, т. 1, с. 131]; 2) Пасварыўшыся з-за дробязей з братам, яна [Анісяі] *назло* яму і пайшла за Сяргея [83, т. 2, с. 81]; 3) Чуваць, як… *раз па разу* пераліваюцца косы срэбным шоргатам мянташак… [83, т. 3, с. 275–276].

2. Памылкі ў напісанні пэўных літар у фразеалагічных кампанентах. Усе выпадкі гэтай групы арфаграфічных памылак, якія сустрэліся ў творах М. Лынькова, датычаць напісання кампанентаў, суадносных з часціцамі *не, ні*. Як вядома, часціца *не* мае асноўнае адмоўнае значэнне, у некаторых выпадках яна можа быць і сцвярджальнай. Часціца ж *ні* – узмацняльная. Яна ўзмацняе адмаўленне або сцвярджэнне. Ужыванне гэтых часціц строга рэгламентавана нормамі беларускай мовы.

У фразеалагізмах ужыванне кампанентаў *не* і *ні* замацавалася самой моўнай сістэмай. Таму выкарыстанне кампанента *ні* замест *не* і наадварот лічыцца арфаграфічнай памылкай. Прывядзём некаторыя прыклады. Так, фразеалагізм *ні пры чым* абазначае ‘не мае ніякіх адносін да чаго-н., не з’яўляецца прычынай чаго-н.’. Норма гэтага выразу засведчана ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» [100, т. 5, кн. 2, с. 398] і ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» [76, т. 2, с. 572]. У творах жа М. Лынькова нароўні з нарматыўным ужываннем выразу (10 разоў) 4 разы бачым памылковае яго выкарыстанне, напрыклад: «Кёрзіг памкнуўся да хворага, ужо ўхапіўся за бінт, каб пераканаць начальства, што ён тут *не пры*

*чым...*» [83, т. 5, с. 113]. Ужыванне замест *не* кампанента *ні* ў выразе *<і> не лыс* сустракаем у аповесці «Міколка-паравоз»: «Пачуў дзед, схамянуўся, хуценька бомбы схаваў за пазуху і, як *і ні лыс*, Міколку падміргнуў» [83, т. 3, с. 249].

Іншы раз даволі цяжка, апісваючы арфаграфічныя няправільнасці ва ўжыванні фразеалагізмаў у творах пісьменніка, адназначна сцвярджаць, ці такія памылкі ўзніклі па няўважлівасці аўтара, ці па віне карэктараў. Тут можна кіравацца наступнымі меркаваннямі. Па-першае, калі адзін і той жа фразеалагізм у розных выданнях напісаны па-іншаму, прычым памылкова ў больш познім (непрыжыццёвым) выданні, то пісьменніка наўрад ці можна абвінаваціць у ненарматыўным ужыванні выразу. Па-другое, калі фразеалагізм некалькі разоў ужываецца памылкова і не сустрэлася ніводнага яго нарматыўнага напісання, то можна сказаць, што аўтар не ведаў арфаграфічнай нормы выкарыстання пэўнага выразу.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Разнастайныя стылістычныя функцыі, з якімі выступаюць фразеалагізмы ў творах М. Лынькова, падзяляюцца на дзве групы: 1) функцыі ўзуальнага характару, 2) функцыі аказіянальнага характару. У першую групу стылістычных функцый аб'яднаны пастаянныя функцыі, абумоўленыя ўласцівасцямі саміх фразеалагізмаў: намінатыўная (яе выконваюць усе фразеалагізмы, апрача мадальных і выклічнікавых), лаканізацыі маўлення, вобразнага выказвання, ацэначная (характэрная для тых выразаў, якія здольны даваць станоўчую ці адмоўную ацэнку прадметам або з'явам), эмацыянальная, экспрэсіўная (яе варта лічыць катэгарыяльнай уласцівасцю ўсіх фразеалагізмаў). Функцыя вобразнага выказвання ўласціва (насуперак шматлікім сцвярджэнням у навуковай літаратуры) толькі фразеалагічным адзінствам з жывой унутранай формай, прычым утвораным як метафарычным шляхам, так і метанімічным (*паклаўшы руку на сэрца*) ці сінекдахічным (*вуха на вуха*). Пераважная большасць фразеалагізмаў характарызуецца поліфункцыянальнасцю, яны адначасова выконваюць некалькі функцый.

Функцыі аказіянальнага характару – гэта прыватныя стылістычныя функцыі, якія праяўляюцца толькі ў спецыяльна створаным кантэксце. Да іх належаць функцыя стварэння гумару і сатыры, градацыйная і функцыя маўленчай характарыстыкі персанажа. У творах М. Лынькова асобную падгрупу складаюць функцыі кампазіцыйна-канструкцыйнай накіраванасці: функцыя сюжэтнай асновы твора і функцыя заключнага акорда.

Тэксталагічныя назіранні за ўжываннем фразеалагізмаў у розных выданнях аднаго і таго ж твора сведчаць аб карпатлівай працы пісьменніка, аб пошуках і знаходжанні адзіна магчымага моўнага сродку для пэўнай маўленчай сітуацыі. Шліфуючы і ўдасканальваючы свае творы, М. Лынькоў у адных выпадках замяняў слова ці словазлучэнне фразеалагізмам, у другіх – наадварот. Іншы раз адзін фразеалагізм замяняў другім, уносіў змены ў граматычную структуру асобных выразаў.

Да праблемы функцыянальна-стылістычнай ролі фразеалагізмаў, іх якаснай характарыстыкі мае непасрэднае дачыненне пытанне пра іх частотнасць, іх колькасную характарыстыку. Усяго ў творах М. Лынькова намі выяўлена 2516 фразеалагічных адзінак, а паколькі многія з іх паўтараюцца, то агульны лік ужыванняў – 12901. Фразеалагізмы часцей ужываюцца ў мастацкіх тэкстах пісьменніка,

значна радзей – у публіцыстычных. У цэлым адзін фразеалагізм прыходзіцца на 116 слоў тэксту. Выкарыстаныя фразеалагізмы падзелены на высокачастныя, сярэднечастотныя і нізкачастотныя. Апошнія ўжыты толькі аднойчы і складаюць 46 % ад агульнай колькасці, выступаючы сведчаннем багацця фразеалагічнага слоўніка гэтага пісьменніка. У параўнальна невялікіх творах (апавяданнях «Андрэй Лятун», «Над Бугам» і інш.) пісьменнік, паслядоўна прытрымліваючыся «няпісанага правіла», не паўтарае ніводнага фразеалагізма без пэўнай стылістычнай матывацыі. У творах жа, значных сваім памерам («Векапомныя дні», «На чырвоных лядах» і інш.), у адрозненне ад апавяданняў, некаторыя звароты, аднак, паўтараюцца па некалькі разоў, ператвараючыся, на наш погляд, у маўленчыя штампы, чым зніжаецца іх эфектыўнасць у маўленні (*вось-вось (во-во, вот-вот)*, *усё роўна* і інш.).

Усе тыпы фразеалагічнай варыянтнасці, апрача акцэнтных, даволі часта сустракаюцца ў творах М. Лынькова: лексічныя – у 157 фразеалагізмах, словаўтваральныя (34), марфалагічныя (54), фанетычныя (18), акцэнтна-фанетычныя (4), канструкцыйна-колькасныя (91), камбінаваныя (36). Шырокае карыстанне варыянтнасцю абумоўлена неабходнасцю ў разнастайных сродках выказвання і сведчыць пра добрае веданне пісьменнікам агульнанароднага фразеалагічнага багацця.

Нароўні з агульнамоўнымі варыянтамі, занатаванымі ў сучасных фразеалагічных даведніках літаратурнай або дыялектнай мовы, у творах пісьменніка ёсць варыянты няслоўнікавага тыпу. Яны падзелены намі на дзве групы. Першая група аб'ядноўвае магчымыя варыянты, якія не фіксуюцца ў слоўніках, але зрэдку сустракаюцца ў творах іншых пісьменнікаў або створаны М. Лыньковым па аналогіі з другімі выразамі, здольнымі вар'іравацца. Такіх магчымых варыянтаў – 156.

У другую групу ўваходзяць індывідуальна-аўтарскія варыянты (іх 36), якія не закранаюць сэнсу фразеалагізма, але, на думку пісьменніка, найбольш прыдатныя ў пэўнай маўленчай сітуацыі і дапамагаюць разнастаіць маўленне ці пазбегнуць таўталогіі. Многія з такіх варыянтаў могуць стаць рэзервам літаратурнай мовы (*дзіва што – дзіва то* (28 ужыванняў), *забіваць галаву* (каму чым) – *забіваць мазгі* (каму чым), *скура ды косці – скура ды рэбры* і пад.).

Супярэчнасць паміж расчлянёнай формай фразеалагізма і яго сематыч-най цэласнасцю – аб'ектыўная моўная крыніца творчага, эфектыўнага, нетрадыцыйнага выкарыстання фразеалагізмаў у маўленні. Даследуючы прыёмы такога іх выкарыстання, адны

мовазнаўцы апісваюць гэтыя прыёмы ў лінейнай паслядоўнасці, другія – сістэматызуюць іх. Найбольш прымальным варта лічыць падзел стылістычных прыёмаў на дзве групы: структурна-семантычныя і семантычныя змяненні. У манаграфіі даецца схема, на якой сістэматызуюцца 17 стылістычных прыёмаў ужывання фразеалагізмаў у творах М. Лынькова. Намі выяўлена больш як 150 абыграных фразеалагічных адзінак (6 % ад агульнай колькасці выкарыстаных выразаў).

Пры структурна-семантычных змяненнях фразеалагізмаў пісьменнік мэтанакіравана і стылістычна абумоўлена змяняе форму фразеалагізма, што непазбежна закранае і яго сэнсавы змест. Выкарыстоўваюцца наступныя стылістычныя прыёмы гэтай разнавіднасці: ускладненне фразеалагізма словам свабоднага ужывання (каля 40 прыкладаў), замена кампанента іншым словам (16), фразеалагічная зеўгма (2), аб'яднанне слова свабоднага ўжывання з часткай фразеалагізма (1), кантамінацыя фразеалагізмаў (1), выкарыстанне вобразнай асновы фразеалагізма (10).

Другая разнавіднасць – семантычныя змяненні, калі форма фразеалагізма застаецца традыцыйнай, а яго абыгрыванне ажыццяўляецца за кошт спецыяльна створанага кантэксту. У адных выпадках (першая падгрупа) абыгрываецца ўвесь фразеалагізм (восем творчых прыёмаў, абыгрываюцца як правіла, фразеалагічныя адзінствы). У другіх выпадках (другая падгрупа) абыгрываецца адзін з кампанентаў (тры прыёмы). Як паказвае маўленчая практыка М. Лынькова, у гэтай падгрупе пад абыгрыванне падпадаюць (наперакор існуючым сцвярджэнням) не толькі зрашчэнні, але (часцей за ўсё) адзінствы, прычым толькі ў вельмі рэдкіх выпадках адбываецца «семантычнае пераўтварэнне ўсёй фразеалагічнай адзінкі».

Пісьменнік рознымі прыёмамі вынаходліва і дасціпна абнаўляе фразеалагізмы, творча выяўляе іх патэнцыяльныя магчымасці. Стылістычная роля фразеалагізмаў у такіх выпадках нібы падвойваецца, узмацняецца іх экспрэсіўна-эмацыянальнае ўздзеянне на чытача. «Амаладжаныя» выразы ўтрымліваюць дадатковую інфармацыю, сэнсавае або стылістычнае прырашчэнне, успрымаюцца як новыя, арыгінальныя сродкі выказвання. Асобныя абноўленыя пісьменнікам фразеалагізмы або створаныя на базе існуючых можна лічыць рэзервам для папаўнення фразеалагічнага складу літаратурнай мовы (*хоць бы ў вус, на парог ляцець, мяса сабачае, памераць глыбіню кішэні* і інш.). Сюды ж варта дадаць і 8 не занатаваных у даведніках выразаў з яўнымі прыметамі ідыяматычнасці (*ад кропкі да кропкі, даруй божа, мазоліць мазгі* і інш.).

Пры аб'ектыўным вывучэнні фразеалогіі ў творах пісьменніка трэба аналізаваць не толькі станоўчае, эфектыўнае, новае, унесенае аўтарам у рэалізацыю фразеалагізмаў, але і адзначаць нічым не апраўданыя адхіленні ад фразеалагічнай нормы. Парушэнні гэтай нормы, хоць і не частыя, маюць месца і ў творах М. Лынькова. Выяўлена 11 такіх адхіленняў ад фразеалагічна-семантычных нормаў, прааналізаваны адступленні ад нормы, звязаныя са спалучальнасцю фразеалагізма са словамі кантэксту. Маецца шэраг адхіленняў ад нарматыўнай формы фразеалагізмаў. Ёсць неапраўданыя запазычанні з рускай мовы. Асобна разгледжаны разнастайныя арфаграфічныя няправільнасці ў напісанні фразеалагічных адзінак.

Наяўнасць нематываваных ужыванняў фразеалагічных адзінак часткова вытлумачваецца тым, што ў час напісання твораў М. Лыньковым у беларускім мовазнаўстве адсутнічалі тлумачальныя слоўнікі літаратурнай мовы і беларускія фразеалагічныя даведнікі. Сустракаюцца нярэдкія выпадкі, калі пэўны фразеалагізм неаднойчы выкарыстаны нарматыўна, а ў асобных выпадках – з нематываваным адхіленнем ад нормы.

Аналіз недакладных ужыванняў фразеалагізмаў мае непасрэдныя адносіны як да культуры маўлення, так і да пытання пра аб'ектыўнасць пры даследаванні стылістычнага выкарыстання фразеалагічных адзінак у творах пісьменніка.

## ДАДАТАК

### Пералік фразеалагізмаў, ужытых у творах М. Лынькова, напісаных па-беларуску

Лічба справа ад фразеалагізма абазначае колькасць ужыванняў. У гэты пералік уключаны таксама, па-першае, 5 рускіх фразеалагізмаў у беларускім арфаграфічным афармленні і з калькаваннем асобных кампанентаў: *бачыць віды* (русск. *видать виды*), *не ка двару* (русск. *не ко двору*), *па-дабру па-здароваму* (русск. *подобру-поздорову*), *як банны ліст* (русск. *как банный лист*), *што к чаму* (русск. *что к чему*); па-другое, 8 выразаў, якія не фіксуюцца ў фразеалагічных слоўніках, але маюць цэласнае значэнне, нераскладальнае на асобныя лексічныя значэнні кампанентаў, і, такім чынам, могуць лічыцца патэнцыяльнымі фразеалагізмамі беларускай літаратурнай мовы (многія з іх выкарыстаны М. Лыньковым не аднойчы, а па некалькі разоў): *абедня сапсута, ад кропкі да кропкі, даруй божа, збіць з ног (каго), іш ты, каб немач (на каго), мазоліць мазгі, на сённяшні дзень.*

| | |
|---|---|
| а між тым | 1 |
| а як жа! | 25 |
| абвесці вакол пальца *каго* | 2 |
| абводзіць (абвесці) вачамі (вачыма) *каго, што* | 4 |
| абедзвюма рукамі | 1 |
| абедня сапсута | 1 |
| абіваць парогі *чые* | 1 |
| абламаць зубы *на чым* | 1 |
| абламаць рогі *каму* | 1 |
| абліваца (заліваца) слязамі (слязьмі); абліцца (заліцца) слязамі (слязьмі) | 11 |
| абліцца крывёй | 2 |
| абліць граззю (памыямі) *што* | 2 |
| абразаць (абрэзаць) крылы *каму* | 3 |
| абуць у лапці *каго* | 1 |
| абыходзіць (абысці) за вярсту | 3 |
| *што* | |
| аглянуцца не паспела | 1 |
| агнём і мячом | 4 |
| ад (з) краю да краю | 2 |
| ад (з) цямна да цямна | 5 |
| ад <усёй, -яе> душы | 13 |
| ад <усяго, самага> сэрца | 8 |
| ад бога | 3 |
| ад імя *каго* | 26 |
| ад калыскі | 1 |
| ад кропкі да кропкі | 1 |
| ад няма чаго (ад нечага) рабіць | 5 |
| ад прыроды | 1 |
| ад роду | 1 |
| ад рукі | 2 |
| ад сілы | 3 |

| | |
|---|---|
| ад шчырага сэрца | 3 |
| адамаў яблык | 1 |
| *не магчы* адарваць вачэй *ад каго* | 1 |
| адбіцца ад дому | 1 |
| адбіцца ад рук | 3 |
| адбою няма *ад каго* | 1 |
| адвесці вочы *каму* | 3 |
| адводзіць (адвесці) душу | 9 |
| адгароджвацца кітайскай сцяной *ад каго* | 1 |
| аддаваць (аддаць) належнае *каму, чаму* | 4 |
| аддаваць (аддаць) чэсць *каму* | 2 |
| аддаваць даніну *чаму* | 1 |
| аддаць апошні доўг *каму* | 1 |
| аддаць богу душу | 1 |
| аддаць духі | 1 |
| адзін бог ведае | 2 |
| адзін на адзін | 3 |
| адзін у адзін | 4 |
| адзін чорт | 2 |
| адказваць галавой *за каго, за што* | 3 |
| адкруціць галаву *каму* | 4 |
| адкрываць (адкрыць) дарогу *каму куды* | 2 |
| адкрываць новую старонку *ў чым* | 1 |
| адкрыць (раскрыць) вочы *каму на што* | 5 |
| адкрыць рот | 1 |
| адлягло ад сэрца *ў каго* | 2 |
| адлягло на душы (на сэрцы) *у каго* | 5 |
| адна назва | 1 |
| аднаго балота чэрці | 1 |
| аднаму богу вядома | 1 |

| | |
|---|---|
| адно да аднаго | 2 |
| адно званне засталося *ад чаго* | 2 |
| адно на адно *сышлося* | 1 |
| адно слова | 3 |
| адной нагой стаяць у магіле | 1 |
| адны слёзы | 1 |
| адным вокам | 1 |
| адным вухам | 1 |
| адным духам | 1 |
| адным махам | 13 |
| адным словам [1] | 1 |
| адным словам [2] | 16 |
| адчуванне локця | 1 |
| адчыніць (адкрыць) дзверы *каму, куды* | 5 |
| адыгрываць (адыграць) ролю *<якую> у чым* | 8 |
| адысці ў нябыт | 2 |
| адыходзіць (адступіць) на задні план | 4 |
| аж (толькі) пыл курыць (курэў) | 9 |
| аж пуп трашчыць | 1 |
| азірацца на кусты | 1 |
| акінуць вокам *каго, што* | 4 |
| ані ў зуб | 1 |
| антонаў агонь | 1 |
| апошняе слова *чаго* | 1 |
| апусціцца на дно | 2 |
| асіна плача *па кім* | 3 |
| асінае гняздо | 1 |
| асушыць слёзы *чые* | 2 |
| барані божа (божачка, бог) | 9 |
| бачыць (пабачыць) віды | 3 |
| бачыць бог | 1 |

| | |
|---|---|
| бачыць наскрозь (навылёт) | 12 |
| бачыш (бач) ты | 5 |
| баявое хрышчэнне | 1 |
| без агляд кі | 2 |
| без жартаў | 3 |
| без канца | 4 |
| без клёпкі ў галаве | 1 |
| без меры | 3 |
| без нажа рэзаць *каго* | 6 |
| без памяці | 18 |
| без штаноў *застацца* | 2 |
| белая пляма | 1 |
| белы свет | 21 |
| біцца (пабіцца) аб заклад | 2 |
| біцца як рыба аб лёд | 1 |
| біць бібікі | 2 |
| біць кулакамі ў грудзі | 1 |
| біць лынды | 3 |
| біць ногі | 2 |
| біць паклоны | 1 |
| біць у нос | 1 |
| блытацца пад нагамі *ў каго* | 1 |
| бог бацька | 1 |
| бог ведае | 2 |
| бог ведае што | 4 |
| бог дасць | 2 |
| бог даў | 1 |
| бог з ім (з ёй, з вамі) | 5 |
| бог мілаваў *каго* | 6 |
| бог не пакрыўдзіў *каго чым* | 2 |
| бог нясе *каго* | 1 |
| бог паслаў *каму каго, што* | 3 |

| | |
|---|---|
| бог суддзя | 1 |
| бог яго ведае | 1 |
| богам забыты | 2 |
| божа (божачка) мой | 16 |
| божа збаў | 1 |
| божа літасцівы | 1 |
| божа святы | 1 |
| божая сляза | 2 |
| *мяшаць* божы дар з яешняй | 1 |
| божы свет | 13 |
| больш (болей) таго | 9 |
| больш-менш | 21 |
| бразгаць зброяй | 1 |
| брат ты мой | 18 |
| брат-сястрыца | 1 |
| брахаць на сабак *навучыць* | 1 |
| брацца (узяцца) за розум | 4 |
| брацца за пяро | 1 |
| браць (узяць) верх *над кім, над чым* | 5 |
| браць (узяць) голымі рукамі *каго* | 4 |
| браць (узяць) на сябе *што* | 4 |
| браць (узяць) пад казырок | 10 |
| браць (узяць) сваё | 3 |
| браць (узяць) слова | 2 |
| браць (узяць) сябе ў рукі | 2 |
| браць (узяць) у <свае> рукі *каго, што* | 9 |
| браць (узяць) у губу | 6 |
| браць быка за рогі | 1 |
| браць грэх на сваю душу | 2 |
| браць з бою *што* | 1 |
| браць за горла *каго*; схапіць за горла *каго* | 3 |

| | |
|---|---|
| браць за жабры *каго* | 4 |
| браць на буксір *каго* | 1 |
| браць на мушку *каго* | 1 |
| браць на прыцэл *што* | 1 |
| браць на сябе *што* | 2 |
| браць прыклад *з каго* | 1 |
| браць сабе ў галаву *што* | 1 |
| будзь здароў; будзьце здаровы | 2 |
| будзь ласкаў | 1 |
| бузу вадзіць | 2 |
| бузу церці | 1 |
| бывай (-це) здароў (-вы) | 5 |
| бярозавая каша | 1 |
| ва ўпор | 10 |
| ва ўсякім (у кожным) выпадку | 7 |
| ва ўсякім (у кожным ) разе | 45 |
| *стаць, станавіцца* ва фрунт | 2 |
| вадзіць за нос *каго* | 2 |
| вадой не разальеш *каго* | 2 |
| вазіць ваду *на кім* | 1 |
| валасы становяцца дыбам *у каго* | 3 |
| валіць з ног *каго* | 1 |
| валяць дурня | 1 |
| варочаць (перавярнуць) горы | 4 |
| варушыць (паварушыць) мазгамі | 4 |
| ваш брат | 3 |
| ваш пакорны слуга | 1 |
| ведай (знай) нашых! | 4 |
| ведаць (знаць) меру | 3 |
| ведаць сабе цану | 2 |
| ведаць сваё месца | 4 |

| | |
|---|---|
| ведаць толк *у чым* | 2 |
| ведаць цану *каму, чаму* | 4 |
| век-вяком | 2 |
| верай і праўдай *служыць* | 1 |
| вецер гуляе ў кішэнях *у каго* | 1 |
| вецер у галаве *ў каго* | 3 |
| вечная памяць *каму* | 1 |
| вешацца на шыю *каму* | 1 |
| вешаць (апускаць) нос (насы); павесіць (апусціць) нос (насы) | 14 |
| вешаць (павесіць) галаву (галовы) | 4 |
| віляць хвастом | 1 |
| вісець між небам і зямлёй | 1 |
| вісець на хвасце *ў каго* | 1 |
| вісець над галавой *каго* | 1 |
| вока на вока | 3 |
| вокам не міргнуў | 1 |
| воляй-няволяй | 2 |
| востры на язык | 2 |
| востры язык | 1 |
| вось <яно> што! | 4 |
| вось <яно> як! | 9 |
| вось бачыш (-це)! | 5 |
| вось дык так! | 3 |
| вось і ўсё | 12 |
| вось табе <і> маеш! | 2 |
| вось табе і раз! | 6 |
| вось то-та ж | 1 |
| вось яшчэ! | 1 |
| вось-вось (во-во, вот-вот) | 74 |
| воўчае лыка | 1 |
| воўчае мяса | 3 |

| | |
|---|---|
| вочная стаўка | 3 |
| вочы зліпаюцца *ў каго* | 2 |
| вочы на лоб лезуць (вылезуць, палезлі) *у каго* | 6 |
| вочы на мокрым месцы *ў каго* | 1 |
| вочы павылазілі <на лоб> *у каго* | 3 |
| выбівацца (выбіцца) з сіл (-ы) | 6 |
| выбівацца (выбіцца) у людзі | 4 |
| выбіваць (выбіць) глебу з-пад ног *каго, чыіх* | 3 |
| выбіваць (выбіць) з каляіны *каго* | 5 |
| выбіты з каляіны | 1 |
| выбываць (выходзіць) са строю; выбыць (выйсці) са строю | 14 |
| вывесці ў людзі *каго* | 6 |
| вывесці ў свет *каго* | 2 |
| выводзіць (вывесці) на дарогу *каго* | 4 |
| выводзіць (вывесці) са строю *што* | 17 |
| выганяць сем патоў *з каго* | 1 |
| выдаваць (выдаць) сябе | 8 |
| выедзенага яйка *не варты* | 1 |
| выесці вочы *каму* | 1 |
| выжываць (выжыць) з розуму | 4 |
| выйсці ў людзі | 4 |
| выкідаць на сметнік *каго* | 1 |
| выкінуць з галавы *што* | 2 |
| выкінуць з сэрца *каго* | 1 |
| выкінуць на вецер *грошы* | 1 |
| выкінуць на вуліцу | 1 |
| вылазіць (выходзіць) бокам *каму*; выйсці бокам *каму* | 8 |
| вылецець у трубу | 2 |
| вылузвацца са скуры | 4 |
| вымаць душу (духі) *з каго* | 3 |
| вымотваць (выматаць) душу (духі) *каму* | 3 |
| вымотваць жылы | 1 |
| вынесці ногі *ад каго* | 1 |
| выносіць (вынесці) на сваіх плячах *што* | 3 |
| вынь ды палож | 1 |
| выплакаць (праплакаць) <усе> вочы | 5 |
| выпусціць з рук *каго* | 3 |
| выпусціць кішкі | 1 |
| выпусціць у свет *што* | 1 |
| вырваць з горла *што ў каго* | 1 |
| вырываць з коранем *што* | 1 |
| высалапіць язык | 1 |
| выскаляць зубы | 1 |
| выставіць напаказ *што* | 1 |
| высунуць нос *адкуль* | 2 |
| вытрасці душу *з каго* | 2 |
| вытрымаць характар | 1 |
| выхад са строю *чаго* | 2 |
| выхад у свет | 1 |
| выходзіць (выйсці) на дарогу <якую> | 7 |
| выходзіць (выйсці) у свет | 2 |
| выходзіць з сябе | 3 |
| выціскаць сокі *з каго* | 1 |
| выціснуць слязу | 1 |
| выцягвацца (выцягнуцца) у струнку | 19 |
| выцягнуць (працягнуць) ногі | 3 |
| выцягнуць жылы *з каго* | 1 |
| выцягнуць за вушы *каго* | 1 |
| вышэй галаву | 1 |

вялікае сэрца *ў каго* 1
вялікай душы 1
вялікая бяда 1
вярцелася на языку *ў каго* 1
вярэдзіць душу *каму* 6
вярэдзіць раны *каму, чые* 4
гад падкалодны 1
гад печаны 4
гады ў рады 1
галава балела *каму па кім* 3
галава забіта *ў каго чым* 1
Галава кружыцца (закружылася) *у каго* 14
галоўным чынам 9
гарачая галава *ў каго* 1
гарэла ў руках *у каго* 3
гладзіць (пагладзіць) па галоўцы *каго* 6
глытаць словы 1
глядзець вачамі (-ыма) *каго на што* 3
глядзець (глянуць) у корань 2
глядзець другімі вачамі (вокам) *на каго, на што* 4
глядзець зверху ўніз *на каго* 3
глядзець коса *на каго, на што* 2
глядзець праўдзе ў вочы 1
глядзець скрозь пальцы *на што* 2
глядзець у вочы *каму, чаму* 19
глядзець у зубы *каму* 1
глядзець у лес 1
глядзець у рот *каму* 2
глядзі (-це) у мяне! 15
глядзі ты! 19
гнуць <сваю> спіну (шыю) *перад кім* 5
гнуць сваю лінію 3
гнуць сваю спіну 1
гол як сакол 1
голымі рукамі 10
горш горкай рэдзькі 1
грош цана *каму* 1
грэбці пад сябе *што* 1
грэць (пагрэць) рукі *на чым* 2
грэшным дзелам (чынам) 9
губляць (траціць) галаву 7
гульня з агнём 1
гуляць у жмуркі 8
гуляць у ката і мышку 1
гуляць у маўчанку 2
гусіныя лапкі 2
гэтага яшчэ не хапала 1
гэты свет 11
гэтымі днямі 6
да <апошняй> ніткі 8
*дагаспадарнічацца* да абуха 1
да адказу *набіць* 1
*усе* да аднаго 2
да апошняга 5
да апошняга дыхання (уздыху) *біцца* 3
да апошняй кроплі крыві *змагацца* 4
да вар'яцтва 1
да вашых паслуг 3
да ветру *хадзіць* 1
да глыбіні душы *абурацца, усхваляваны, пакрыўджаны* 3
да гонару 2

| | |
|---|---|
| *прыйсціся* да густу | 1 |
| да дна | 1 |
| да д'ябла | 14 |
| *усе* да душы | 1 |
| да зарэзу *патрэбна* | 8 |
| да зубоў *узброены (-ая)* | 16 |
| да капейкі | 1 |
| да касцей | 4 |
| да ладу | 22 |
| да ліха | 3 |
| да магілы | 2 |
| да месца | 10 |
| да пары да часу | 19 |
| да паўсмерці *збіць* | 1 |
| *дагаспадарнічацца, даваявацца, давесці* да ручкі | 5 |
| да сёмага (дзесятага) поту | 8 |
| да слова <сказаць > | 14 |
| да слова прыйшлося | 4 |
| да тварy *каму* | 6 |
| да чорта | 1 |
| да чорцікаў | 1 |
| давацца (дацца) у знакі (у знак) *каму* | 38 |
| давацца (дацца) у рукі *каму* | 3 |
| даваць (даць) волю | 14 |
| даваць перцу *каму* | 1 |
| даваць (даць) рады | 33 |
| даваць (даць) волю | 14 |
| даваць (даць) знаць *каму* | 5 |
| даваць (даць) копаці *каму* | 6 |
| даваць (даць) слова *каму* | 3 |
| даваць (даць) ход | 4 |
| даваць (даць) ходу *адкуль, куды* | 7 |
| даваць галаву на на адсячэнне | 1 |
| даваць драла | 1 |
| даваць (даць) драпака | 2 |
| даваць дыхту; даць (задаць) дыхту | 5 |
| даваць (даць) жару | 3 |
| даваць знаць аб сабе | 1 |
| даваць па руках *каму* | 1 |
| даваць (даць) пытлю *каму* | 2 |
| даваць сябе знаць | 2 |
| даваць чосу *каму* | 1 |
| дагары нагамі | 1 |
| дай <ты> рады; дайце <вы> рады | 19 |
| дай бог (божа) | 27 |
| дай бог (божа) кожнаму | 6 |
| далей ад граху | 6 |
| далей некуды | 3 |
| далёка не заедзеш (не паедзеш) | 3 |
| далёка хадзіць не трэба | 1 |
| дамоклаў меч | 1 |
| дарогі адрэзаны (закрыты) *каму куды* | 3 |
| дарогі разышліся *каго* | 1 |
| даруй божа | 18 |
| даўно б так | 2 |
| дах над галавой | 1 |
| даходзіць (дайсці) да ладу | 4 |
| даць асечку | 1 |
| даць (задаць) лататы | 15 |
| даць здачы *каму* | 1 |
| даць ляшча *каму* | 5 |
| даць маху | 1 |

| | |
|---|---|
| даць па зубах *каму* | 1 |
| даць па карку *каму* | 3 |
| даць трэшчыны | 1 |
| даць фору *каму* | 1 |
| дзверы адчынены *перад кім* | 2 |
| дзе <ты> бачыў; дзе <вы> бачылі | 18 |
| дзе <ты> дзенешся | 7 |
| дзе былі вочы *чые* | 9 |
| дзе гэта відана | 18 |
| дзе наша не прападала | 1 |
| *пазнаць* дзе ракі зімуюць | 1 |
| дзе там! | 49 |
| дзень добры!; добры дзень! | 40 |
| дзень за днём | 4 |
| дзень пры дні | 4 |
| дзесятаму заказаць | 12 |
| дзіва што! | 20 |
| дзіву давацца | 8 |
| дзіўная справа | 2 |
| дзякаваць богу | 26 |
| дзякуй богу | 17 |
| дзякую за ласку | 1 |
| дзяцей не хрысціць *з кім* | 1 |
| для (дзеля) прыліку | 38 |
| для адводу вачэй | 4 |
| днём з агнём *не знойдзеш, не знайсці, не напаткаеш* | 5 |
| добры вечар! | 2 |
| доўга не думаючы; не доўга думаючы | 10 |
| доўгі язык | 2 |
| драць (задзіраць) нос; задраць нос | 9 |
| драць (здзіраць) скуру *з каго* | 4 |
| драць горла | 1 |
| другім (іншым) разам | 19 |
| дрэнна ляжала | 1 |
| дубовая галава | 1 |
| дулю з маслам | 3 |
| дурны поп хрысціў *каго* | 1 |
| дурыць (чмурыць) галаву *каму* | 6 |
| дух вон *з каго* | 4 |
| дух вылеціць *з каго* | 2 |
| душа (сэрца) баліць *у каго* | 3 |
| душа (сэрца) не ляжыць *чыя, у каго* | 3 |
| душа вон *з каго* | 1 |
| *чаго* душа зажадала | 1 |
| душа не прымае *чыя чаго* | 1 |
| душа радуецца *чыя* | 2 |
| душа рвецца *чыя* | 1 |
| душа ў душу *жыць* | 1 |
| душа ў пяткі схавалася *ў каго* | 1 |
| душой і целам | 6 |
| дый (ды і) годзе | 2 |
| дым каромыслам ішоў | 1 |
| дыхаць (дыхнуць) не даваць *каму* | 2 |
| дыхаць вольна | 3 |
| дыхнуць няма калі *каму* | 1 |
| егіпецкая кара | 2 |
| ездзіць на карку *чыім* | 1 |
| есці поедам *каго* | 1 |
| есці хлеб | 2 |
| ёлкі зялёныя | 2 |
| ёлкі-палкі | 3 |
| ёсць <свая> галава на плячах *у каго* | 2 |

| | |
|---|---|
| ёсць бог на свеце | 1 |
| жартаваць з агнём | 1 |
| жарты жартамі | 1 |
| жарты ўбок | 1 |
| жывога месца не пакінуць *на кім* | 2 |
| жывое слова | 9 |
| жыўцом з'есці *каго* | 2 |
| жыць сваім розумам | 1 |
| жыць чужым розумам | 1 |
| з аганьком *выкладаць, паставіцца* | 2 |
| з аглядкай | 1 |
| з аднаго маху | 2 |
| з апошніх(астатніх) сіл | 16 |
| з апошняга | 1 |
| з бляскам | 1 |
| з богам | 4 |
| з вачэй (з воч, з вока) | 12 |
| з вачэй далоў | 1 |
| з веку ў век | 4 |
| з вока на вока | 8 |
| з вуха на вуха *перадаваць* | 1 |
| з выгляду | 5 |
| з выпадку | 2 |
| з вышыні птушынага палёту | 1 |
| з вялікай дарогі | 1 |
| з гадзіны на гадзіну *чакаць* | 1 |
| з гакам | 1 |
| з галавой | 8 |
| *знікаць* з гарызонта | 1 |
| з глыбіні душы | 2 |
| з году ў год | 10 |
| з голымі (пустымі) рукамі | 9 |
| з горам папалам | 1 |
| з дарогі | 12 |
| з дня на дзень | 5 |
| з другога цеста | 1 |
| з завязанымі вачамі | 1 |
| з іголачкі | 2 |
| з канца ў канец | 7 |
| з капейкамі | 2 |
| з краю ў край | 1 |
| з кута ў кут | 6 |
| з лап *вырвацца* | 1 |
| з ласкі | 5 |
| з мазаля *жыць* | 5 |
| з мінуты на мінуту; з хвіліны на хвіліну *можна спадзявацца, чакаць* | 2 |
| з мухамі ў носе | 1 |
| з мясам *вырваць, здзіраць* | 2 |
| з нагі на нагу | 25 |
| з налёту | 1 |
| *пайсці, заставацца* з носам | 2 |
| з парога | 2 |
| з паўслова *разумець* | 1 |
| з першага позірку | 1 |
| з першых крокаў <*чаго*> | 3 |
| з плеч далоў | 1 |
| з пункту гледжання (погляду) | 8 |
| з пялёнак | 1 |
| з п'яных вачэй (воч) | 4 |
| з распасцёртымі рукамі *сустракаць* | 1 |
| з розумам | 3 |

